Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 21 (4616) 27 мая 2011 г.

## У нумары:





# Легендарны Курган

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

**Голас, які ўваходзіў у кожны дом: са строгімі афіцыйнымі паведамленнямі, добрымі навінамі. Голас, які нёс культуру беларускага літаратурнага вымаўлення. Голас, які раскрываў водар ды каларыт і выяўляў сэнсавую глыбіню мастацкага слова. Самадастатковы голас, які без касцюма, дэкарацый, без пластыкі мізансцэн і візуальных эфектаў ствараў ва ўяўленні радыёслухача зрокава выразны, па-тэатральнаму акрэслены, вобраз... Голас Яго Высокасці Кургана, які ўчора сустрэў свой восемдзесят пяты дзень нараджэння, цяпер гучыць у студэнцкіх аўдыторыях, у асяроддзі калег, у кампаніі з былымі вучнямі, сябрамі, родзічамі. А сяды-тады і ў эфіры: балазе, ёсць фондавыя радыёзапісы, а сам легендарны Майстар не адмаўляецца пагутарыць перад мікрафонам.**



Жорсткая рэч — энцыклапедыі: у двухтомніку "Тэатральная Беларусь" дзейнасці заслужанага артыста БССР, прафесара Ільі Кургана (жывой легенды ў асяроддзі нашай мастацкай інтэлігенцыі!) прысвечаны толькі 24 радкі. Аднак і за імі ўважлівы чытач, безумоўна, убачыць магутную Асобу, яркі лёс.

Сціплая біяграфічная даведка паведамляе, што ён — акцёр, дыктар радыё і педагог — нарадзіўся 26 мая 1926 года ў Барысаве; у 1949-м скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут і з таго часу, аж да 1998 года, працаваў на Беларускім радыё. Быў акцёрам і дыктарам. Пэўны час узначальваў дыктарскую групу — у якасці яе галоўнага рэжысёра. Адначасова, з 1959 года, спрычыніўся да выкладчыцкай дзейнасці ў родным інстытуце.

Лаканічная творчая візітоўка нагадвае назвы тых радыёспектакляў, фондавых запісаў для фанатэкі ды на грампласцінках, дзе выявілася майстэрства Ільі Кургана як акцёра, чытальніка, выканаўцы-інтэрпрэтатара вобразаў беларускай літаратурнай класікі. Гэта Купалавы "Прымакі" і "Сцяг брыгады" Аркадзя Куляшова, "Палянўнічае шчасце" Эдуарда Самуйлёнка і "Скіп'ёўскі лес" Кузьмы Чорнага, "Дзясяты падмурак" Паўлюка Труса, хрэстаматыйныя паэмы Янкі Купалы і Якуба Коласа, Багдановічавы вершы...

Для некалькіх пасляваенных пакаленняў нашых землякоў менавіта з перадачамі радыё звязаныя самыя раннія музычныя, літаратурныя, тэатральныя ўражанні. Як і мае шматлікія аднагодкі, я з маленства, і міжволі, спрычынялася да вяшчання агульнадаступных, а таму і папулярных радыёкропак. Слухала спевы беларускіх оперных зорак. Вылучала ў эфіры непаўторныя інтанацыі знакамітых артыстаў-купалаўцаў: Глеба Глебава, Лідзіі Ржэцкай... Без дадатковай абвесткі пазнавала і голас Ільі Кургана — дыктара, артыста, сцэнай для якога стаў бязмежны эфір. Праз колькі гадоў мне пашчасціла супрацоўнічаць з яго жонкай, Ірынай Андрэевай (рэжысёр Беларускага радыё, яна з вялікім густам, адчуваннем жанру і мастацкай далікатнасцю ажыццяўляла студыйныя запісы музычна-літаратурных кампазіцый ды спектакляў, да якіх даволі часта пісаць сцэнарыі). У свой час было цікава сачыць за першымі яркімі крокамі на вялікай тэатральнай сцэне сына Ільі Львовіча — акцёра Уладзіміра Кургана. І заўсёды захаплялі расповеды пра самога Майстра.

Ды вось асабістаму майму знаёмству з Ільёй Курганам лёс не паспрыяў. Але калі б і паспрыяў, я са шчырым захапленнем працягвала б гэтае знаёмства, "услухоўваючыся" ў партытуру голасу Ільі Кургана — дзівосную музычную партытуру без нот, з якой можна параўнаць старонкі доўгачаканай кнігі, прысвечанай яму.

Так, літаральна за некалькі дзён да 85-годдзя Майстра пабачыла свет кніга "Залаты голас Беларусі. Ілья Курган". Манаграфія, напісаная на рускай мове, выдадзена "Белпрынтам" у колькасці 300 асобнікаў. А хто ж яе аўтар, які хаваецца пад рамантычна-загадкавым псеўданімам "Дэльфіна"? Вучаніца Ільі Львовіча, якая 16 гадоў падтрымлівае з ім рэдкасныя, даверальныя стасункі. Пісьменніца (заўважная прадстаўніца маладога папаўнення СПБ), журналіст, перакладчык, драматург. Выпускніца БДУ культуры і мастацтваў па спецыяльнасці "рэжысёр дакументальнага кіно", якой у гады студэнцтва пашчасціла не толькі спрычыніцца да бясцэнных урокаў Ільі Кургана па сцэнічнай мове, але і засвоіць яго ненадакучлівыя ўрокі жыцця ў творчасці, навуку дабрыні, чалавечнасці; праз уласны досвед спасцігнуць унікальную і невытлумачальную, мудрую простасць і спагаднасць у стасунках, уласцівых мінскай інтэлігенцыі. Сапраўднае імя пісьменніцы Дэльфіны добра знаёмае чытачам "ЛіМа", бо гэта наш актыўны пазаштатны аўтар — Алена Мінчукова.

> *Сёння Ілья Курган выкладае ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў і БДУКіМ, кансультуе купалаўцаў і артыстаў Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі. І перакананы, што без працы ў такім узросце ён проста не вытрываў бы выпрабаванняў, якія перажыло яго спакутаванае сэрца.*

Кніга здатная захапіць не толькі чалавека з пэўнага прафесійнага асяроддзя, бо ў ёй ёсць сапраўдны герой свайго часу, індывідуальнасць, як цяпер кажуць, крэатыўная і харызматычная, з багатым унутраным светам і жыццёвым досведам. Ілья Курган, пра якога А. Мінчукова піша са шчырым піетэтам і ўдзячнасцю да Настаўніка, раскрываецца не толькі як "рарытэт з Чырвонай кнігі". Гэта наш сучаснік, выдатны апавядальнік, надзелены рэдкасным адчуваннем слова, здатны выказвацца трапна, дасціпна, афарыстычна. Крытычна. І з мудрай самаіроніяй. Адмысловая драматургія манаграфіі грунтуецца на "трох кітах". У падраздзелах "Маналога" І. Курган распавядае пра бацькоў — Льва Ільіча Эйдэльмана з-пад Плешчаніц і Хасю Аронаўну Курган з Лагойска, чыё сямейнае жыццё пачыналася ў Барысаве; пра свае мінскае дзяцінства; пра гады вайны. Пра студэнцтва і знаёмства з будучай жонкай. Пра гісторыю змены свайго прозвішча і мастацтва быць "голасам мільёнаў". Пра вялікіх артыстаў Дзмітрыя Арлова і Віктара Тарасава... "П'еса на дваіх", у дзеях якой прысутнічаюць, напрыклад, Сірано дэ Бержэрак, Князь Мышкін і Дзядзька Ваня, уяўляе сабой адмысловы, можна сказаць, фантасмагарычны дыялог-гульню героя і аўтара кнігі. "Мой Курган" складаецца з выказванняў, лістоў, назіральных нататак некалькіх дзясяткаў людзей. Сярод іх і яшчэ адна колішняя вучаніца Майстра — актрыса Алена Унукава, якая брала дзейсны ўдзел у выданні манаграфіі "Залаты голас Беларусі. Ілья Курган".

Захапляльнае чытанне новай кнігі — як адкрыццё. Адкрыццё чаго? Мудрасці, душэўнай велічы зямнога чалавека, немаладога, прыгнечанага хваробамі ды самотным побытам, які з вышыні свайго ўзросту і досведу можа заўважыць, што "людзей шмат, а чалавекаў малавата", аднак прытым "падтрымаць цяжкі крыж на чужых плячах", адным толькі словам ды добрым позіркам сагрэць чыёсьці сэрца ....

*Днямі плануецца правесці прэзентацыі кнігі з удзелам яе героя: 31 мая — у Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў, 2 чэрвеня — у Рэспубліканскім тэатры беларускай драматургіі.*

## Пункцірам

Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Расіі Мікалая Досталя з 65-годдзем. "Упэўнены, што і ў далейшым ваша дзейнасць будзе захапляць і аб'ядноўваць людзей, садзейнічаць развіццю культурных сувязей Беларусі і Расіі", — адзначаецца ў віншаванні.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь знаным акцёрам Рэспубліканскага тэатра беларускай драматургіі нададзены ганаровыя званні: Таццяна Мархель стала народнай артысткай, а Ігар Сігаў — заслужаным артыстам Рэспублікі Беларусь. Званне народнага артыста Беларусі атрымаў таксама і акцёр Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы Віктар Манаеў.

Прынята рашэнне аб абвяшчэнні ў Мінску гарадскога конкурсу на стварэнне сімвала, які ўвекавечыць памяць ахвяр выбуху ў метро 11 красавіка. Пакуль што, на саракавы дзень трагедыі, ля ўвахода на станцыю "Кастрычніцкая" ўсталяваны часовы памятны знак, які будзе знаходзіцца тут да гадавіны тэракта.

Музейны квартал па аналогіі з Маскоўскім, Венскім і Амстэрдамскім будзе пабудаваны ў Мінску ў 2011—2017 гадах. Канцэпцыя яго стварэння адобрана кіраўніцтвам краіны. Квартал узнікне на базе Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі па перыметры вуліц Кірава, Леніна, Маркса. У ім будуць адкрыты таксама разнастайныя кафэ і крамы.

Беларускія вучоныя разам з архітэктарамі плануюць узнавіць гістарычнае аблічча аднаго з самых вядомых айчынных помнікаў архітэктуры — Барысаглебскай (Каложскай) царквы. Старажытны будынак плануецца рэканструяваць такім чынам, каб вярнуць яму той выгляд, які ён меў у XII стагоддзі.

У Вільнюсе ў межах III Міжнароднай навуковай канферэнцыі "Мова і міжкультурныя камунікацыі" адбылася цырымонія святкавання 20-годдзя стварэння пры ўніверсітэце Цэнтра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры. У цырымоніі ўзяў удзел Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Літве Уладзімір Дражын.

Радыёверсію спектакля "Тутэйшыя" Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы да 130-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы і 90-годдзя з дня напісання п'есы прадстаўляе Першы нацыянальны канал Беларускага радыё. У праекце "Тэатр Беларускага радыё" першая частка твора прагучала 21 мая, а другая будзе перадавацца 28 мая ў 21.00.

Першае месца і спецыяльны прыз Асацыяцыі акардэаністаў ва ўзроставай групе да 15 гадоў атрымаў выхаванец Магілёўскай гімназіі-каледжа мастацтваў па класе баяна Міхаіл Валчкоў на Міжнародным конкурсе акардэаністаў і баяністаў у нямецкім Клінгентале. Па прэстыжнасці і значнасці з гэтым конкурсам можа спаборнічаць толькі форум музыкантаў "Кубак свету".

Падрыхтавала
Ірына АЛЯКСАНДРАВА

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

Анатоль МІКАЛАЕЎ

# Слова, якое яднае

**Міжнародны фестываль рускай паэзіі, прысвечаны Дням славянскага пісьменства і культуры, прайшоў у горадзе над Бугам. Яго арганізатарамі па традыцыі выступіла Рэспубліканскае грамадскае аб'яднанне "Рускае грамадства" (старшыня — С. Моладаў) пры падтрымцы Саюза пісьменнікаў Беларусі, Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь і Генеральнага консульства Расійскай Федэрацыі ў Брэсце.**

У літаратурным мерапрыемстве ўзялі ўдзел паэты і пісьменнікі з усіх абласцей Беларусі, а таксама літаратары з Расіі і іншых краін СНД. У ліку знакамітых гасцей — Іван Сабіла, сакратар Выканкама Міжнароднай супольнасці пісьменніцкіх саюзаў, Фёдар Чарапанаў, галоўны рэдактар літаратурнага часопіса "Братина" (Масква), Генадзь Пашкоў, першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі, Ніна Чайка, першы намеснік галоўнага рэдактара часопіса Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы "Белая вежа", Анатоль Аўруцін, галоўны рэдактар часопіса "Новая Немига литературная" і многія іншыя.

Фестываль "высокага слова" ў Брэсце ўжо чацвёрты па ліку. Усе яны пакінулі прыкметны, важны след у культурным жыцці Беларусі, адкрылі дарогу маладым талентам, далі новы зарад творчасці рускім літаратарам, атрымалі шырокі міжнародны рэзананс. Па выніках фестываляў выпушчаны паэтычныя зборнікі "Сугучча слоў жывых".

Важны складнік мерапрыемства — рэспубліканскі літаратурны конкурс маладых паэтаў і празаікаў "Мы народжаныя для натхнення". Ён праводзіўся ў дзвюх намінацыях: "Руская паэзія" і "Малая проза". На фінальны тур у Брэст прыехалі пераможцы адборачных конкурсаў з усіх рэгіёнаў Беларусі. Аўтарытэтнае міжнароднае журы вызначыла лепшых з лепшых. У намінацыі "Проза" месцы размеркаваліся наступным чынам: Таццяна Снегірова з Магілёва стала першай, Таццяна Дземідовіч з Брэста — другой, а Дзіяна Грышукевіч з Мінска на трэцім месцы. У намінацыі "Паэзія" перамогу святкавалі Кірыл Котаў з Гродна, Таццяна Атрашэнка з Мінска і Вольга Астапенка з Добруша (Гомельская вобласць), а ў намінацыі "Лепшае прачытанне" — Вікторыя Зайцава. Нарэшце, прыз глядацкіх сімпатый атрымаў Андрэй Чапялюк з Гродна.

У рамках фестывалю адбыўся творчы вечар "Сустрэча натхненняў", былі арганізаваны майстар-класы для маладых удзельнікаў літаратурнага конкурсу, а таксама экскурсіі і творчыя сустрэчы з навучэнскай моладдзю і грамадскасцю Брэста.

У завяршэнне фестывалю яго арганізатары, прытрымліваючыся ўсталяванай традыцыі, наладзілі ў канферэнц-зале Брэсцкага гарвыканкама грандыёзнае свята рускай паэзіі "Ёсць сіла дабратворная ў сугуччы слоў жывых", падчас якога ўручаліся заслужаныя ўзнагароды лепшым маладым аўтарам, гучалі вершы і прывітанні. Удзел у ім узялі прадстаўнікі дыпкорпуса Расіі і абласканкама.

## За падзеяй

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

# Спыненыя імгненні Яўгена Коктыша

**Калектыўны партрэт — "Песняры", маладыя, вясёлыя, яшчэ з Мулявіным… Лілія Давідовіч у каралеўскім адзенні і на троне… Асветнік Адам Мальдзіс на фоне скульптуры асветніка Скарыны… Быкаў, Сульянаў, Адамовіч — разам, летапісцы вайны… Яўгенія Янішчыц — зусім не тая дзяўчынка, якой яна засталася ў нашай памяці. Сталая жанчына, прыгожая, натхнёная… Фотаработы Яўгена Коктыша падобныя да карцін. Мастацкасць іх сёння дададзена аценіць кожнаму, хто завітае ў Дом літаратара, дзе разгарнулася выстаўка фотамайстра.**



Усяго 50 фотаздымкаў. Няшмат, улічваючы агромністыя фотаархівы Яўгена Фаміча. Але і ў такім выглядзе выстаўка ўражвае. Бо з фотакартак на нас глядзяць людзі, якія сталі легендамі. Многія з іх ужо сышлі ад нас. Іншыя, на шчасце, жывыя і працягваюць плённа працаваць у мастацтве. Але выпадковых асоб сярод абраных фотамастаком няма. Тыя, чые партрэты ён прадставіў на гэты раз публіцы, безумоўна ўпісалі сваё імя ў гісторыю Беларусі.

Выступаючы на адкрыцці выстаўкі, міністр культуры Беларусі Павел Латушка выказаўся: "Я не ведаю, што такое фотаздымак, але я думаю, што гэта факт гісторыі, які ўжо нельга змяніць". І прызнаўся ў тым, што ідэя стварэння падобнай выстаўкі прыходзіла і да работнікаў міністэрства культуры. Але Саюз пісьменнікаў Беларусі, запрасіўшы Яўгена Коктыша размясціць свае фотаработы ў холе Дома літаратара, апярэдзіў. Адзін з самых шанаваных жывапісцаў Беларусі Георгій Паплаўскі сказаў, што творчасць Коктыша прадстаўляе наш народ, даючы магчымасць пазнаёміцца з лепшымі яго прадстаўнікамі і прапанаваў міністэрству набыць гэтыя работы ў аўтара як значную мастацкую і культурную каштоўнасць. Спантанная прапанова была прынята. Яшчэ адной прыемнай нечаканасцю для Яўгена Фаміча ў гэты дзень стала ўзнагароджанне яго Граматай Саюза пісьменнікаў Беларусі — "за вялікія творчыя дасягненні і за дружбу з пісьменнікім светам".

***На здымку: міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка, старшыня СПБ Мікалай Чаргінец і Яўген Коктыш на адкрыцці выстаўкі.***

## Стасункі

# Раўненне на культуру

Юзэфа ВОЎК

**У Цэнтральным Доме афіцэраў адбылася сустрэча міністра абароны Рэспублікі Беларусь генерал-лейтэнанта Юрыя Жадобіна з прэзідыумам Рэспубліканскай камісіі па шэфстве работнікаў культуры і мастацтва над асабовым саставам Узброеных Сіл, кіраўнікамі творчых саюзаў і арганізацый Беларусі. Падчас сустрэчы былі падведзены вынікі супрацоўніцтва, а таксама за "круглым сталом" абмеркаваны перспектыўны план работы камісіі на 2011—2012 гг.**

"У нашай краіне, у тым ліку і сярод прадстаўнікоў інтэлігенцыі, існуе ўстойлівае ўяўленне пра армію як пра нейкую прымітыўную структуру. Насамрэч сучаснае войска — найноўшыя тэхнічныя магчымасці, заснаваныя на дасягненнях навукі, гэта высокаінтэлектуальная зброя, але ў першую чаргу армія — ваеннаслужачыя, здольныя кіраваць гэтымі сістэмамі", — падкрэсліў міністр абароны ў сваім выступленні. Пры звароце да тэмы сучаснай арміі таксама варта ўлічваць, што да 20 працэнтаў ваеннаслужачых маюць вышэйшую адукацыю, іх асабістыя інтарэсы выходзяць далёка за межы пытанняў вайсковай падрыхтоўкі. Таму сярод першачарговых задач узаемадзеяння работнікаў культуры і вайскоўцаў — раскрыццё мастацкага вобраза сучаснага салдата, паказ ролі чалавека ў сістэме забеспячэння ваеннай бяспекі, зварот да магчымасцей праяўлення геразіму ў сённяшнім на першы погляд "постгераічным" свеце.

У сваім выступленні Юрый Жадобін запрасіў усіх жадаючых работнікаў культуры і мастацтва прыняць удзел у падрыхтоўцы новых перспектыўных сацыякультурных праектаў, выпуску літаратурна-мастацкіх зборнікаў, стварэнні новых кінафільмаў, скіраваных на фарміраванне высокай духоўнай культуры.

## Прэзентацыі

# З любоўю да гісторыі

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА

**2011 год — юбілейны для Генрыка Сянкевіча. У маі — 165-годдзе з дня нараджэння вялікага майстра, у лістападзе — 95-я гадавіна з дня яго сыходу. Прэзентацыя кніжнай выстаўкі "Летапісец гісторыі Польшчы", падрыхтаванай аддзелам рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі сумесна з Польскім інстытутам у Мінску, аказалася дарэчы.**

Прэзентацыя выстаўкі "Летапісец гісторыі Польшчы", цэнтральнае месца ў якой адведзена прыжыццёвым выданням твораў Сянкевіча (сярод іх такія рэдкія, як, напрыклад, "Патоп" у перакладзе на рускую мову Ф. Дамброўскага, выдадзены ў 1890 годзе ў Санкт-Пецярбургу, кнігі Сянкевіча са штампамі бібліятэкі Радзівілаў у Нясвіжы, Дабрачыннага таварыства дапамогі бедным рымска-каталіцкага веравызнання ў Маскве, Рускага кніжнага гандлю А. Сыркіна), распачалася дэманстрацыяй фільма пра творчасць аўтара, падрыхтаванага супрацоўнікамі бібліятэкі.

Саветнік Пасольства Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь, намеснік дырэктара Польскага Інстытута ў Мінску Веслаў Раманоўскі прадставіў прысутным зборнік з артыкулам прапраўнука пісьменніка, падзяліўся ўспамінамі пра сустрэчы з нашчадкамі славутага аўтара. Дацэнт БДУ Міхась Кенька спыніўся на пытаннях перакладу твораў Сянкевіча на беларускую мову і, між іншым, расказаў пра сваю працу над перакладам рамана "Крыжакі". Дацэнт БДУ Анатоль Верабей, параўноўваючы творчасць Сянкевіча і Караткевіча, шукаў моманты, якія збліжаюць кнігі двух майстроў гістарычнага жанру.

Што б мы там ні казалі, але беларуская гістарычная проза вырасла менавіта з раманаў Генрыка Сянкевіча, гэтага натхнёнага песняра польскага "сарматызму" і ліцвінскай удаласці. Яго проза пры ўсёй глыбіннай і, здаецца, безумоўнай польскасці, незвычайна блізкая беларусам. Без перабольшання можна сказаць, што Нобелеўская прэмія, атрыманая Сянкевічам у 1905 годзе, у пэўнай ступені можа складаць гонар і нашага народа.

Літабсягі

# Чарадзей, што стварыў «Вясёлку»

Ірына МАСЛЯНІЦЫНА,
фота Кастуся Дробава

**Стагодовы юбілей — гэта ўжо гісторыя. Але сярод нас так шмат людзей, якія памятаюць Васіля Вітку, працавалі з ім побач, былі яго вучнямі, вучыліся па яго кнігах, што любая размова пра творцу ўспрымаецца як размова пра сучаснасць, пра самыя надзённыя сучасныя праблемы, галоўная з якіх — выхаванне дзяцей. Бо менавіта дзеля гэтага і жыў Васіль Вітка, пісаў свае добрыя, цудоўныя кнігі. Менавіта дзеля гэтага і стварыў Вясёлку" — адзін з самых лепшых спачатку ў Савецкай дзяржаве, а цяпер — на постсавецкай прасторы часопіс для дзяцей.**

Краіна па заслугах ацаніла тое, што зрабіў пісьменнік. Яшчэ пры жыцці ён стаўся лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі. Прызналі класіка беларускай дзіцячай літаратуры і ў свеце, узнагародзіўшы міжнародным Ганаровым дыпломам імя Х. К. Андэрсена і ўнесшы яго імя ў Ганаровы спіс лепшых казачнікаў свету.

Да стогадовага юбілею любімага творцы быў падрыхтаваны шэраг цікавых мерапрыемстваў у Мінску, дзе жыў і працаваў Васіль Вітка, і на Случчыне, дзе ён нарадзіўся. Па-першае, сталічнай дзіцячай бібліятэцы № 6 было нададзена імя Васіля Віткі. Па-другое, аддзелам культуры Слуцкага райвыканкама і Слуцкай раённай сістэмай публічных бібліятэк была ініцыявана насычаная праграма IV Майскіх Віткаўскіх чытанняў. У яе ўключаны прэзентацыя кніжнай выстаўкі і інтэлектуальны марафон "Урокі Васі Вясёлкіна", вялікі вечар-ушанаванне земляка "Мая радзіма — Случчына" і гутарка на радыё "Весткі Случчыны", урачыстая закладка Алеі Памяці пісьменніка ў вёсцы Акцябр і юбілейныя мерапрыемствы ў бібліятэках раёна.

І ўрэшце, шыкоўны вечар памяці пісьменніка адбыўся сараннямі вясёлкаўцаў і пры ўдзеле Саюза пісьменнікаў Беларусі ў мінскім Доме літаратара. Вядучы, знакаміты беларускі пісьменнік Уладзімір Ліпскі, пазнаёміў прысутных з жыццёвымі настаўленнямі Васіля Віткі дзецям — а іх нядрэнна паслухаць і дарослым — "Любіце нашу зямлю да слёз; захавайце ў душы родную матчыну мову; паважайце старэйшых, тых, хто вядзе вас па жыцці за руку". І — саступіў месца на сцэне менавіта дзецям. Чыталі вершыкі Віткі выхаванцы дзіцячага садка "Ліхтарык". Скарала публіку юная спявачка Аня Атрошчанка. Слуцкая старшакласніца Аляксандра Ермакова прадставіла новую песню, напісаную на словы Міколы Мятліцкага і прысвечаную Васілю Вітку "Ён упрыгожыў свет"...

Гаворачы пра Васіля Вітку, дарослыя будуць успрымаць яго як мудраца, асветніка, руплівіца. Дзеці ж, пэўна, намалююць у сваім увасабленні вобраз добрага чарадзея, які размаўляе з жывёламі, чуе думкі раслін і ўмее ствараць над зямлёю вясёлкі.



На здымку: Уладзімір Ліпскі расказвае пра Васіля Вітку.

Артлінія

# Нетрадыцыйнае ў традыцыйным

Віктар ЗАЯЦ,
фота аўтара

**Сталічная мастацкая галерэя "Універсітэт культуры" прадставіла першую персанальную выстаўку графікі Надзі Букі "Нешта".**

Аўтарка нарадзілася ў Маладзечне, а першыя ўрокі малявання ёй даў бацька — графік Іван Смальякоў. Дзяўчына з дзяцінства брала ўдзел у разнастайных гарадскіх, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсах. У 1996 годзе Надзя Бука заняла першае месца ў міжнародным конкурсе "Дзеці свету малююць Іерусалім". Гэта кампазіцыя і цяпер захоўваецца ў галоўным музеі Ізраіля. Праз год Надзя стала стыпендыятам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Вучылася ў Маладзечанскім музычным вучылішчы імя М. Кл. Агінскага на аддзяленні дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Там яна азнаёмілася з мастацтвам выцінанкі. І як вынік, яе дыпломнай работай стала серыя ілюстрацый у гэтай тэхніцы да кнігі ўласных вершаў. Потым былі выкладанне дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва ў Красненскай школе Маладзечанскага раёна і вучоба на факультэце журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Чатыры гады таму Надзя Бука ў другі раз стала стыпендыятам спецыяльнага фонду Прэзідэнта Беларусі па падтрымцы таленавітай моладзі.

Падтэкст выстаўкі "Нешта" — нетрадыцыйнае ў традыцыйным. І гэта цалкам адпавядае работам як па сюжэтах, так і па тэхніцы выканання: традыцыйнае мастацтва выцінанкі Надзя Бука прадстаўляе нетрадыцыйнымі формамі. Яе сілуэты, выразаныя з паперы, існуюць у асобным свеце. Сюррэалістычныя вобразы і героі твораў апускаюцца на аркуш выдуманымі формамі і непадуладныя ніякай логіцы. Тонкім сімвалізмам і глыбокай філасофіяй дыхае кожная работа.

Усе кампазіцыі, выразаныя маленькімі нажніцамі з цэльнага аркуша паперы, уражваюць тонкасцю, далікатнасцю і дакладнасцю выканання. У іх гарманічна спалучаюцца такія віды мастацтва, як уласна выцінанка, калаж, сілуэт і аплікацыя. Непаўторны, арыгінальны стыль Н. Букі дазваляе кожнаму гледачу запоўніць сваім зместам фігуры ў кампазіцыях, далучыцца да яе фантастычнага свету. Свету, дзе мандарыны на снезе, цацачны мядзведзь гуляе чалавекам, а не наадварот, вожык займаецца медытацыяй на дне бутэлькі з тасолам, чацеры адмыслова звязаныя ў сусветным Сеціве, сімвалічная барацьба светлых і цёмных сіл... Адным словам, гэта — нешта!



*На здымку: Надзя Бука "Недзіцячыя гульні".*

Повязі

Віктар КАВАЛЁЎ,
фота аўтара

# Карыкатурны клімат

**У межах Дзён культуры Швецыі ў нашай краіне сярод шматлікіх іншых мерапрыемстваў у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адкрылася шведска-беларуская выстаўка карыкатуры "Сам-насам з кліматам". Яна арганізавана пры падтрымцы Шведскага інстытута (Стакгольм) і Пасольства Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь.**



Дырэктар Музея сучаснага выяўленчага мастацтва Наталля Шарангові зазначыла, што дадзены праект ажыццяўляўся ў многіх краінах свету і дайшоў да Беларусі. Тэматыка выстаўкі ў наш час вельмі актуальная і закранае праблемы экалагічныя і кліматычныя. Быў праведзены адкрыты конкурс, да якога далучыліся мастакі з розных рэгіёнаў нашай краіны. Сама выстаўка пашырае межы, здавалася б, такога звыклага жанру карыкатуры ў тым разуменні, як мы яе ўяўляем. Аўтары прадстаўленых работ займаюцца не толькі ўласна карыкатурай, а і афармленнем кніг, жывапісам, арт-аб'ектамі.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Швецыі ў Беларусі Стэфан Эрыксан адзначыў, што праблема экалогіі вельмі важная і хвалюе ўсіх жыхароў зямлі. Карыкатура паўстае спалучэннем сур'ёзных пытанняў з гумарам. Яна прымушае адначасова ўсміхнуцца і задумацца.

Са слоў мастацтвазнаўцы, куратара выстаўкі Вольгі Рыбчынскай, выстаўка "Сам-насам з кліматам", злучаючы класічны жанр карыкатуры з актуальнымі практыкамі і рознымі медыя (інсталяцыя, фатаграфія, калаж), становіцца асновай, фундаментам камунікацыі без межаў, у тым ліку моўных. Гэты праект, мэтай якога з'яўляецца абмеркаванне прынцыпаў устойлівага развіцця грамадства і распаўсюджванне ведаў пра экалагічныя праблемы, стартаваў у верасні 2010 года выстаўкай у Ісландыі, затым адбыўся на Балканах, у Малайзіі, Сірыі, Латвіі і Расіі.

У кожнай краіне, дзе праходзіла сумесная выстаўка, яна складалася з дзвюх частак і ўключала работы мясцовых мастакоў і шведскіх карыкатурыстаў. Такім чынам, выявы беларускіх і шведскіх аўтараў, сярод якіх Магнус Бард, Карын Сунвісан, Лувэ Антэль, Сяргей Волкаў, Алег Карповіч, Вольга Сазыкіна, Зоя Луцэвіч, склалі візуальны шэраг экспазіцыі, уздымаючы пытанні змен клімату.

Акрамя выстаўкі шведска-беларускай карыкатуры ў рамках праекта адбыўся шэраг іншых мерапрыемстваў. Так, прайшоў "круглы стол" на тэму "Клімат і мастацтва". У Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў шведская творца Карын Сунвісан правяла майстар-клас па карыкатуры. Мэтавай групай другога майстар-класа "Карыкатура. Комікс. Клімат" сталі навучэнцы мастацкіх каледжаў.

Застаецца дадаць, што ўвосень выстаўка "Сам-насам з кліматам" наведае Гомель, абвешчаны сёлета культурнай сталіцай Беларусі.

*На здымку: Хэлена Ліндхольм "Як школзіць Рональд МакДональд".*

З-пад пяра

У Мінску на доме па вуліцы Якуба Коласа, дзе жыў вядомы паэт-песеннік Аляксандр Лягчылаў, па хадайніцтве прыхільнікаў яго творчасці ўсталявана мемарыяльная дошка. Песні Лягчылава, якіх напісана больш як 300, з задавальненнем спяваюць ансамблі "Песняры", "Бяседа", дуэт Ядвігі Паплаўскай і Аляксандра Ціхановіча, многія іншыя эстрадныя калектывы і выканаўцы. Але ён быў не толькі паэтам. Працаваў у Міністэрстве народнай адукацыі БССР, быў прарэктарам універсітэта культуры, узначальваў Мінскі дзяржаўны гандлёвы каледж, з'яўляўся дэпутатам Мінгарсавета. На адкрыцці мемарыяльнай дошкі прысутнічалі прадстаўнікі адміністрацыі Першамайскага раёна сталіцы, вядомыя дзеячы беларускай культуры і мастацтва.

**Ірына АЛЯКСАНДРАВА**

Граматы Саюза пісьменнікаў Беларусі былі ўручаны прадстаўнікам Беларускай Дзяржаўнай акадэміі мастацтваў за дапамогу ў ажыццяўленні праекта стварэння партрэтнай галерэі славутых беларускіх майстроў слова. Падчас цырымоніі старшыня Саюза пісьменнікаў Мікалай Чаргінец прыгадаў, што кіраўніцтва акадэміі адразу пайшло насустрач пісьменнікам, прапанаваўшы тром студэнтам выкананне праекта ў якасці дыпломнай работы. Прагучала таксама падзяка ў адрас Міністэрства культуры Беларусі, якое ўзяло на сябе клопат пра матэрыяльны аспект праекта. Але асабліва многа добрых слоў пачулі ў гэты дзень маладыя мастакі, якія таксама атрымалі граматы СПБ — Ксенія Кудрашова, Юрый Брэль і Віктар Данільчык.

**Лізавета БАГАДЗЯЖ**

У Мінскай гарадской бібліятэцы імя Якуба Коласа прайшоў юбілейны вечар вядомага публіцыста, даследчыка нашай мінуўшчыны, аўтара многіх цікавых кніг Эдуарда Карніловіча. Юбіляру была ўручана Грамата Саюза пісьменнікаў Беларусі, кветкі і памятны падарунак. Літаратара сардэчна віталі ўдзельнікі мастацкай самадзейнасці гімназіі № 17 і СШ № 15 Ленінскага раёна Мінска. У зале была разгорнута выстаўка кніг і публікацый пісьменніка.

**Павел КУЗЬМІЧ**

Сёлетняя выпускніца Гомельскага абласнога дзяржаўнага ліцэя Ганна Зыблева родам з Уваравічаў Буда-Кашалёўскага раёна, і таму тэмай даследаў па курсе сучаснай беларускай літаратуры яна абрала творчасць свайго земляка Анатоля Зэкава. Расповед ліцэісткі пра жыццёвы і творчы шлях пісьменніка арганічна дапаўняла зробленая ёю электронная відэапрэзентацыя. Выкладчыкаў і аднакласнікаў асабліва ўразіла прысутнасць у аўдыторыі самога пісьменніка, якога Ганна запрасіла на ўрок. Безумоўна, госцю давялося і выступаць перад ліцэістамі.

**Марыя БЯРНАЦКАЯ**

Нядаўна ў актавай зале Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі адбыўся канцэрт вакальнай групы-студыі "Эліксір" студэнцкага клуба ВНУ. "Эліксір" добра ведаюць як ва універсітэце, так і па-за яго сценамі. Калектыў дэманстраваў сваё майстэрства на святкаванні Дня Перамогі і Дня горада Мінска. Кіруе вакальнай групай-студыяй Валянціна Патапава.

**Уладзімір СТАРАСЦЕНКА**

Рэфлексія

# Са слязамі на вачах…

Людміла САЯНКОВА



Гэта было 9 мая… Свята, якое ва ўсіх вызывае аднолькавыя пачуцці. Так мне заўсёды здавалася. Нават калі тваю сям'ю не кранула ваенная бяда, усё роўна немагчыма быць абыякавым і хаця б у душы, ціха, без пафасных слоў, не падзякаваць за Перамогу. Гэта той дзень, які нас аб'ядноўвае, дапамагаючы адчуць адзіным цэлым, таму што мы далучаемся не толькі да свята, але і да той бяды, якая таксама была адна на ўсіх.

Мы з дзяцінства выраслі на лозунгу "Ніхто не забыты і нішто не забыта". Як бы хацелася, каб гэта быў не толькі лозунг. Некалькі гадоў таму давялося наведаць адзін са старажытных сабораў Англіі. Пад гатычнымі сценамі знайшлі супакой усе тыя, хто ваяваў у розных войнах у славу сваёй радзімы. Пераліку прозвішчаў не было канца. На мармуровых плітах былі ўзгаданы амаль усе імёны рыцараў, якія ваявалі яшчэ ў Сярэднявеччы, салдат Першай сусветнай, Другой сусветнай войнаў. Каля кожнага месца — жывыя кветкі. Больш за ўсё мяне ўразіла гэтая агульнанацыянальная павага да кожнага, хто загінуў на полі бою. Вось ужо сапраўды — "Ніхто не забыты…"

Пад Барысавам ёсць вёска Студзёнка. Месца знакамітае тым, што гэта быў апошні прытулак для байцоў напалеонаўскай арміі. Не так даўно французы ўшанавалі сваіх суайчыннікаў, паставіўшы там помнік, на якім запісалі, што гэта прысвячаецца тым, хто "фарсіраваў Бярэзіну". Хаця насамрэч гэта былі ўцёкі паражэнцаў. Але справа не ў гэтым. Самае галоўнае, што памятаюць пра кожнага свайго салдата і даказваюць, што ў памяці няма тэрміну даўнасці.

Праходзячы па алеях славы, кожны раз звяртаеш увагу на вялікую колькасць гранітных пліт, на якіх напісана: "Невядомы салдат". Колькі год пасля вайны, а колькасць "невядомых", здаецца, не меншыцца. Так мы і не ведаем "усіх пайменна", ні тых, хто ваяваў з французамі, ні тых, хто з палякамі, ні тых, хто з немцамі спачатку ў Першую сусветную, а потым і ў Другую. Мы не ведаем шмат каго, таму што, на жаль, не ў нашай традыцыі кожны раз дазнавацца пра кожнага чалавека, хто сышоў з гэтай зямлі, хто калісьці ўпрыгожваў яе ці абараняў. На нашых вулічных шыльдах амаль не пазначаюцца ні імёны славутых святароў, асветнікаў, ні каралёў, князёў, якія ўзмацнялі дзяржаву, як у той жа Англіі, дзе вуліца караля Георга IV перасякаецца з вуліцай караля Георга VI, а вуліца каралевы Вікторыі пераходзіць у вуліцу святога Кліфарда. Нават у назвах спраўджваецца знакамітае "Ніхто не забыты". Гэты тэзіс больш вядомы нам, а у іх ён мае практычнае ўвасабленне. Ну ці ж не нацыянальная ідэя?

…9 мая ў даволі свабоднай электрычцы ішло сваё жыццё. Людзі гаманілі, чыталі, слухалі адно аднаго. Кожны кіраваўся хто куды: хто з раслінамі на лецішча, хто ў госці. Раптам дзверы адчыніліся, і немалады мужчына трохі пацёртага выгляду з баянам нараспеў запеў высакаватым голасам: "День Победы! Как он был от нас далёк… Это пра-а-здник со слезами на глазах…" Было такое адчуванне, што час адышоў назад і што зараз не май 2011-га, а падзеі адбываюцца значна раней. Ці то мужчына такога жаласлівага выгляду, які зарабляў свае сціплыя грошы, ці той стары баян, ці ўвогуле людзі, якія вывозілі свой небагаты скарб на веснавыя палеткі, ці ўсе і ўсё разам як быццам спынілі час. І сапраўды захацелася заплакаць.

**Яшчэ 30 гадоў таму ў Беларусі было каля 300 кнігарняў — у кожным райцэнтры і нават у вялікіх вёсках. Тады кніга станавілася дэфіцытам, бо часта выдавалася не тое, чаго хацелася б для душы. Цяпер, калі вырасла колькасць выдавецтваў, колькасць кніжных крам скарацілася. Чаму? Знайсці адказ на пытанне паспрабаваў у Беларускім рэспубліканскім саюзе спажывецкіх таварыстваў (Белкаапсаюз).**

# Творца кнігі — аўтар, творца яе лёсу — грамадства

Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ

Галоўны тавараведТацццяна Кулак — мілая, абаяльная жанчына — перш чым аргументаваць адказ, расказала пра становішча спраў у кнігагандлі. І яны не могуць не здзівіць. Мяркуйце самі: летась рэалізавана друкаванай прадукцыі на 9,2 мільярда рублёў — намнога больш, чым у 2009 годзе. Тэмп росту ў супастаўных цэнах да папярэдняга года — 108,1 працэнта. Удзельная вага ў структуры рознічнага тавараабароту склала 0,14 працэнта — гэта нядрэнны паказчык.

Цяпер у сістэме Белкаапсаюза працуе 46 кнігарняў і 238 кніжных аддзелаў у буйных магазінах, пяць кнігагандлёвых прадпрыемстваў і адна ўніверсальная кніжная база (Гомель).



Карыкатура Аляксандра Каршакевіча

— Чаму скарацілася колькасць кнігарняў? — перапытвае Тацццяна Яўгенаўна. — Ёсць дзве ўзаемазвязаныя прычыны. Першая — не зусім стабільнае фінансавае становішча некаторых раённых спажывецкіх таварыстваў (райпо). Другая — нездаровая дэмаграфічная сітуацыя. Зніжаецца нараджальнасць, значыць, памяншаецца колькасць нашых патэнцыяльных пакупнікоў. Да таго ж, трэба ўлічваць і ўздзеянне Інтэрнэта. Навошта купляць — націснуў клавішу і чытай на маніторы аповесць ці раман.

— Паверце, праблем з набыццём кніг у рэспубліцы няма, — працягвала мая субяседніца. — Вы чулі калі-небудзь скаргі ад пакупнікоў? Я ж ужо адзначала: у раёнах, дзе адсутнічаюць кнігарні, функцыянуюць кніжныя аддзелы, кніжныя паліцы пры буйных гандлёвых пунктах. Няма патрэбнага твора — запаўняй заяўкі і праз пяць дзён можаш купіць яго. Нашы работнікі імкнуцца прапагандаваць кнігу, бо ад аб'ёму тавараабароту залежыць велічыня іх зарплаты. Скажам, у Беразіне пакупніку, які набыў кніг больш як на 30 тысяч, уручаюць недарагія падарункі. Дробязь, але прыемна.

> *"А што важней: кніга ці хлеб, соль, цукар? Мы абавязаны спаўна забяспечыць людзей таварам першай неабходнасці…"*

Пасля сустрэчы з Тацццянай Кулак пытанняў узнікла яшчэ больш. У рэспубліцы 118 раёнаў, кнігарні ёсць у 46. Астатнія 72, выходзіць, працуюць нерэнтабельна, у іх няма сродкаў, каб утрымліваць магазін. Але ж статыстыка сведчыць, што становішча райпо не такое ўжо жаласнае. Да таго ж, кнігарні, аказваецца, даюць неблагія даходы. У чым жа справа? Звязаўся з некалькімі кіраўнікамі раённых спажывецкіх таварыстваў (адрас і прозвішчы не называю, тэлефонную размову да справы не прышыеш) і ў адказ пачуў амаль аднолькавыя адказы:

"Чалавек без кнігі можа абысціся. Пры вострай неабходнасці яе можна знайсці ў бібліятэцы, выпісаць, папрасіць у сяброў, знаёмых…"

"Кніжны магазін закрылі з дазволу райвыканкама…"

"А што важней: кніга ці хлеб, соль, цукар? Мы абавязаны спаўна забяспечыць людзей таварам першай неабходнасці…"

"Няхай вашы пісьменнікі пішуць цікавей, тады на іх кніжкі попыт будзе…"

"Кнігагандаль ніколі не быў рэнтабельным, аднак калі ён карыстаўся падтрымкай дзяржавы, яго стан быў стабільным. Цяпер на двары іншы час…"

Кожны з маіх суразмоўцаў, безумоўна, мае рацыю. З эканамічнага пункта гледжання. Але ж не хлебам адзіным жыве чалавек. Трэба думаць і пра яго духоўнае развіццё.

Што сабою ўяўляюць сёння раённыя кнігарні? Звычайна палова іх плошчаў здаецца ў арэнду арганізацыям, якія гандлююць мабільнымі тэлефонамі, парфумай, гаспадарчымі таварамі… У Смалявіцкай краме прадаюць фотакамеры, чахлы да іх і батарэйкі. У вочы адразу кідаюцца яркія вокладкі кніг: "Я злодзей у законе", "Брыгада", "Піранья", "Ноч з пісталетам". Больш сціплае месца адведзена кнігам беларускіх аўтараў. Налічыў 20 кніг з цыклаў "Беларуская проза XX стагоддзя" і "Беларуская паэзія XX стагоддзя", якія выдае "Мастацкая літаратура". Выдавецтва "Літаратура і Мастацтва" прадстаўлена толькі кнігай Т. Падаляк "Нашчадкі вогненных вёсак". На

> *"Няхай вашы пісьменнікі пішуць цікавей, тады на іх кніжкі попыт будзе…"*

паліцах стаяць трохтомнік Я. Карскага "Беларусы", некалькі тамоў з поўнага збору твораў І. Шамякіна і яшчэ амаль 30 кніг іншых беларускіх пісьменнікаў, прытым выдадзеных даўно. Дзецям прапануюцца вершы і апавяданні М. Чарняўскага, Т. Мушынскай, М. Маляўкі, П. Васючэнкі. Вось, бадай, і ўсё. Не густа!

А што ўяўляюць так званыя кніжныя аддзелы? Некалі Ляхавіцкая кнігарня лічылася адной з лепшых на Брэстчыне. Яе трох работніц паважалі і шанавалі больш, чым прадаўцоў універмага, якія гандлявалі залатымі вырабамі. Цяпер кнігі рэалізуюцца ў магазіне "Дзіцячы свет". Некалькі паліц — і ніводнай навінкі айчынных выдавецтваў. Магчыма, тут і можна заказаць патрэбную кнігу, паслуга на паперы ёсць, але ж хто пра гэта ведае? Ні аб'яў, ні рэкламы.

Гледзячы на такую беднасць, міжволі ўспомнілася: не так даўно ў раёне пражывала амаль дваццаць бібліяфілаў — толькі ў асабістай бібліятэцы заатэхніка Уладзіміра Іванавіча Масюкевіча налічвалася каля чатырох тысяч рэдкіх кніг. Многія аматары кніг жадалі б сёння прадаць старыя, але цікавыя экзэмпляры, ды няма дзе. Да Мінска — амаль 200 кіламетраў. А што, калі ў раймагу стварыць букіністычны аддзел? Праблема і не такая ўжо складаная. Трэба толькі знайсці гандляра-энтузіяста, які б не толькі быў прафесіяналам сваёй справы, але і любіў кнігу.

Па водгуках чытачоў "ЛіМа", у рэгіёнах ёсць загадчыкі кнігарань, мэта якіх — запоўніць магазін "хадавой" прадукцыяй. Няважна, Данцова гэта, Палякова ці Брыль, Караткевіч.

Якія высновы напрошваюцца з убачанага і пачутага?

Інфармацыйная рэвалюцыя захапіла нас. І ў гэтым імпульсе моды мы акунуліся ў вір таго, што не да канца ўспрымаеш, таго, што прышло да нас як стыхійная з'ява. Тым не менш кніга была, ёсць і павінна павінна быць. Чытанне — гэта заўсёды інтэлектуальны працэс. Таму, калі ўкладваць сродкі ў інтэлектуалізацыю краіны, трэба ўкладваць і ў стварэнне кнігагандлёвых сетак, якія павінны быць аднолькава адкрытымі для ўсіх выдаўцоў.

Па-мойму, падтрымка кніжнай культуры павінна стаць прыярытэтам культурнай палітыкі дзяржаўных арганізацый усіх узроўняў, у тым ліку райвыканкамаў, а канкрэтнымі аб'ектамі падтрымкі — выдавецтвы і кніжны гандаль. Маецца на ўвазе ільготны рэжым развіцця прадпрымальніцтва ў дадзенай сферы, ільготы па арэндзе вытворчых плошчаў, рэспубліканскім і мясцовым падаткаабкладанні. Чаму б, скажам, не знізіць падатак на дабаўленую вартасць на ўсе віды даходаў, якія атрымваны ад вытворчасці і рэалізацыі кніжнай прадукцыі, акрамя выданняў эратычнага і рэкламнага характару, як гэта робіцца ў Расіі.

І яшчэ прыклад з вопыту суседзяў. Там пры крамах ёсць гурткі кнігалюбаў. Школьнік прачытае кнігу бясплатна, а пасля павінен зацікавіць кнігай сваіх сяброў-таварышаў. І тыя па флаерах купляюць яе са скідкай.

Канечне, многія рашэнні праблемы — у эканамічнай сферы. І ўсё ж трэба ствараць умовы, каб кнігі былі запатрабаваны. Мы адбілі ў людзей усялякае жаданне купляць іх, заваліўшы крамы нізкапробнай чытанінай. Цеснае супрацоўніцтва пісьменнікаў, выдаўцоў і гандлёвых устаноў дазволіць нейкім чынам зрабіць кнігі даступнымі і тым самым не дасць перарвацца культурнай традыцыі чытання.

# Таямніцы Прэзідэнцкай бібліятэкі

Ірына ТУЛУПАВА

**Галоўны дэпазітарый — тая кніжніца, дзе павінна быць уся літаратура па дзяржаве і праве Беларусі, — Прэзідэнцкая бібліятэка. У гэтай галіне яна падзяляе функцыі з Нацыянальнай. Прычым, спецыялізуецца здаўна. А фонд рэдкай і каштоўнай літаратуры ўтрымлівае ўнікальныя калекцыі. Пра гэта расказвае загадчык аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў Прэзідэнцкай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь Валерый Герасімаў.**



— Агульны фонд бібліятэкі — каля 2 млн. экзэмпляраў. Калекцыя рэдкай кнігі — каля 30 тысяч адзінак захоўвання. Гэта тое, што вывучана. Выданні згрупаваныя ў некалькі раздзелаў. Кірыліцы XVII–XIX стст., якой створаны перліны кніжнасці – "Служэбнік" (М., 1601–1602), "Анфалагіён", (Кіеў, 1619), "Трыадзіон" (Львоў, 1664). Таксама – беларосікі XVIII–XX стст.; літаратуры беларускай дыяспары (XX ст.); старадрукаў на замежных мовах (XVI–XVII стст.); капіевіцы (грамадзянскага друку) — 1708–1830 гг. Адзін толькі факт: 9 кніг выдадзена капіевіцай (грамадзянскім шрыфтам) у Беларусі ў XVIII стагоддзі. Адна з іх знаходзіцца ў калекцыі Прэзідэнцкай бібліятэкі. Больш за 250 выданняў налічвае калекцыя расійскай капіевіцы (1725–1830 гг.). Сярод іх – прыжыццёвыя выданні М.Ламаносава, А. Сумарокава, М.Хераскава і інш. Ёсць яшчэ калекцыі старажытных карт, атласаў і каляндароў.

**— Адкуль жа адлічваеце пачатак? Якая кніга, звязаная з Беларуссю, у вас самая даўняя?**

— Напэўна, А. Гваніні, "Хроніка еўрапейскай Сарматыі", выдадзеная ў Кракаве ў 1611 г. у некалькіх частках-кнігах. У нас з хронікі якраз тая кніга, якая апісвае беларускія ваяводствы часоў ВКЛ. Вельмі багата выданняў XIX ст. Калі браць новую беларускую літаратуру, то шмат выданняў і першавыданняў класікаў беларускай літаратуры: Багушэвіча, Багдановіча, Купалы, Коласа, Цёткі, Гаруна, Гарэцкага, Бядулі.

**— Маеце іх дзякуючы таму, што ў бібліятэку ішоў абавязковы экземпляр?**

— З нацыянальнымі дакументамі ўвогуле цікавая гісторыя. Таму што большасць да нас патрапіла, як ні дзіўна, з Закаўказзя і Сярэдняй Азіі. Да вайны абавязковы асобнік беларускай літаратуры накіроўваўся ў нацыянальныя бібліятэкі рэспублік былога Саюза. Пасля вайны нашы камплектатары паехалі ў Азербайджан — і там шмат чым папоўнілі калекцыю. Нам падаравалі кнігі 20-30-х гадоў мінулага стагоддзя на беларускай мове — са штампамі Азербайджанскай нацыянальнай бібліятэкі. Таксама як з грузінскай, армянскай. З Пецярбурга трапілі некаторыя кнігі з царскіх бібліятэк, прыкладам, Мікалая II. Ёсць выданне з кнігазбору цэсарэвіча Аляксея Мікалаевіча. Камплектатары згадвалі, як бачылі ў скляпеннях Расійскай нацыянальнай бібліятэкі стагі з газет — з такіх стосаў, з дазволу гаспадароў, выцягвалі беларускія выданні. І дзякуючы гэтаму ў нас цяпер выдатны фонд беларускіх перыядычных выданняў да 1917 года і пасля яго. Газетнай падшыўцы вайну цяжэй перажыць, чым той жа кнізе.

**— У дачыненні да рэдкіх кніг існуе такое паняцце, як абменны фонд?**

— Нам шмат дапамагае Нацыянальная бібліятэка Беларусі. Пасля пераезду ў новы будынак аказалася, што па некаторых выданнях у іх дублетнасць. Хаця для рэдкай кнігі такога паняцця ў класічным сэнсе не існуе: на кніжных старонках часта робяцца надпісы ці запісы, нейкая кніга пазначана часам. Усё гэта надае адметнасць кожнаму асобніку канкрэтнага рарытэтнага выдання. Інакш кажучы, унікальнасць кнігі ў яе лёсе і лёсе яе ўладальніка ці ўладальнікаў.

**— Наколькі цяпер распрацавана пытанне існавання прыватных кніжных збораў у дзяржаўных бібліятэках?**

— Пасля набыцця ў 1991 годзе незалежнасці ў Беларусі пачала больш інтэнсіўна фарміравацца самастойная навука айчыннага кнігазнаўства. Міжгаліновым цэнтрам застаецца Нацыянальная бібліятэка. Таксама высокім узроўнем даследаванняў вызначаюцца аддзел рэдкай кнігі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры і мастацтваў, Акадэмічная і Прэзідэнцкая бібліятэкі. Вельмі ўдалыя кнігазнаўчыя канферэнцыі правялі апошнім часам абласныя бібліятэкі Брэста і Гомеля. Адметныя фонды рукапісаў і старадрукаў маюць музей кнігадрукавання

*Цяпер, калі аднавілі Нясвіжскі палац і тыя памяшканні, дзе захоўвалася бібліятэка, лагічна было б, на маю думку, усё вярнуць туды. Цэнтры — і навуковыя — павінны быць не толькі ў Мінску і абласных гарадах. Нясвіж некалі быў культурнай сталіцай Вялікага Княства Літоўскага — дзякуючы Радзівілам. І каб вывучаць нашыя калекцыі,навукоўцы, у тым ліку і замежныя, ездзілі б не толькі ў Мінск, а і ў іншыя гарады. А гэта — сувязі, кантакты, міжнародныя праекты на мясцовым краязнаўчым узроўні.*

ў Полацку, Нацыянальны гістарычны і Гродзенскі гістарычны музеі. І кожная кніжніца вывучае тыя калекцыі, якія ёсць у фондах. Трэба таксама адзначыць, што з Беларуссю трывалыя навуковыя кантакты падтрымліваюць зоркі сусветнай бібліялогіі (навукі пра кнігу): польскі прафесар Кшыштаф Мігань і доктар навук пецярбуржац Аркадзь Сакалоў.

На жаль, як заўсёды зазначае мэтр айчыннага кнігазнаўства Тацціяна Рошчына, цэльных кнігазбораў — кляштарных, вучэбных, грамадскіх, нават прыватных — да сённяшняга часу на Беларусі не захавалася: можна знайсці толькі большыя ці меншыя іх рэшткі. Вядома, што патрапіла з прыватных калекцый у Нацыянальную, альбо ў бібліятэку Акадэміі навук, альбо ў нашу Прэзідэнцкую. У Нацыянальнай досыць унушальныя зборы і фрагменты бібліятэк Я. Карскага, М. Янчука, П. Жуковіча, І. Карнілава, Я. Грота, М. Доўнар-Запольскага, У. Пічэты. У бібліятэцы Акадэміі навук — частка бібліятэкі Радзівілаў, бібліятэкі Беркава і Глебкі. Дарэчы, і ў фондзе Прэзідэнцкай бібліятэкі выяўлена 12 прыжыццёвых манаграфій М. В. Доўнар-Запольскага, а таксама выданні з яго асабістага кнігазбору.

У Прэзідэнцкай бібліятэцы — каля 3 тыс. асобнікаў бібліятэкі Панцеляймона Лепяшынскага, перададзенай яго нашчадкамі. Ёсць кнігі з бібліятэк П. Панамарэнкі, дзеячаў беларускага адраджэння К. Езавітава, В. Ластоўскага, А. Ружанец-Ружанцова, Б. Эпімаха-Шыпілы, А. Сапунова, Е. Раманава ды іншых.

**— Якія ж створаны праекты па вывучэнні збораў знаных беларускіх родаў?**

— Маем каля 20 выданняў з бібліятэкі Супрасльскага манастыра. Яна перастала існаваць да сярэдзіны XIX ст. Але частка гістарычнай бібліятэкі патрапіла, верагодна, да фабрыкантаў Захертаў. У нас ёсць кнігі, на якіх стаіць штамп на французскай мове "Супрасльская бібліятэка" з калекцыі бібліяфілкі і фабрыканткі Жазефіны Захерт. З дапамогай студэнтаў універсітэта культуры і мастацтваў мы будзем рабіць зводны каталог гэтага збору. Другі праект — магчыма, падрыхтуем не толькі каталог, але і адсканируем тую частку бібліятэкі Нясвіжскай ардынацыі Радзівілаў, якую маем у сябе. Удзельнічаем і ў тых праектах, якія ініцыяваны на ўзроўні дзяржавы, — віртуальнае адраджэнне кнігазбораў Радзівілаў, Сапегаў, Беларускага музея і бібліятэкі ў Вільні. Да прыкладу, кнігі з бібліятэкі Радзівілаў ёсць у Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, у акадэмічнай (найбольш), асобныя выданні — у Прэзідэнцкай і бібліятэцы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, у Нацыянальным гістарычным музеі,— і мы цяпер пад эгідаю ЮНЕСКА ствараем міжнародны зводны каталог бібліятэкі Радзівілаў. Цяпер ужо гавораць менавіта пра бібліятэкі Радзівілаў, таму што іх збіралі розныя пакаленні. За савецкім часам у нас была большая частка збораў: трапіла з "трафейных" эшалонаў, якія вярталі ў Беларусь вывезеныя каштоўнасці. Цяпер толькі каля 200 кніг з бібліятэкі Радзівілаў знаходзяцца ў нас. Гэта кнігі на замежных мовах, частка — на рускай. Яны паказваюць кніжныя захапленні роду апошняй генерацыі Радзівілаў: канца XIX — пачатку XX ст. Гэта Антон Радзівіл, Магдалена Радзівіл, Станіслаў Радзівіл, Ежы Радзівіл.

Цяпер, калі аднавілі Нясвіжскі палац і тыя памяшканні, дзе захоўвалася бібліятэка, лагічна было б, на маю думку, усё вярнуць туды. Цэнтры — і навуковыя — павінны быць не толькі ў Мінску і абласных гарадах. Нясвіж некалі быў культурнай сталіцай Вялікага Княства Літоўскага — дзякуючы Радзівілам. І каб вывучаць нашыя калекцыі, навукоўцы, у тым ліку і замежныя, ездзілі б не толькі ў Мінск, а і ў іншыя гарады. А гэта — сувязі, кантакты, міжнародныя праекты на мясцовым краязнаўчым узроўні.

**— Наколькі нам вядома, ў аддзеле старадрукаў і рэдкіх выданняў сустракаюцца і мемарыяльныя рэчы: пярсцёнкі, цагліны…**

— Пярсцёнкі з рунамі якраз сведчаць пра нашу старажытную пісьменнасць. Сапраўды, мы маем і цэлую калекцыю беларускіх цаглін-пальчатак. З іх будавалі некалі старажытныя беларускія храмы, замкі. Сама менеей ім трыста гадоў. Завецца цагліна-пальчатка менавіта так таму, што па сырой гліне праводзіліся рамеснікам адмысловыя баразёнкі, каб раствор лепш браўся. Адначасова гэта было і фірменным знакам майстра. Калі лічыць такія цагліны падмуркам матэрыяльнай культуры, дык кнігі можна разглядаць падмуркам духоўнай культуры. А ўсё разам — гэта нацыянальная культурная спадчына. Супрацоўнікі аддзела ездзяць (стараемся, каб два разы на год) у этнаграфічныя вандроўкі. Пабывалі ў Гальшанскім замку, у Ружанах — адусюль стараемся прывозіць рарытэты. Іх выкарыстоўваем у афармленні выставак, рэкламнай і папулярызацыйнай кніжнай дзейнасці.

***На здымку: Валерый Герасімаў сярод старажытных рарытэтаў.***

## Першы крок

### Алег Елісеенкаў: «Чытаў поўнымі зборамі твораў…»



**Духоўнае не вымяраецца матэрыяльным. Але заўсёды робіцца той першы крок, калі чалавек ад першасных запатрабаванняў — быць накормленым і апранутым — пераходзіць на іншы ўзровень. Пошук сябе ў гэтым свеце, імкненне спасцігнуць таямніцы быцця вымагаюць знаёмства з досведам іншых людзей. І чалавек захоплена шукае інфармацыю, прачытвае процьму артыкулаў і кніг, ідзе ў бібліятэку. Калі ў першы раз? На гэтае пытанне сёння адказвае кампазітар, лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі 2011 года Алег Елісеенкаў.**

— Першы раз я пайшоў у бібліятэку, напэўна, гадоў у пяць-шэсць. Гэта было ў Маладзечне. Я ўжо ўмеў чытаць, і, больш таго, мяне запісалі! Помню, гэта была падзея: я стаў дарослым, вялікім! А ў Маладзечне памяшканне бібліятэкі — адно з галоўных у горадзе. Уражанне такое, быццам я прыйшоў у храм! Узнімаўся па вялікіх лесвіцах, само памяшканне з калонамі, прасторная зала — гэта была пасляваенная пабудова. Кнігі… Тое адчуванне, калі бярэш іх у рукі, не перадаць. Пах асаблівы запомніўся. Часцяком хадзіў у бібліятэку, мне прапаноўвалі вельмі цікавыя кнігі.

У нашыя дні насупраць скарбніцы стаіць новы Палац культуры, але радуюся: і праз сорак гадоў бібліятэка свайго статусу не страціла.

Пасля я закончыў кансерваторыю і трапіў у армію. Каля Раўбічаў у памяшканні клуба размяшчаўся аркестр, у якім я служыў, і там жа была бібліятэка. Чытаў поўнымі зборамі твораў. Перачытаў усяго Дастаеўскага, Гогаля, Тургенева… Магу пералічыць вялікую колькасць пісьменнікаў. Прычым, чытаў не толькі творы, а і перапіску. Паставіў сабе такую мэту: ёсць магчымасць чытаць — трэба гэта рабіць. За паўтара года службы прачытаў вельмі шмат літаратуры. Не тое што выпадковых кніг, а мэтанакіравана чытаў. У тым ліку і паэзію. Уся тая школьная праграма, як пачатак знаёмства з мастацкім словам, адышла ў мінулае. Я зірнуў на літаратуру па-іншаму.

Цяпер у мяне з бібліятэкай нават зрокавы кантакт: вокны кватэры выходзяць на Нацыянальную бібліятэку. Але шмат якую інфармацыю знаходжу і праз камп'ютар. Хаця "прафесійная" бібліятэка для мяне застаецца актуальнай па-ранейшаму.

Трэба сказаць, што і раней, і цяпер мяне заўсёды здзіўлялі работнікі бібліятэкі. Гэта від інтэлігенцыі, як быццам іншыя людзі, больш адухоўленыя, заўсёды эмацыянальна напоўненыя, зацікаўленыя. Гэта людзі, якіх я адношу бы да эліты грамадства.

**Алена МАНКЕВІЧ,**
**загадчык аддзела беларускай літаратуры ХХ і ХХІ стст. Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, кандыдат філалагічных навук**

# Нястомны шукальнік ідэалаў

**Сёння спаўняецца 80 гадоў галоўнаму навуковаму супрацоўніку Інстытута мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі, вядомаму вучонаму-літаратуразнаўцу, доктару філалагічных навук Васілю Пракопавічу Жураўлёву.**
**Імя В. П. Жураўлёва шырокавядомае ў гуманітарных колах Беларусі і за межамі краіны. Ён аўтар больш як 200 навуковых прац, у тым ліку 11 манаграфій (аўтарскіх і калектыўных).**

Некалі Іван Мележ, разважаючы над працэсам творчасці, адзначыў: "…пісьменнік не павінен ісці толькі па плыні, па гатовай дарозе. Мне здаецца, што вельмі вялікае значэнне мае перакананасць пісьменніка ў значэнні той працы, за якую ён бярэцца, што пісьменніку трэба сіла характару, цвёрдасць, упэўненасць, вера ў свой твор, у той шлях, якім ён ідзе". Думаецца, не меншая перакананасць, сіла характару, упэўненасць і вера ў той шлях, па якім ідзе, патрэбна і даследчыку літаратурных твораў, крытыку, — кожнаму, чыё сэрца не абыякавае да прыгожага пісьменства.

У асобе вядомага беларускага літаратуразнаўцы Васіля Пракопавіча Жураўлёва гэтыя якасці, падсвечаныя глыбокім аналітызмам і навуковай дакладнасцю тлумачэння жыццёвых працэсаў гарманічна спалучаюцца яшчэ і з чалавечнасцю, праўдзівасцю, юначай уражлівасцю і чуласцю, якія кранаюць кожнага, хто ведае яго асабіста. Відаць, таму ў большасці яго навуковых прац прыярытэт аддадзены вывучэнню менавіта духоўнага пачатку ў мастацкіх творах. Пра гэта сведчаць нават назвы некаторых яго кніг: "На шляху духоўнага самасцвярджэння" (1995), "У пошуку духоўных ідэалаў" (2000), "Актуальнасць традыцый: Якуб Колас у пісьменніцкім асяродку" (2002), "Класіка і літаратурная сучаснасць: духоўны патэнцыял чалавека" (2011).

В. П. Жураўлёў нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Раздзел-2 Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Дзяцінства хлопчыка з сялянскай сям'і было нялёгкім. Бацька памёр рана. Маці адной давялося выхоўваць дваіх дзяцей. Ва ўспамінах засталіся і цяжкасці ваеннага ліхалецця. Пасля заканчэння ў 1950 годзе сярэдняй школы В. Жураўлёў паступіў на факультэт мовы і літаратуры Мінскага педагагічнага інстытута, а пасля ў аспірантуру. У 1958 годзе абараніў кандыдацкую дысертацыю.

Пытанні паэтыкі і эстэтыкі, мастацкага свету і мастацкай формы ніколі не пакідалі яго абыякавым, нягледзячы нават на не зусім прыхільнае стаўленне да так званага "фармалізму" ў часы ўсеагульнага захаплення сацыяльнай асновай мастацкага твора. Гэтыя эстэтычна-філасофскія паняцці заўсёды трактаваліся ў працах вучонага як "вельмі важная і функцыянальна-дзейсная пазнавальна-адлюстравальная сіла". Наватарскія падыходы па-іншаму раскрылі мастацкі свет незаслужана забытых твораў, а таксама дазволілі пераасэнсаваць тыя, якія вывучаліся толькі ў сацыяльна-ідэалагічным ключы.

У 1957 годзе Васіль Пракопавіч назаўсёды звязаў лёс з Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук. У гэтым жа годзе пабачылі свет і яго першыя навуковыя публікацыі. Гэта былі рэцэнзіі на новыя кнігі, а таксама артыкулы, прысвечаныя праблемам гісторыі і тэорыі беларускай літаратуры. Малады даследчык цікавіўся самым шырокім спектрам пытанняў літаратуразнаўства — ад праблем дзіцячай



літаратуры да сюжэтна-кампазіцыйнай будовы твора.

Адным з вынікаў нястомнай працы В. Жураўлёва можа з поўным правам лічыцца і абарона доктарскай дысертацыі "Структура твора. Рух сюжэтна-кампазіцыйных форм". У гэтай працы ўпершыню ў беларускім літаратуразнаўстве аўтар імкнуўся да вырашэння складаных пытанняў сюжэтна-кампазіцыйнай будовы твора, да вызначэння мастацка-эстэтычных законаў, што ляжаць у аснове яго структуры. Матэрыялам для даследавання паслужылі творы Якуба Коласа, З. Бядулі, М. Чарота, Ц. Гартнага, М. Зарэцкага, В. Быкава, Ч. Айтматава і інш. Шырока была асветлена таксама гісторыя і метадалогія праблемы.

Самая вялікая зацікаўленасць у В. Жураўлёва заўсёды праяўлялася да творчасці пачынальніка нацыянальнай эпічнай традыцыі ў беларускай літаратуры – Якуба Коласа. У многіх сваіх працах даследчык аргументавана даводзіць, што ўсё створанае Коласам для развіцця эпічнай тэндэнцыі ў беларускай літаратуры з поўным правам можа быць названа жывой і дзейснай мастацкай традыцыяй, якая спрые паглыбленню ідэйна-эстэтычнага зместу і структурнай сутнасці беларускага рамана на сучасным этапе.

У кнізе "Якуб Колас і паэтыка беларускага рамана" традыцыя, заснаваная Коласам, паказваецца як адзін з важнейшых крытэрыяў ацэнкі мастацкіх якасцей літаратурнага твора. Аўтар абгрунтоўвае неабходнасць арыентацыі на гэты крытэрый тым, хто, пачынаючы пісаць эпічныя творы, нярэдка недаацэньвае ролю і значэнне літаратурнай тэхнікі і складанасці ўнутраных законаў эпічнага жанру.

Вядома, што адзінства формы і зместу ў творы — неабходнасць. Але даволі часта на практыцы такога адзінства мы не назіраем. У творах або дамінуюць празмерна завостраныя формы ідэалагізацыі і сацыялагізацыі, або — гульня самаізаляваных мастацкіх прыёмаў. Асабліва ў сучасных плынях авангардызму, мадэрнізму і постмадэрнізму, што акрэсліліся ў нашай літаратуры. Менавіта таму і раней, і цяпер вывучэнне важнейшых законаў паэтыкі і эстэтыкі на матэрыяле лепшых набыткаў нацыянальнай і сусветнай класікі было і застаецца найважнейшай задачай літаратуразнаўства. Абіраючы матэрыялам сваіх даследаванняў багатую і разнастайную спадчыну айчыннай літаратуры, яе гісторыі і тэорыі, трымаючы ў цэнтры ўвагі перш за ўсё класіку, даследчык заўсёды засяроджваў увагу на тым моманце, што "сацыяльныя і праблемна-тэматычныя акцэнты пры ўсёй іх важнасці і актуальнасці трансфармуюцца ў жыццядайную мастацкую сілу слова толькі тады, калі ўсё гэта арганічна і гармачна спалучаецца з высокапрафесійным пісьменніцкім майстэрствам".

Пытанні паэтыкі і эстэтыкі засталіся ў цэнтры ўвагі даследчыка і ў манаграфіі "Класіка і літаратурная сучаснасць: духоўны патэнцыял чалавека", якая пабачыла свет у пачатку бягучага года. Абапіраючыся на фундаментальныя асновы літаратурнай класікі (Я. Колас, Я. Купала, М. Гарэцкі, М. Багдановіч, І. Мележ, А. Пушкін), аўтар выяўляе глыбінныя прычыны фарміравання і складвання яркіх чалавечых характараў і сацыяльных тыпаў эпохі на каардынатах побыту і быцця, у межах "малога" і "вялікага" гістарычнага часу. Шырока і ўсебакова даследчык раскрывае галоўныя матывы і стымулы таго, як і якімі мастацкімі спосабамі нацыянальная літаратура дасягала эстэтычных поспехаў на шляху чалавеказнаўства і якімі маральна-этычнымі і эстэтычнымі крытэрыямі вымярала і выпрабоўвала чалавека на чалавечнасць. У кнізе таксама вылучаецца і грунтоўна асэнсоўваецца праблема пісьменніцкага пошуку дэтэрмінацый, што садзейнічалі ці перашкаджалі фарміраванню чалавека-грамадзяніна, чалавека-асобы. Акцэнтуецца ўвага на вылучэнні наспелых задач мастацкасці і вузлавых законаў навізны і наватарства ў літаратуры.

Не толькі навукоўцам, але і арганізатарам давялося адчуць сябе Васілю Пракопавічу. На працягу многіх гадоў працы на пасадзе загадчыка аддзела беларускай літаратуры ХХ стагоддзя пад навуковым кіраўніцтвам і пры непасрэдным удзеле В. П. Жураўлёва выконваўся шэраг калектыўных планавых тэм, апошняя з якіх "Беларуская літаратурная класіка і сучаснасць: праблемы характаралогіі" была паспяхова завершана ў 2010 годзе.

Васіль Пракопавіч Жураўлёў вядомы сёння ў навуковых колах не толькі як таленавіты глыбакадумны даследчык літаратурнай класікі і сучаснасці, але і як актыўны грамадскі дзеяч. Шмат сіл і энергіі ён працягвае аддаваць выхаванню літаратуразнаўчай моладзі. Вялікую ўвагу надае падрыхтоўцы навуковых кадраў, паказваючы ўзор таго, як трэба ведаць літаратуру і пісаць пра яе. Ён з'яўляецца намеснікам старшыні спецыялізаванага Савета па абароне доктарскіх дысертацый пры Інстытуце мовы і літаратуры імя Якуба Коласа і Янкі Купалы НАН Беларусі. В. Жураўлёў часта выступае экспертам і афіцыйным апанентам кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый. Дапамагае ў навуковай працы маладым даследчыкам. Ім падрыхтавана 6 кандыдатаў і 1 доктар філалагічных навук.

Сваімі навуковымі публікацыямі, выступленнямі ў сродках масавай інфармацыі В. П. Жураўлёў актыўна ўдзельнічае ў вывучэнні сучаснага літаратурнага працэсу, павышэнні мастацкага ўзроўню літаратурнай творчасці, уносіць адпаведны ўклад у развіццё нацыянальнай культуры.

Адданая праца вучонага і значны ўклад у даследаванне праблем тэорыі і гісторыі беларускай літаратуры высока ацэнены. У 2002 годзе В. П. Жураўлёву была прысуджана Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры. Узнагароджаны ён таксама граматай Вярхоўнага Савета БССР.

Свой юбілей Васіль Пракопавіч сустракае поўным энергіі, цікавых ідэй і маштабных планаў. Ён працягвае працу ў галіне даследавання эстэтыкі і паэтыкі ў мастацкіх творах, выступае з дакладамі на навуковых кангрэсах і канферэнцыях, шмат увагі надае навінкам сучаснай беларускай літаратуры. Мы, вучні і калегі Юбіляра, шчыра віншуем яго з новай вясной. Жадаем здзяйснення ўсіх задум і планаў, моцнага здароўя, плёну ў працы і творчага палёту думкі яшчэ на доўгія гады.

**Міхась КЕНЬКА**

# У святле літаратуразнаўства

**У Магілёўскім дзяржаўным педагагічным універсітэце прайшла міжнародная навукова-практычная канферэнцыя "Куляшоўскія чытанні". Адна з секцый была незвычайнай, яна называлася "Інтэлектуальная проза А. Андрэева як феномен рускамоўнай літаратуры Беларусі" і была цалкам прысвечана творчасці аднаго пісьменніка.**

Імя Анатоля Андрэева, празаіка і літаратуразнаўцы, доктара філалагічных навук, прафесара, у Беларусі шырока вядомае. Ён аўтар дзевяці надрукаваных раманаў, сярод якіх "Маргінал", "Для каго ўзыходзіць Сонца?", "Усяго толькі люстэрка", "Адчужэнне", "Лёгкі мужчынскі раман", чатырох аповесцей, шэрагу апавяданняў і п'ес. Пра яго творчасць ужо нямала напісана, яна нязменна прываблівае да сябе ўвагу даследчыкаў.

Цікавасць да рускамоўнай літаратуры Беларусі апошнім часам прыкметна ўзрасла, яна ўжо часта робіцца прадметам абмеркавання на навуковых канферэнцыях рознага ўзроўню. Даклады, сабраныя ў адной секцыі, дазволілі сфакусіраваць увагу на галоўным у творчасці Анатоля Андрэева: ён піша пра асобу, для асобы — мовай, звыклай для гэтай асобы. Унутраны свет чалавека, думка, пачуцці, выказаныя ў арыгінальнай па стылі форме — вось галоўнае, што вызначае асаблівасць яго твораў. Ужо ў першым дакладзе доктара філалагічных навук, прафесара І. Скарапанавай "Астральная вобразнасць у творчасці Анатоля Андрэева" былі дакладна расстаўлены акцэнты: галоўныя героі прозы пісьменніка імкнуцца да неба, Сонца, якія выступаюць у якасці "свяцільніка розуму".

Даклад кандыдата культуралогіі дацэнта В. Таланцавай "Канцэпцыя элітарызму як філасофская праблема ў прозе Анатоля Андрэева" вылучаў ключавую традыцыю, якая паслядоўна выступае ў прозе А. Андрэева. Тэму персанацэнтрызму прадоўжыў даклад аспіранткі кафедры ВДУ імя П. М. Машэрава Ю. Пасюцінай "Персанацэнтрычны тып героя (аповесць А. Андрэева "Апельсіны на асфальце")".

Тэма традыцый была падхоплена і па-рознаму вытлумачана і ў іншых дакладах. Нельга сказаць, што ў іх закраналася толькі тэма асобы, творчасць Анатоля Андрэева асэнсоўвалася ў розных аспектах, гэта было вызначальным у рабоце секцыі. Даклад лінгвіста, кандыдата філалагічных навук дацэнта С. Кураша (МДПУ імя І. П. Шамякіна) "Тэкст & метафара: рэфлексія vs. творчасць (чытаючы А. Андрэева)" у дыскусійным ключы закрануў "метафарычную" канцэпцыю творчасці пісьменніка і літаратуразнаўцы; даклад кандыдата філалагічных навук дацэнта А. Іванова (МДУ імя А. Куляшова) "Літаратуразнаўчы падтэкст прозы А. Андрэева" быў прысвечаны літаратуразнаўчым алюзіям, якімі насычаны мастацкія тэксты пісьменніка і часта прыхаваны ад павярхоўнага погляду; старшы выкладчык кафедры тэорыі літаратуры БДУ С. Крылова вынесла на абмеркаванне матэрыял з уласнага выкладчыцкага досведу: "Мастацкія тэксты А. Андрэева як матэрыял для правядзення практычных заняткаў і КСР па тэорыі літаратуры". Нарэшце, аўтар гэтых радкоў распавядаў пра своеасаблівыя перакладчыцкія праблемы падчас пераўвасаблення прозы пісьменніка: "Асаблівасці перакладу інтэлектуальнай прозы Анатоля Андрэева на беларускую мову (памяткі перакладчыка)".

Секцыя стала свайго роду феноменам і прэцэдэнтам у гісторыі літаратуразнаўчых навуковых канферэнцый. Упершыню творчасць рускамоўнага сучаснага пісьменніка Беларусі стала прадметам такога ўважлівага і рознабаковага разгляду. І, паводле агульнай высновы яе ўдзельнікаў, такая спроба аказалася ўдалай: усім было цікава, на пасяджэнні панавала сапраўды творчая атмасфера, адбылася дыскусія, было выказана досыць многа вартых увагі думак, ідэй.

Сам "віноўнік урачыстасці" выступіў на пленарным пасяджэнні канферэнцыі ў якасці тэарэтыка літаратуры з дакладам "Персанацэнтрычная валентнасць мастацкай літаратуры" і прыняў актыўны ўдзел у рабоце секцыі.

Дзяніс МАРЦІНОВІЧ

# Неалітычны трохкутнік



Дзеянне аповесці Васіля Гігевіча "Страчанае шчасце", якая выйшла ў красавіцкім нумары часопіса "Полымя", адбываецца падчас неаліту — апошняга перыяду каменнага веку — у невядомай мясцовасці, у якой чытачы пры жаданні могуць пазнаць тэрыторыю Беларусі. Малады хлопец Ран закахаўся ў Маю, дачку старэйшыны роду. Але на прыгажуню прэтэндуе і Сын мядзведзя, лепшы паляўнічы. Каб прадухіліць канфлікт, маці Маі накіроўвае Рана па крэмень: "Калі Ран зможа прынесці гэты камень, тады Мая сама будзе выбіраць сабе мужа. Бо вы абодва роўныя. Калі ж Ран не прынясе крэмень, то яе мужам станеш ты, дужы Сын мядзведзя". Малады паляўнічы накіроўваецца ў падарожжа…

Зварот да творчасці В. Гігевіча быў цікавы асабіста для мяне па двух прычынах. З аднаго боку, у беларускай літаратуры з'яўляецца няшмат твораў, прысвечаных гістарычным, а тым больш дагістарычным часам. Таму, разгортваючы кожны раман, аповесць ці нават апавяданне такой тэматыкі, заўсёды спадзяешся на мастацкае адкрыццё, якое прымусіць беларусаў яшчэ больш усведамляць сваё слаўнае мінулае. З другога боку, цікавіла асоба аўтара, напаўзабытая новым пакаленнем чытачоў і маладымі ўдзельнікамі літаратурнага працэсу. Між тым, быў час, калі Васіль Гігевіч, які актыўна друкаваўся, прычым, у жанрах, мала распрацаваных у айчыннай літаратуры, успрымаўся як лідар маладой прозы.

Калі падыходзіць да аповесці з пазнавальнага пункта гледжання, чытач сапраўды можа атрымаць пэўнае ўяўленне пра першабытны лад. Аўтар здолеў перанесціся ў час да нашай эры, перадаць свядомасць людзей таго часу, іх погляды на прыроду і будову свету. Але пры асэнсаванні "Страчанага шчасця" як мастацкай з'явы давядзецца канстатаваць, што аповесць В. Гігевіча, на вялікі жаль, расчароўвае. Такая катэгарычная ацэнка звязана хутчэй з патэнцыялам твора, які не быў выкарыстаны аўтарам належным чынам.

Галоўная праблема "Страчанага шчасця" бачыцца ў неадпаведнасці матэрыялу прапанаванаму жанру. Бо калі разглядаць твор як аповесць, знайсці ў ім рысы гэтага жанру надзвычай цяжка. Каб вызначыць крытэрыі ацэнкі, дазволю сабе працытаваць урывак з артыкула "Аповесць", напісанага П. Дзюбайлам для "Беларускай энцыклапедыі": аповесць "ад апавядання адрозніваецца больш шырокім ахопам рэчаіснасці, больш складаным сюжэтам, шматгранным раскрыццём характараў. У цэнтры аповесці, як правіла, адна сюжэтная лінія, адзін герой".

Што мы бачым у "Страчаным шчасці"? Так, у творы В. Гігевіча сюжэтных ліній некалькі. Але складваецца ўражанне, што аўтар паспрабаваў ахапіць неахопнае. Апісанне здабычы сома, якога злавілі ў рацэ Пры Ран і два яго маладыя сябры, паказвае знаходлівасць паляўнічых. Намаляваны любоўны трохкутнік (Ран — Мая — Сын мядзведзя) належным чынам перадаў атмасферу першага кахання. Размовы паляўнічага Бабуна з дзецьмі сталі цудоўнай казачнай гісторыяй, што мае дыдактычную накіраванасць. Падарожжа па крэмень, якое ўключала бойку з мамантам і дзікам, прэтэндуе на самастойны твор у жанры прыгодніцкай літаратуры. Нарэшце, сон Рана вырастае ў асобнае фантастычна-філасофскае эсэ. Калі б В. Гігевіч падзяліў крыху больш як сорак часопісных старонак на невялікія апавяданні, кожнае з якіх мела б сваю тэматыку, мог бы атрымацца нядрэнны эфект. Яшчэ адной альтэрнатывай бачыцца стварэнне на аснове "Страчанага шчасця" рамана. Тады б заяўленыя ў творы фрагменты маглі пераўтварыцца ў паўнавартасны твор.

Але гэтым разам у жанры аповесці напаткала няўдача. Калі ўлічыць, што чытач так і не ўбачыў у "Страчаным шчасці" завершанай канцоўкі (канчатковыя лёсы амаль усіх герояў засталіся не тое што невядомымі, але і не прамаляванымі пункцірна), а знешняе дзеянне пераважала над унутраным псіхалагізмам, з-за чаго вобразы большасці нашых прашчураў атрымаліся надзіва спрошчанымі, вынік не самы лепшы. Пакуль што замест паўнавартаснага, цэльнага твора ў аўтара атрымаліся таленавіта зробленыя фрагменты, накіды, якія пры далейшай працы могуць выліцца ў сур'ёзны твор.

Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ

# Агучаны крышталь



"Наш бурны век не любіць хараства", — сказаў паэт. Гэта ён пра мінулае, XX стагоддзе. Сёння ж часам думаеш, што сузіранне вечных каштоўнасцей неўзабаве змогуць дазволіць сабе выключна сібарыты-цынікі альбо людзі душэўна хворыя. Зрэшты, да апошняй кагорты ва ўсе вякі аднагалосна залічаліся паэты — з "нагамі на зямлі і галавой у нябёсах". Бо ў іх свае рахункі і разлікі з рэчаіснасцю. Карысць і *практычная значнасць* паэзіі не вымяраецца спекулятыўнымі канструкцыямі. Аднак калі паэзія ёсць — гэта паказчык; яе няма — таксама вынік і пэўная адметнасць гістарычнага перыяду.

*Нет у поэзии ни смерти,*
*ни начала.*
*Как человек и воздух,*
*кровь и хлеб,*
*Она жива. И, пела иль молчала,*
*Всегда была одной*
*из высших треб.*

У красавіцкім "Нёмане" мяне зацікавілі вершы Таццяны Дашкевіч. І гаварыць пра іх я буду не з той прычыны, што ў нумары няма іншых цікавых матэрыялаў (бо яны ёсць), а дзякуючы ўласнаму досведу навізны, якога і чакаеш пастаянна ад літаратуры і наогул ад пісьма. Нізка вершаў з пункта погляду агульнага не вылучаецца тэматычна з рускамоўнай паэзіі Беларусі: тая ж, па руску кажучы, "надмирность" (як гэта па-беларуску — хіба "беззямельнасць"?) і латэнтная рэлігійнасць. Аднак у вершах Т. Дашкевіч адчуваецца (о як дорага гэта каштуе!) уласны завершаны погляд на самую сябе і прызначэнне паэзіі. У лірыцы — дасканалае развіццё сюжэта (не абарванага на паўкроку і не расцягнутага пугай), дакладнасць і ўцямнасць выказвання спалучана з пэўнай творчай рытміка-сінтаксічнай раскіданасцю, як быццам ненаўмыснай. У замыленым слове цяжка не збочыць на банальнасць. Т. Дашкевіч гэта ўдаецца, і яе паромшчык Гоша, які

*…в кулаке раскуривает "Астру",*
*Пыряет грозно*
*в отмели шестом,*
*Когда к нему*
*его приходит паства*
*И заполняет дряхленький паром.*

— хоць і злучаецца з міфапаэтыкай, але не настолькі, каб стаць у ёй пазнавальным. Магчыма, важней тут якраз дэталі і ўласна апісанні:

*Здесь в каждом*
*одиноком пассажире*
*Есть небо, океаны и земля,*
*Особое понятие о мире*
*И личное понятие рубля.*

У вершы "Сястра" разгалінаваны рытмічны малюнак вабіць успрыняцце, але праз ускладненыя вобразы (якія пры жаданні прачытваюцца) перарываецца вязь сюжэта. Адначасна з тым наступны верш, "Іна", таксама пабудаваны на суплёце метафар, менавіта праз цэласнасць вобраза і вызначанасць адрасата выйграе:

*То несёт, как безумная, бредни,*
*То сминает, как мякиш, судьбу,*
*То нацепит цветастый передник,*
*Одиноко играя в рабу.*

*Да, она не уронит короны,*
*Ей соседский смешон говорок.*
*У инакой иные иконы,*
*Да и норов — взведённый курок.*

Тут заўважаецца, вядома, згушчанасць маўлення і нават гульняслоўе. Аднак і гэта ў творчым метадзе не пануе, хаця і праяўляецца пастаянна. Рэч у тым, што кандэнсуецца не толькі паэтычная фоніка, але і вобразнасць. Вершы зрэдку нагадваюць красворды. Вось жа, на іх таксама заўжды знаходзяцца аматары. Ненайпраставае выказванне спараджае недамоўленасць, якую, адпаведна, хочацца "дамовіць". Вельмі важны тут становіцца фінал. І, трэба сказаць, Т. Дашкевіч імкнецца яго вытанчаць. Так, у вершы "Пастух" апошні катрэн напісаны на адну рыфму, што адмяжоўвае яго ад астатніх радкоў, але ў той жа час спыняе ўвагу і адмыслова падагульняе твор:

*Это бывает —*
*тогда ничего не сберечь,*
*Чудища-юдища*
*прямо ползут по земле,*
*Страшно послушать*
*их потустороннюю речь,*
*Страшно увидеть*
*их водные рыла во мгле.*

*Нынче чуть ветрено,*
*знойно, и солнце слепит,*
*Словно овечки, по берегу —*
*стадо ракит,*
*Только плеснёт*
*в отдалении рыбушка кит,*
***Чистая** рыба —*
*и в тайный воротится скит.*

Тут затоенае не раскрылася, не агалілася, і таму вабіць (вядома, да канца гэта адчуеш, калі прачытаеш верш цалкам).

Больш пабытавыя, хоць і таксама з праекцыяй у сімвал, выглядаюць творы "Транзіт" і "Камыш". Праз іх вобразную адвечнасць слізгае, тым не менш, нешта новае: кампаноўка саміх вобразаў, хутчэй за ўсё. Але ўсё-такі гэта не самыя моцныя вершы.

Наогул уражвае самапэўнасць лірыкі Т. Дашкевіч. І, як ужо вышэй сказана, відавочнасць выпакутаванага права на сваё слова. Як завяршае яна сваю падборку:

*Нет пути и мне, мой друг, иного:*
*Упереться в землю и гореть.*

Інакш, бадай, і не скажаш.

Алеся ЛАПІЦКАЯ

# Непрадказальнасць іншасвецця



Не заўсёды проста пісаць пра падборку з пяці вершаў ці пра апавяданне на шэсць старонак. Таму вельмі ўсцешвае, калі надрукаваны тэкст робіцца ключыкам да "творчай спадчыны" аўтара, адшукаць якую дапамагае Інтэрнэт. Так, з "Рыпучай хацінкі" Кацярыны Мядзведзевай атрымалася трапіць у адмысловы чароўны свет твораў маладой пісьменніцы, знаёмства з якімі зусім не расчаравала.

Апавяданне "Рыпучая хацінка" заваблівае з першага абзаца: хто такі Клякса і навошта насіць яго на плячах, як можна сысці з ненавіснай восені толькі праз тое, што завядзеш гадзіннік? Аўтарка паслядоўна дае адказы на адны пытанні і правакуе чытача на іншыя, і пры гэтым стварае сваю мадэль іншасвецця, якое існуе па адвечных прынцыпах: свет такі, якім ты хочаш яго бачыць, надвор'е ў ім адпавядае тваіму настрою; марна злавацца на нястачу; будзь упэўнены, што знойдзеш, і шукай. Іншасвецце ў апавяданні дакладна такое, якім яго ўяўляюць ягоныя насельнікі (пераважна нябачныя адзін для аднаго). Усё намысленае, пажаданае ці прамоўленае неадкладна ажыццяўляецца — іншыя асаблівасці гэтага свету героі вывучаюць пакрысе і самастойна.

Гісторыя стасункаў між героямі — былым таксістам і цяжарнай Асяй — напісаная проста, але мае сваю глыбіню (як, зрэшты, і павінна быць). Ася — увасабленне жаночага, прычым не толькі вонкава (ружовая сукенка, жывот, палахлівасць, чуллівасць), але і архетыпова. Жанчына нясе святло і цеплыню ў жыццё незадаволенага, скептычнага мужчыны, яна робіць утульным і ўладкаваным ягоны побыт, наладжвае стасункі з іншымі. Нават рыпучая хацінка пры набліжэнні госці пачынае кучаравіцца плюшчом. "А ад дзяўчыны больш карысці, чым шкоды", — па-мужчынску практычна заначае герой, якога напачатку адштурхоўвала сентыментальнасць і рамантычнасць Асі — і ў хацінцы ўтвараецца "амаль звычайная" сям'я.

Варта адзначыць вялікую ўвагу, клапатлівую ахайнасць, любоў пісьменніцы да сваіх герояў, да створанага ёю мастацкага свету, што даволі рэдка сёння сустрэнеш. У некаторых творах К. Мядзведзева перабольшвае з дэталізацыяй чароўнага казачнага антуражу — у "Рыпучай хацінцы" апісанні не падаюцца празмернымі, але пералік разнастайных страў хатняй кухні (ад рыбнай юхі да чарнічнага пірага), бадай, завабіць кожнага ва ўласную варывеньку. Да таго ж, з'яўляюцца думкі пра смак іншасветнага, даволі спакойнага жыцця, дзе ўсе дзівосы прыемныя і бяспечныя — нават пачвара, якая спускаецца з неба па лесвіцы; белая і ціхая, яна салодка спіць у бярлогу…

Улюбёны жанр Кацярыны Мядзведзевай — казка. Піша пісьменніца на рускай мове, але пераклад "Рыпучай хацінкі" (відаць, аўтарскі) дае падставу меркаваць, што ўсе яе казкі могуць быць выдатна пераствораны на беларускай мове. Кацярына Мядзведзева ўжо знайшла сваё рэчышча, свой стыль, сваю суаднесенасць падзейнага, інтэлектуальнага і апісальнага. "Рыпучая хацінка" — напраўду адзін з самых удалых на сёння твораў пісьменніцы. І добра было б, каб побач з ім пабачылі свет перакладзеныя на беларускую мову "Разламашкі майстра Люфта".

Асаблівасць казак Мядзведзевай — адсутнасць дыдактызму, памкнення да размежавання герояў на станоўчых і адмоўных, ілюстравання "правільных" форм паводзін і стасункаў. Шмат якія творы, гэтаксама як "Рыпучая хацінка", маюць адкрыты фінал: замест таго каб падводзіць рысу і фармуляваць мараль, лепш яшчэ на імгненне пакінуць чытача ў казачным свеце, даць яму магчымасць агледзецца і ўявіць працяг. Няма ў творах гэтай аўтаркі і нагрувашчвання нечаканых здарэнняў ды фантастычных персанажаў. Зусім не гэта патрэбна сапраўднаму казачніку, ці, дакладней, яго чытачам. Вабіць у казках найперш ірацыянальнасць, непрадказальнасць іншасвецця, дзе далёка не ўсе здарэнні і героі павінны размяркоўвацца па табліцы "добрае — кепскае". Вабіць прыгажосць і незвычайнасць чароўнага свету, вабіць арыгінальнасць высноў, да якіх падводзіць, а не штурхае пісьменніца, вабіць яго ўласнае захапленне створаным. І сапраўды добра, калі казачнік дапамагае зразумець, у чым адмысловасць і вартасць казкі.



Павел Саковіч

Вось і прыйшоў гэты слаўны юбілей: у няспынных клопатах, добрых справах і напружанай творчай працы Павел Саковіч размяняў сваё сем дзясяткаў. Нарадзіўся ён за месяц перад вайной у горадзе Орша, але ў хлапечую памяць на ўсё жыццё ўрэзаліся жахлівыя малюнкі нямецкай акупацыі. Потым была цяжкая пасляваенная барацьба за сваё месца на зямлі. Скончыў школу і гістфак Белдзяржуніверсітэта, служыў у арміі, працаваў на заводзе, у рэдакцыях аршанскай "раёнкі" і рэспубліканскай "Чырвонай змены", у партыйных камітэтах і Міністэрстве культуры, загадваў культурна-масавым аддзелам Белсаўпрофа, быў намеснікам старшыні Рэспубліканскага савета па турызму. У 1996 годзе вярнуўся да журналісцкай і літаратурнай дзейнасці: стаў загадчыкам аддзела часопіса "Полымя", затым перайшоў у "Вожык", дзе, дарэчы, працуе і цяпер. Напісаў шмат кніжак прозы, паэзіі, сатыры і гумару, твораў для дзяцей. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя К. Крапівы ў галіне сатыры і гумару, а таксама прэміі Васіля Віткі за творы для дзяцей.

Бадай, як ніхто іншы, Павел Саковіч любіць сустрэчы з чытачамі. Ездзіць па рэспубліцы, часта бывае ў Оршы, на радзіме У. Корбана ў Барані. Сустракаецца з землякамі ў бібліятэках, музеі У. Караткевіча, навучальных установах горада. А яшчэ ён аўтар тэксту гімна Оршы. Трэба сказаць, земляки адносяцца да слыннага паэта з такой жа шчырай і прыязнай любоўю.

**Віктар ГАРДЗЕЙ**

## Матчына мова

Гаворку вяду з беларусам "тыповым",
Ды чую ў адказ я не нашыя словы.
Нібыта не крэўныя мы, а чужыя,
Ці ведаем самі, хто ёсць мы такія?
Хапіла нам ліха, жывём беднавата,
Без матчынай мовы —
бацькоўская хата.
Ці вернецца памяць
да ўсіх нас калісьці
На словы і песні,
што чулі з калыскі?
Каб мы гаварылі з усімі нароўні
На мове прыгожай,
спрадвеку шаноўнай.
Каб нас не лічыў
хтосьці белай варонай
І больш не касіўся
ў наш бок падазрона.
А можа, настрой мой
журботны заўчасны:
Прарэжацца ўрэшце
наш голас выразны?
З народамі станем
братацца нанова,
Бо ў нас, як і ў іх,
будзе матчына мова!

## Ветрык

Ён з краю роднага прымчаў
І мне прынёс, як прывітанне,
Знаёмы водар кветак, траў,
Лясоў гаючае дыханне.

У ім пачуў я шум дуброў,
Аршыцы ціхае журчанне…
Паабяцала сто гадоў
Зязюлі шчодрае куванне.

Чутны мне блізкіх галасы,
Нібы я зноў у роднай хаце.
Цярэбіць ветрык валасы
Пяшчотна, як рукою маці.

Я на шчацэ сваёй адчуў
На нейкі момант след гарачы…
Слязіну ветрык мне змахнуў,
Каб хто чужы яе не ўбачыў.

## Самотны верш

Памяці Алеся Пісьмянкова

Не пацячэ назад рачулка,
Ды раптам запаволіць плынь.
І гай працяглым стогнам гулкім
Сустрэне горшую з навін.

Асірацела рэчка Бесядзь,
І родны край знямеў, прыціх.
Блукае толькі рэха дзесьці
Алесева ў лясах грыбных.

Прысуд заўчасны і суровы —
Плыць Стыксам,
мёртваю ракой,
Але душа яго і слова
Зліліся з Бесяддзю жывой.

Што сэрцу міла, ім апета,
І хоць пайшоў ён назаўжды,
Ды голас боскага паэта
Гучыць для нас з таго сусвету
Праз межы вечнай немаці.

## Мае гімны

Мой першы гімн —
Жанчыне той,
Якая Свет мне падарыла.
І сонцу гімн асобны, свой,
І Оршы гімн — радзіме мілай.

Мне гімн каханню не забыць,
Шчымлівы гэткі і напеўны.
І гімн свабодзе загучыць:
Такі ствараецца, напэўна.

А Богу гімн — нібы вянец
Маёй удзячнасці без краю…
Багаславі той гімн, Айцец,
Які душа сама спявае!

## Аб зямным і вечным

Так хочацца спакою, цішыні,
Каб прызадумацца аб вечным,
Узняцца да касмічнай вышыні,
Прайсціся, можа,
Шляхам Млечным…

Сваё сузор'е ў цемры адшукаць,
Нібы акенца роднай хаты,
І каб за плечы, як братоў, абняць
Маіх ахоўнікаў — Блізнятаў.

А думкі болей —
аб крыжы зямным,
Які гняце душу і плечы.
Мы гэтым светам мала даражым,
Бо так спяшым вярнуцца ў вечнасць.

## Груганы

Пражыў нямала я,
ды што з таго,
Калі да шчасця
не дажыў свайго.
Чаму жар-птушку
так і не злавіў?
Пяра яе —
і тое не здабыў!
А можа, пашанцуе
раптам зноў:
Жар-птушка вернецца
з юнацкіх сноў?
З надзеяй азірнуўся я.
Адны
Сядзяць наўкол, чакаюць…
груганы.



Фота Алеся Высоцкага



Яна Явіч

## Стаўлю клічнік

* * *

Контуры знаёмага горада…
Сёння ўжо не вернемся.
І — увогуле…
Ад'язджаем… Сум і маўчанне.
Жаданне сысці з цягніка,
збегчы куды-небудзь.
Але — нельга…
Наперадзе — невядомае…
Чаго чакаць ад лёсу ў далейшым?..
Бясконцы ланцуг падзей.
Штосьці такое… вечнае,
Даўжынёй у жыццё.
… Абрысы невядомага
(а яно так блізка!..)
І — наогул…

* * *

Ліст...
Лета паставіла клічнік (!).
Белы аркуш паперы
Для чарговага верша
Пакуль застанецца чыстым.
Часу няма на сустрэчу...
На лірыку...
А гэта — пішу не табе.

* * *

Крычала неба — дарыла крылы.
Крычалі крылы, спаткаўшы неба.
Крычалі зоркі — шматгалоссем
Сузор'я Рака (а можа, Льва)...
І толькі Месяц не хваляваўся —
Ён быў спакойны, як і заўжды...

* * *

Гадзіннік б'е дванаццаць. Смутак. Цемра.
Я зноў адна — адлічваю хвіліны.
Па крузе крочаць стрэлкі — ціха, мерна,
І час цячэ — няўмольны, несупынны.

Радкі ліста — як перлінкі караляў.
Твой Інтэрнэт адключаны надоўга...
Я — моўчкі. І ніякіх дакаранняў.
Адказваеш бясслоўным маналогам.

Імгненні крокаў — лесвіца — кватэра.
Гадзіны — ад расстання да сустрэчы.
Ты кажаш, што галоўнае — кар'ера,
А я сумую — зноў адна, дарэчы.

* * *

Чырвонае — сунічнік,
А за страфой — страфа…
Я стаўлю яркі клічнік
Пад гукі "ля-ля-фа".

Суджэнняў лаканічных
Дапісваю раздзел…
І раптам — стаўлю клічнік! —
Крок…
Дымка…
Думка…
Стрэл!

* * *

У жменьку збіраю кавалачкі сну.
Прысвечана марам
старонка жаданняў.
І ўсё ж на хвілiначку ў неба зірну:
У зорках жыве
старадаўнасць паданняў.

А заўтра згатую духмяны настой
І зноў зачарую цябе, мой філосаф.
Ужо надакучыў сваёю лухтой,
Што ты —
н а р а д ж э н е ц нябёсаў!

* * *

Кожны мой дзень пачынаецца
Дотыкам вуснаў тваіх,
Кубкам духмянай гарбаты,
Лёгкім радком…

Кожны мой дзень пачынаецца
Промнямі сонца,
А калі іх няма,
То — бліскавіцамі…

Кожны мой дзень пачынаецца
Цікаўнымі пераглядамі з дысплеем:
"Ну што, засумаваў?"
"Ну што, нафантазіравала?"

Ці варта казаць,
Што кожны мой дзень
пачынаецца
з цябе?..

* * *

Цярноўнік да крыві расфарбаваў далоні.
Па вострыі ляза (або па тонкім шкле)
Я да цябе іду… Нябёсы ні пры чым —
Яны вышэй за ўсё і толькі назіраюць.
А я абрала шлях: ты клічаш да сябе —
Да зорак. Да вышынь. Да сонца.
Да Жыцця!

* * *

Мы на некалькі слоў адышліся,
А на сотні радкоў ліставанне.
Нашы лёсы як быццам спляліся…
Мы не ведалі: хутка — расстанне.

Ты ад'ехаў, а я засталася
Зноў адна — на асеннім пероне.
Шэпт лістоты — мелодыя вальса.
У абдымках дажджу дзень патоне…

# Кніжны свет

27 мая 2011 г.

Марына ВЕСЯЛУХА,
фота Юргена Баўэра

# Прыгажосць ці праўда?

**Адным з самых яркіх і запамінальных чытанняў, што прайшлі падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу, стала сустрэча з нямецкім пісьменнікам Клеменсам Маерам. Кароткае інтэрв'ю з аўтарам, а таксама ўрывак з яго рамана "Калі мы марылі" ў перакладзе на беларускую мову прадстаўляем увазе чытачоў "Кніжнага свету". Дарэчы, у хуткім часе твор можна будзе прачытаць цалкам: ён выйдзе на рускай мове ў адным з расійскіх выдавецтваў.**




**— Клеменс, у цэнтры вашай пісьменніцкай увагі сацыяльная тэматыка. Наколькі гэты кірунак актуальны ў час засілля фэнтазі?**

— Чаму я гэта раблю, нават не ведаю. Справа ў тым, што я жыву ў такой мясцовасці, у такім раёне, дзе жывуць не надта багатыя людзі. Таму пішу пра тое, што бачу кожны дзень. Я сустракаюся з гэтымі людзьмі, некаторыя з іх беспрацоўныя, некаторыя маюць іншыя цяжкасці. Магчыма, калі б я паходзіў з іншай сям'і ці вырас бы ў іншым квартале, я пісаў бы зусім пра іншыя рэчы.

**— У такім выпадку, якая з функцый літаратуры: рэалістычнасць, адлюстраванне праўдзівага жыцця ці літаратура для паказу прыгажосці — для вас найбольш актуальная?**

— Для мяне маюць права на існаванне і першае, і другое стаўленне, калі абедзве гэтыя пазіцыі нейкім чынам сустракаюцца, перасякаюцца. Я не лічу, што літаратура, мастацтва павінна быць толькі такім, як у мяне. Гэта могуць быць, напрыклад, вершы ці пейзажная замалёўка. І я не бачу супярэчнасці ў тым, каб літаратура з аднаго боку была рэалістычнай, а з іншага — мела вельмі высокія прэтэнзіі на эстэтыку. Літаратура — гэта для мяне заўсёды таксама і музыка. Аднак гэтая музыка не проста існуе сама па сабе, яна транспартуе нейкую драму, і гэтая драма мае сацыяльныя карані. Часам гэта не музыка, а рытм гукаў, скажам, аўтамата — "тра-та-та-та". І гэта музыка, гэты рытм павінен нешта несці, расказваць пра наша грамадства, пра людзей. І гэта гісторыя павінна быць пабудавана як добрая драма.

**— Наколькі для вас важная зваротная рэакцыя чытача?**

— Вядома, для мяне важная зваротная рэакцыя, але я пра гэта не думаю, калі пішу. Канечне, тое, як адгукнецца яго слова, цікавіць кожнага пісьменніка, бо кожны пісьменнік хоча, каб ягоныя творы закранулі, каб яны штосьці прывялі ў рух у чалавеку. Добрая літаратура заўсёды выклікае ў людзей эмоцыі, гэта могуць быць смех, плач, лютасць.

**— Каго лічыце сваім настаўнікам у літаратуры?**

— Сапраўды, у мяне ёсць літаратурныя настаўнікі, у першую чаргу гэта амерыканскія пісьменнікі. Эрнест Хемінгуэй — ад яго я шмат чаму навучыўся. Аднак магу назваць і іншых. Гэта Антон Чэхаў, Іван Тургенеў… Яны для мяне былі вельмі важныя. Сярод літаратурных настаўнікаў ёсць і нямецкія пісьменнікі. Я з самага дзяцінства займаўся літаратурай, чытаў, я ўвогуле шмат чытаю.

***На працягу васьмі год у школе Клеменс вывучаў рускую мову, таму і аўтограф чытачам "Кніжнага свету" пакінуў па-руску: "Мир и дружба".***

Клеменс МАЕР

# Дзіцячыя гульні

Я ведаю адзін дзіцячы вершык. Я мармычу яго сам сабе, калі думкі ў маёй галаве пачынаюць скакаць па-вар'яцку. Мне здаецца, мы напявалі яго, гуляючы ў класікі, але можа быць, я сам яго выдумаў альбо проста прысніў. Часам я варушу вуснамі і бязгучна прамаўляю яго, часам проста пачынаю мармытаць і нават не заўважаю гэтага, бо ў галаве кідаюцца ў скокі ўспаміны, не, не проста якія-небудзь, а ўспаміны пра час пасля вялікага пералому, пра тыя гады, калі мы ўстанавілі кантакт.

Кантакт з рознакаляровымі аўтамабілямі, півам "Хольстэн Пільзэнэр" і настойкай "Егэрмайстэр". Нам тады было каля пятнаццаці, і "Хольстэн" быў занадта аскомістым, таму пілі мы звычайна, кіруючыся нацыянальнай самасвядомасцю, піва "Ляйпцыгер Прэміум Пільс". Гэта было выгадней, бо здабывалі мы яго непасрэдна ў двары півоварні. Звычайна ноччу. Бровар, дзе гатавалі "Ляйпцыгер Прэміум Пільс", быў цэнтрам нашага квартала і жыцця. Пачатак прапітых начэй на гарадскіх могілках, бясконцыя разбуральныя оргіі і танцы на аўтамабілях падчас сезона моцнага сакавіцкага піва.

Арыгінальны разліў лейпцыгскага бровара быў для нас нібы светлавалосым джынам з бутэлькі, які прыемна хапаў нас за валасы і падымаў над мурамі,ператвараў машыны ў самалёты, пазычаў нам свой дыван, на якім мы адляталі прэч і плявалі на галовы паліцыянтаў.

Але звычайна гэтыя дзіўныя начныя палёты-мроі заканчваліся прызямленнем у выцвярэзніку альбо ў калідорах паўднёва-ўсходняга паліцэйскага ўчастка, дзе мы сядзелі прыкутыя наручнікамі да батарэй.

Калі мы былі дзецьмі (ці можна ў пятнаццаць гадоў называцца дзіцем? Напэўна, мы не былі ўжо дзецьмі, калі першы раз стаялі перад суддзёй, звычайна жанчынай, ці калі яны першы раз ноччу прывозілі нас дадому, а на наступны дзень мы ішлі ў школу, а можа, і не ішлі, а адбіткі праклятай "8" усё яшчэ заставаліся на нашых тоненькіх ручках), калі мы былі мілымі дзецьмі, цэнтрам квартала для нас было вялікае "Нацыянальнае прадпрыемства па выпуску пластыкавых цацак і штампаў", адкуль адзін нічым не прыкметны для нас аднакласнік праз сваю маці, якая вырабляла мяккія часткі пячатніцы, даставаў нам штампы і маленькія машынкі, за што не атрымліваў ад нас лупцуноў, а часам нават атрымліваў пару капеек. У 1991 годзе прадпрыемства збанкрутавала, яго будынак быў знесены, а маці малога ўкрывальніка штампаў і мадэльных аўтамабіляў засталася беспрацоўнай і павесілася на падворным туалеце, за што нічым не прыкметны аднакласнік і надалей не атрымліваў ад нас лупцуноў, а часам нават атрымліваў пару капеек. Цяпер на тым месцы стаіць крама "ALDI", дзе я мог бы танна купіць піва альбо спагеці.

На самай справе з маці таго хлопца ўсё было інакш. У 1992 годзе яна знайшла працу на новай запраўцы "Shell" і заўсёды рабіла выгляд, што не пазнае нас, калі мы куплялі ў яе піва альбо шнапс, таму што на дварэ была ноч і крамы былі зачыненыя а муры півоварні часам былі занадта высокія.

Было здорава, што бровар прысутнічаў заўсёды, нават калі мы яго не бачылі, таму што якраз пару вуліц далей дапамагалі адной бабульцы данесці да дому сумку, альбо таму што была ноч (я маю на ўвазе гэтыя страшэнна цёмныя зімнія вечары, калі бачыш толькі агні і на душы неяк маркотна), альбо таму што мы заплюшчвалі вочы, праходзячы міма. Вялікая старадаўняя півоварня, дзе гатавалі "Ляйпцыгер Прэміум Пільс", прысутнічала заўсёды. Мы адчувалі яе водар. Яна сапраўды пахла неяк страшэнна прыемна вострым хмелем, амаль што як чорная гарбата, толькі шмат лепей. Калі вецер быў спрыяльны, мы чулі гэты пах за кіламетры.

Яшчэ і цяпер я адчуваю яго, калі адчыняю акно, хоць і знаходжуся далёка, але ніхто не хоча пра гэта нічога ведаць. Ды і адкуль ім гэта ведаць? Я нічога ім не расказваў, а калі бяссоннымі начамі мы ляжым у сваіх ложках, я затыкаю сабе рот канцом коўдры, каб не расказваць пра тыя шалёныя часы.

(Працяг на стар. 10)

*Прэзентацыя*

# Дыялог паміж культурай і верай

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,
фота Наталлі Купрэвіч

Прэзентацыя альбома "Падрыхтуйце дарогу Пану", прысвечанага візіту ў нашу краіну Дзяржаўнага Сакратара Яго Святасці Бенэдыкта XVI кардынала Тарчызіо Бэртонэ, адбылася ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі.

Арганізатарамі мерапрыемства былі Пасольства Суверэннага Вайсковага Мальтыйскага Ордэна ў Рэспубліцы Беларусь, Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь і Нацыянальная бібліятэка Беларусі.

Падрыхтаваны агульнымі намаганнямі выдавецтва "Pro Christo", інтэрнэт-партала Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, ксяндзоў Ігара Лашука і Аляксандра Амяльчэні, альбом з'яўляецца фотахронікай сустрэч кардынала Бэртонэ, якія адбыліся ў 2008 годзе на беларускай зямлі. Аўтарам каментарыяў да беларуска-італьянскага альбома стаў магістральны капелан Пасольства Суверэннага Вайсковага Мальтыйскага Ордэна ў Рэспубліцы Беларусь Ян Кош'яр.

Як адзначыла намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людміла Кірухіна, выданне рыхтавалася працягу паўгода. Прэзентацыя альбома супала з візітам у Беларусь Яго Высокапраасвяшчэнства архіепіскапа старшыні Папскага Савета па масавай камунікацыі Клаўдыа Марыя Чэлі. "Наша мэта — будаўніцтва мастоў і кантактаў, а не разлучэнняў і падзелаў", — падкрэсліў ён у сваім выступленні. Агульны клопат — вяртанне сучаснага чалавека да вышэйшых каштоўнасцей з дапамогай культуры і веры.

Выданне прадстаўнічага класа, урачыста перададзенае ў дар Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, павінна стаць сімвалам канструктыўнага супрацоўніцтва паміж Ватыканам, Мальтыйскім Ордэнам і Рэспублікай Беларусь, адзначалі выступоўцы.

У мерапрыемстве прымалі ўдзел Пасол Суверэннага Мальтыйскага Ордэна ў Рэспубліцы Беларусь Пауль Фрыдрых фон Фурхер; Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч; другі сакратар Пасольства Суверэннага Вайсковага Мальтыйскага Ордэна ў Рэспубліцы Беларусь Ян Кош'яр; прадстаўнікі міністэрстваў, ведамстваў, дыпламатычнага корпуса ў Рэспубліцы Беларусь.




***На здымку: альбом "Падрыхтуйце дарогу Пану" прадстаўляе намеснік дырэктара па навуковай рабоце і выдавецкай дзейнасці Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Людміла Кірухіна.***

(Заканчэнне.
Пачатак на стар. 9)

# Дзіцячыя гульні

У такія ночы я ўспамінаю Альфрэда Хэлера, якога мы называлі Фрэдам і чый твар ад вечных п'янак нібы пакрыўся цёмна-сінім цвілым налётам. Ён быў на пару гадоў старэйшы за нас, але ўсё адно выглядаў на пятнаццаць, насіў круглыя акуляры, нібы добрасумленны вучань, але пры гэтым без вадзіцельскага пасведчання ганяў па квартале і па ўсім горадзе на скрадзеных або за бясцэнак купленых аўтамабілях. Было незвычайна ў яго машыне, дзе з-за раскіданых бляшанак ад піва амаль што не было месца. Едучы, мы вытваралі самыя дзіўныя рэчы. Як толькі мы сядалі да яго, нешта рабілася з намі, нешта давала нам пачуццё абсалютнай свабоды і незалежнасці, якога мы дагэтуль не ведалі і якое цяпер з ровам вырывалася з нас; здавалася, што патоўчаныя машыны Фрэда заваражыла мая суседка-ведзьма, якая трымала пяць котак. Часам мы выкарыстоўвалі апушчаную бакавую шыбу як дошку для сёрфінгу, а другой рукой трымаліся за дах. Гэта можна было параўнаць з катаннем на каруселі пасля выпітай бутэлькі 80-градуснага рому маркі "Штро".

Аднойчы, калі мы ноччу імчаліся праз горад, п'яны Фрэд адпусціў руль і сказаў: "Чорт, не магу болей". Я сядзеў ззаду разам з нашпігаваным наркотыкамі Маркам і тады яшчэ чыстым Рыка, і мы таксама болей не маглі і заўважалі толькі агні нашага горада, што хутка мільгалі міма нас. А калі б малы Вальтэр, які сядзеў спераду каля нечакана асалавелага Фрэда і якому я пазней *двойчы* за *адну* ноч выратаваў жыццё (шмат часу пасля гэтага, ужо іншай ноччу, ён усё адно пакінуў нас), — калі б Вальтэр не схапіўся за руль, сеўшы на часткова з'ехаўшага з сядзення Фрэда, і не спыніў аўтамабіль, спаліўшы пры гэтым гуму на калёсах, то я б ужо не жыў ці, можа, застаўся б без правай рукі і падпісваў бы ўсе паперкі толькі левай.

У Фрэда Хэлера быў яшчэ брат Сільвіа. Сільвіа не валодаў крымінальнай энергіяй Фрэда, але затое ён гуляў у шахматы. Браты жылі разам, і ў той час як Фрэд&Co займаліся ў гасцёўні самымі сумнеўнымі справамі, мы з Сільвіа гулялі на кухні ў шахматы. Ён па-свойму тлумачыў правілы, але я прымаў іх, бо, паставіўшы свайго слана на бутэльку ад шнапсу і ставячы тым самым мне, а дакладней, майму каралю шах і мат, ён расказваў, што ГДРаўскія дактары ў "гета" змарнавалі яго і яму заставалася жыць толькі пару гадоў. Штосьці з гэтага было праўдай, бо ён сапраўды кульгаў на адну нагу, а левая рука ў яго была амаль што паралізаваная. Яшчэ калі-нікалі яго твар жахліва перакручваўся, ён закатваў вочы, пакуль іх бялкі не зелянелі, і зноў і зноў біўся галавой аб шахматную дошку (я страшэнна баяўся, што які-небудзь востры слон прlколе яму вока). Усё гэта так моцна ўражвала мяне, што, нават выйграючы, калі, паводле яго трактавання, мой конь "гвалціў" яго караля, я хуценька здаваўся, гэта значыць, адгрызаў свайму каралю галаву, засоўваў яго ў чатырохзоркавую маразільную камеру і збягаў у гасцёўню да Фрэда&Co, дзе мы займаліся самымі сумнеўнымі справамі.

Дактары ў гета змарнавалі яго. Я доўгі час не мог зразумець, што значыць гэтае "гета" ў расповедах Фрэда і яго брата. Бацькі адмовіліся ад іх, і яны шмат гадоў правялі ў інтэрнаце закрытага тыпу для цяжкіх дзяцей і падлеткаў, у гета, дзе яго, напэўна, крыху перакармілі антыдэпрэсантамі і перакалолі заспакаяльнымі сродкамі, якія пасадзілі яму печань і ныркі; часам ён расказваў пра нейкія эксперыменты, але тут я яму не веру. Аднойчы я спытаў Фрэда, ці падтрымлівае ён яшчэ кантакт з бацькамі. "Не, — сказаў ён, — калі я іх калі-небудзь убачу, мой нож дакладна знойдзе падстаўку". Цяпер падстаўку, калі падзьме вецер, верагодна, атрымае стары Фрэд, бо засеў ён на нейкай чортавай зоне. Я не ведаю дакладна, якую штуку ён утварыў у апошні раз, што трапіў у гэты будынак, я толькі магу сказаць, што ён ужо –ццаты раз быў на перавыхаванні і што заведзеную на яго справу можна параўнаць са шматтомнай энцыклапедыяй; таксама я ведаю гісторыю, якую расказвалі і якая з часам ператварылася амаль што ў байку.

Ён імчаў па горадзе, паліцыянты гналіся за ім, была ноч, ён меў звычайны градус, але нечакана яго нібы шыбанула. Напэўна, ён запланаваў апошняе шоу. Са стылем. Поўны тормаз. Аўтамабіль перакруціўся. Поўны газ. Пратараніў адну паліцэйскую машыну. Пратараніў другую. Задні ход. Тое самае яшчэ раз. Не ведаю, колькі разоў. Але напрыканцы паліцыянты ўжо не маглі адчыніць дзверцы. Тады з машыны выйшаў ён, падняў рукі, нібы Білі Кід, і сказаў: "Здаюся".

Я не ведаю, ці вылезлі паліцыянты са сваіх "гармонікаў" праз дах, але першаму, які, гайдаючыся, падышоў да яго, ён адным ударам зламаў нос. З таго часу Фрэд знік. Прычым напярэдадні ён сказаў мне, што больш ніколі не вернецца ў гета і што ён хоча скончыць з усім гэтым паскудствам. І я амаль што паверыў. Бо калі мы — Фрэд, я і мой стары школьны прыяцель, ужо тады нашпігаваны наркотыкамі Марк — былі аднойчы ў кнайпе і нейкія тыпы распачалі з Фрэдам сварку (пэўна, гэта былі старыя разборкі), ён ніяк на іх не адрэагаваў, не адрэагаваў і тады, калі яны вылілі яму ў твар піва. А калі я схапіўся за табурэт, ён сказаў: "Даніэль, спакойна, кінь ты, гэта мая справа". Тыя тры тыпы стаялі разам з намі ля барнай стойкі, адзін з іх так штурхануў Фрэда, што ён зваліўся з крэсла. Яго акуляры трэснулі, і ён зноў начапіў іх; жмурачыся праз разламанае шкло, ён сказаў мне: "Даніэль, спакойна", а ім: "Я нічога вам, сікунам, не скажу, я на выпрабавальным". Ён паўтараў гэтыя словы, пакуль яны пхалі яго, а адзін даў яму колькі разоў па твары. Тады Фрэд дастаў з кішэні сцізорык, пстрык, лязо выскачыла, левую руку ён паклаў на стойку, а правай загнаў лязо праз руку ў драўляную паверхню бара. "Вы гэтак проста не пазбавіцеся ад мяне, мурзатыя гаўнюкі!" Яны хутка пайшлі, а я выклікаў доктара. Але пакуль ён прыехаў і выцягнуў нож, што даволі глыбока засеў у драўніне, мы з Фрэдам выпілі па пары шклянак пшанічнай, а бармен выціраў кроў, якой было на здзіўленне мала. Фрэд казаў, што ніколі ў жыцці не пачуваў сябе лепей, чым калі быў прыбіты да стойкі.

Мой стары школьны прыяцель, напалову прытомны Марк, што сядзеў каля нас, не разумеў нічога з таго, што адбывалася. І па сённяшні дзень нічога не разумее, бо сядзіць недзе ў пустым белым пакоі, прывязаны да ложка — так яго лечаць ад нарказалежнасці. Ложак. Лечаць ад нарказалежнасці. Мая маленькая Эстрэліта. Я спяваю, я мару, мая маленькая Эстрэліта. Па-сапраўднаму яе звалі зусім не Эстрэліта, але я люблю называць яе так, па-іспанску гэта значыць "зорачка"; а пасля таго як нейкі паўдурак з ёю на пярэднім сядзенні ўрэзаўся ў дрэва, яна пяць тыдняў ляжала ў коме, а калі зноў прачнулася, стала яшчэ прыгажэйшай, чым дагэтуль; такая маленькая і кволая; пару разоў яна строіла мне вочкі. Але я ўжо не памятаю, якога яны ў яе колеру. Я быццам бы закахаўся, бо яна сапраўды была вельмі прыгожай, маленькай... распусніцай. Такі ж маленькі, але не такі прыгожы Вальтэр расказаў мне гэта і параіў забыцца пра яе, бо паў-Лейпцыга (і ён таксама, гэты паскуднік) ведала яе цела да дробязяў, за выключэннем колеру вачэй, вядома. Так малы Вальтэр засцярог мяне ад пранцоў і такім чынам неяк аддзячыў мне за тое, што я яму двойчы за адну ноч выратаваў жыццё.



Малюнак Марысі Лось

Тая ноч прайшла нібы ў сне. Мы сядзелі ў *нашым* парку, праз каторы я праходжу сёння і бачу дзяцей, што гуляюць там жа, у той жа пясочніцы, у якую мы раней сікалі і нярэдка ванітавалі. Тою ноччу Фрэда зноўку злавілі, калі ён стаяў на версе піваварнага мура і падаваў уніз скрынку з півам, дзе чакаў Рыка, якога мы ў яго адсутнасць называлі шалёным Рыка, бо ў часы ГДР ён аднойчы адкусіў кончык носа нашаму піянерважатаму з-за таго, што той хацеў канфіскаваць у Рыка комікс з Капітанам Амерыкай; і Рыка толькі таму не вылецеў са школы, што хутка пасля гэтага выпадку піянераў не стала, а з імі і піянерважатых. Але каб Рыка адкусіў кончык носа паліцыянту, калі той хацеў канфіскаваць скрынку з півам і Рыка, і Фрэда, — гэта няпраўда. Марк, які па задумцы павінен быў прымаць удзел ва ўсёй гэтай акцыі, але па нейкай прычыне наркатычнага характару застаўся незаўважаным паліцыянтам, сядзеў на краі пясочніцы і жангліраваў жвірам, — Рыка ўбачыў гэта і, прабіваючыся праз павукоў і павуцінне, дабег да парку, дзе прагна чакалі Вальтэр, Штэфан, якога ўжо тады называлі пітбультэр'ерам, я і мая хворая на ганарэю Эстрэліта. Мы сапраўды адчувалі страшэнную смагу. Бо незадоўга да гэтага, так бы мовіць, на адкрыццё вечара пабілі адзін напалову легальны Фрэдаў самаход. Фрэд сказаў, што яму гэта машына болей не патрэбна, потым пхнуў нагою ў дзверку, затым мы ўсе разам выдзерлі яе і разбілі ўсе шыбы, пракалолі шыны і гэтак далей. Мне здаецца, што, былі б у нас гэткія ж здольнасці, як у таго француза з Кнігі рэкордаў, мы гэту машыну проста зжэрлі б. Я не ведаю, што здарылася з намі, мы неяк ачмурэлі, пэўна, гэта быў алкаголь, але нешта ўнутры нас "клікнула", перасунула курсор на "навальніца ў галаве". Мая маленькая Эстрэліта з енкам танцавала на даху машыны; мой Божа, як я яе любіў.

Навальніца ў галаве не ўтаймоўвалася і тады, калі Марк распавядаў, дзе былі Рыка і Фрэд. Мы хацелі вызваліць іх і па дарозе ў паўднёва-ўсходні паліцэйскі ўчастак пераварочвалі кантэйнеры для смецця, дарожныя знакі, разбівалі ўшчэнт кожны пяты аўтамабіль. Гэта было нейкім шаленствам, калі мы, смела падышоўшы да жалезнай брамы і назваўшы прычыну нашага з'яўлення, проста атрымалі ад паліцыянтаў у адказ: "Пайшлі вон, заўтра зранку зможаце іх забраць". Пры гэтым нашы грукат, трэск і роў былі дастаткова гучнымі, каб разбудзіць Рыкаву глухую бабулю, якая дрэнна спала, бо Рыка, што жыў у яе, не вярнуўся дадому. Рыкавы рукі былі за спінай, а яны штурхалі яго праз доўгі белы калідор у светлае белае памяшканне да друкаркі, каб скласці пратакол па падазрэнні ў крадзяжы. Мы чулі, як ён адтуль крычаў: "Усё ў парадку, са мной усё добра, мы чэмпіёны!" — быццам ужо тады ён прызвычаіўся да сядзення за кратамі.

На вуліцы Эстрэліта ванітавала на лабавую шыбу прыпаркаванай паліцэйскай машыны, пасля чаго мы хуценька адвезлі яе дадому. А потым у яе кватэры малы Вальтэр скакаў з чацвёртага паверха з-за нейкай дзявулі, якая не захацела з ім любіцца і паехаць на мора; пры падзенні я злапаў яго за каўнер, а гэты звар'яцелы крычаў, не, проста мармытаў: "Аня, я люблю цябе!" — у той час кашуля трэснула, і не здольны больш рухацца Марк сам павіс з акна, спрабуючы выцягнуць Вальтэра. Ужо добра не памятаю, як нам так пашчасціла, што ніхто не скруціў сабе патыліцу; праўда, я памятаю, як малы Вальтэр зрабіў яшчэ адну спробу і кінуўся пад легкавушку; і мы, пасля таго як я выратаваў яго ад расплюшчвання і адцягнуў з дарогі, гайдаючыся і блытаючыся, ішлі дамоў. Усё гэта было нейкім шаленствам, нібы кашмар у летнюю 30-градусную ноч.

Не было такой ночы, каб мне гэта не снілася; і кожны дзень у галаве ў мяне танчаць успаміны; і мяне мучыць пытанне, чаму ўсё сталася менавіта так. Ясна, мы добра пазабаўляліся; але пры ўсім тым, што мы выраблялі, у нас была нейкая згубленасць, якую мне цяжка растлумачыць.

Сёння серада, вось-вось яны адчыняць дзверы і завядуць мяне да споведзі. Я ведаю адзін дзіцячы вершык. Я мармычу яго сам сабе, калі думкі ў маёй галаве пачынаюць скакаць па-вар'яцку.

***Пераклад: Інстытут імя Гётэ ў Мінску, 2011***

# Азбука Морзэ

Чэслава ПАЛУЯН,
Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

● На сайце Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі распачалася онлайн-рэгістрацыя ўдзельнікаў VII Міжнародных кнігазнаўчых чытанняў "Бібліятэкі і палітыка адкрытага доступу да інфармацыі і ведаў", якія пройдуць 10 — 11 кастрычніка 2011 года. Для ўдзелу ў канферэнцыі неабходна прайсці онлайн-рэгістрацыю не пазней як 10 верасня 2011 года.

— У Доме кнігі "Светач" прайшла сустрэча з аўтарамі серыі "Кінараман" выдавецтва "Рэгістр". Падчас імпрэзы пісьменніца Тамара Лісіцкая расказала пра тое, што яе натхніла на напісанне кнігі "Ідыёткі", як праходзілі здымкі серыяла паводле кнігі "Ціхі цэнтр". Тэлевядучая Святлана Бароўская патлумачыла, чаму ёй прысвечана кніга "Анёл у цемры" Юліі Ляшко, а сама аўтарка зборніка аповесцей падзялілася вопытам і сакрэтамі напісання паспяховых сцэнарыяў і раманаў.

● У межах Міжнароднай акцыі "Ноч музеяў-2011" і патрыятычнай акцыі "Званы Перамогі" ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа прайшла прэзентацыя зборніка "Абаронцы роднага краю", што пабачыў свет у выдавецтве "Энцыклапедыкс".

— Завяршыў працу Варшаўскі кніжны кірмаш, што праходзіў у Палацы культуры і навукі польскай сталіцы. У выстаўцы бралі ўдзел 569 экспанентаў з 14 краін, стэнды якіх размяшчаліся на выставачнай плошчы ў 9 тысяч квадратных метраў. На выстаўцы акрамя дасягненняў польскіх кнігавыдаўцоў наведвальнікі пабачылі здабыткі ў гэтай галіне прадстаўнікоў з Арменіі, Аўстраліі, Чэхіі, Фінляндыі, Францыі, Грэцыі, Індыі, Германіі, Расіі, Швецыі, Украіны і Вялікабрытаніі. У межах міжнароднага форуму адбыліся дзясяткі канферэнцый, сустрэч з аўтарамі, прайшлі і спецыяльныя акцыі для дзяцей і моладзі. Як і ў мінулым годзе, кірмаш прайшоў пад знакам развіцця новых тэхналогій.

● Першае месца ў намінацыі "Дэбют" прэстыжнай расійскай прэміі "Интерпрессконʺ атрымаў зборнік апавяданняў "Востраў Рай" Нікі Батхан, выдадзены ў 2010 годзе інфармацыйна-прававым агенцтвам "Рэгістр". Узнагарода была ўручана падчас 22-й расійскай канферэнцыі аматараў фантастычнай літаратуры і культуры, якая ў гэтым годзе прысвячалася 50-годдзю палёту чалавека ў космас. "ИНТЕРПРЕССКОН" — канвент пісьменнікаў і аматараў фантастыкі — праводзіцца з 1990 года. Ганаровым старшынёй з'яўляецца Барыс Стругацкі. Прэміі ("Бронзавы смоўж", "Бяляеўская прэмія", Интерпрескон" і інш.) прысуджаюцца ўсеагульным галасаваннем удзельнікаў канферэнцыі паводле вынікаў года ў некалькіх намінацыях. Сярод лаўрэатаў "Интерпрессконаʺ — Сяргей Лук'яненка, Святаслаў Логінаў, Аляксандр Громаў, Алег Дзіваў і іншыя папулярныя пісьменнікі-фантасты.

— Цягам месяца ў Нью-Ёрку працаваў магазін адной кнігі. Пісьменнік Эндру Кеслер заняўся "монабукінізмам" і змясціў увесь тыраж сваіх мемуараў для продажу ў адной кропцы. Кніга з назвай "Марсіянскае лета" пабачыла свет у сярэдзіне красавіка, і адразу ж на Гудзон-стрыт у Нью-Ёрку пачаў працаваць імправізаваны магазін *Ed's Martian Book* ("Марсіянская кніга Эда"), на яго паліцах змясціліся ўсе тры тысячы асобнікаў кнігі. Гандлёвая кропка існавала роўна месяц, і сам Эндру Кеслер увесь гэты час прастаяў за прылаўкам. Пісьменнік, які назваў праект "монабукінізмам", сцвярджае, што яго арт-інсталяцыя — яшчэ і ўнёсак у глабальную дыскусію пра будучыню друкаванай кнігі ў лічбавую эпоху.

# Весь мир — театр

Денис МАРТИНОВИЧ

**Великий французский писатель Виктор Гюго писал: “Театр не есть страна реального: в нём картонные деревья, полотняные дворцы, тряпичное небо, стеклянные бриллианты, поддельное золото, румяна на щеках, солнце, выходящее из-под земли. Театр в то же время — страна истинного: на сцене — человеческие сердца, за кулисами — человеческие сердца, в зрительном зале — человеческие сердца”. Сегодня мы знакомим читателей “Кніжнага свету” с изданиями, связанными с театром, которые вышли в ООО “Харвест”.**



### Символ витебской сцены

Пожалуй, у каждого театрального коллектива есть свои символы — люди, олицетворяющие развитие театра на протяжении длительного отрезка времени. У Витебского национального академического драматического театра имени Якуба Коласа таким человеком является народная артистка Беларуси **Светлана Окружная**. Уроженка украинского города Черновцы, она закончила Белорусский государственный театрально-художественный институт (курс профессора Дмитрия Орлова). В 1969 году впервые вышла на витебскую сцену и с того времени сыграла более семидесяти ролей: Анютка (“Власть тьмы” Л. Толстого), Четвертак (“А зори здесь тихие” Б. Васильева), Дочь (“Затюканный апостол” А. Макаёнка), Данута (“Клеменс” К. Саи), Франка (“Хам” Э. Ожешко), Жанна д’Арк (“Жаворонок” Ж. Ануя) и ряд других. Снималась и в кино: “Вторая осень”, “Затюканный апостол”, “Плач перепёлки”…

Основу книги **“Всё прожить — и чтобы сердце не разбилось”** составляют размышления автора: о театральном искусстве, своём собственном творчестве (“Я лишь хотела быть Окружной”) и борьбе за жизнь сына (“И свежесть нежного подснежника”). В отдельный раздел включены отрывки из рецензий на спектакли, в которых выступала актриса. Кроме того, известные театроведы, критики, режиссёры — Борис Бурьян, Татьяна Котович, Борис Эрин — делятся на страницах издания своими впечатлениями о творчестве С. Окружной.

### Историк, который был драматургом

Сейчас Эдвард Радзинский известен широкой публике как популяризатор истории. Он ведёт ряд авторских передач на телевидении, а также пишет книги, в которых серьёзные учёные находят неточности. Недаром отдельные эстеты-интеллектуалы критикуют Радзинского за вольное обращение с фактами и называют представителем жанра “фольк-хистори”. Но широкая публика зачитывается его исследованиями, посвящёнными личностям императоров Александра II, Николая II, генсека КПСС Иосифа Сталина и героев Французской революции. Но между тем выпускник Московского историко-архивного института Э. Радзинский начинал свой творческий путь как драматург.

Ведь уже с молодых лет драматург получил популярность, его произведения часто ставились в театрах России и за рубежом. Среди них “Снимается кино”, “Обольститель Колобашкин”, “Монолог о браке”, “Беседы с Сократом”, “Пейзаж со рвом и крепостными стенами”, “Продолжение Дон-Жуана”, “А существует ли любовь?” — спрашивают пожарные, “Лунин, или смерть Жака, записанная в присутствии Хозяина”, “Театр времён Нерона и Сенеки”, “Старая актриса на роль жены Достоевского” и ряд других.



Самыми известными среди них стали несколько произведений, вышедших отдельными изданиями. Это **“Снимается кино”**, **“Приятная женщина с цветком и окнами на север”**, куда вошли одноимённое произведение, а также пьесы “Старая актриса на роль жены Достоевского” и “Монолог о браке”, а также книга **“Театр про любовь”**, в которую вошли пьесы “Чуть-чуть о женщине”, “Она в отсутствии любви и смерти”, “Я стою у ресторана — замуж поздно, сдохнуть рано”.

Одним из самых необычных произведений драматурга стала пьеса “Старая актриса на роль жены Достоевского”. В основе сюжета — судьба актрисы, которая попадает в дом престарелых. Однажды она обнаруживает в гостиной какого-то странного человека, который к тому же прячется от неё под диваном. Кто он? И при чём здесь Достоевский? Спектакли, поставленные на основе пьесы, с триумфом прошли на лучших сценах мира. Его играли в театре “Одеон” (Париж), в “Театр Минэй” (Токио), в театре “Трибунен” (Копенгаген), в “Национальном театре” (Хельсинки), в “Театре Европы” (Париж), в театре “Кокто репетори” (Нью-Йорк), в Лондоне, в Брюсселе и других городах. Французская пресса назвала это сочинение одной из самых удивительных пьес Радзинского, “в которой вымысел становится реальностью… и главный герой в них — театр”.

А вот своему произведению “Монолог о браке” драматург дал подзаголовок “Весёлая пьеса о разводе”. Её суть выражает выстраданная фраза автора: “Не трогайте первых браков, это браки детей”. Сам Радзинский достаточно подробно объяснял свою авторскую позицию: “Первые браки действительно браки детей, правда. Молодые люди воспринимают брак как совместный турпоход. Им кажется, что всё хорошее ещё впереди, а это так, разведка… И они смелы, они смело рушат эти первые браки. К тому же, есть любящие тёща и свекровь: каждая из них знает, какой ужасный мезальянс сделало их чадо. Так что обоим супругам есть куда убежать во время их страстных ссор, есть у кого искать справедливость. Молодому мужу также прекрасно известна загадочная фраза “если бы ты был мужчиной…” Её, видимо, из века в век твердят жёны во время крушения кораблей под названием “первый брак”.

### 104 страницы про любовь

Но самую большую популярность Радзинскому принесла пьеса **“104 страницы про любовь”**. В основу ее сюжета положена история любви бортпроводницы Наташи и физика Евдокимова. Избалованный вниманием, самоуверенный и высокомерный интеллектуал, он был поражён случайной знакомой. Их взаимоотношения прошли через ссоры, непонимания и конфликты.



Сначала лишь Наташа любила Евдокимова. Но тогда, когда ответные чувства родились в душе у героя, их любовь оборвал роковой случай…

“Профессии влюбленных — стюардесса и учёный-физик — стали в те годы особенно важны и символизировали актуальные приметы времени: знаменитые споры между “физиками” и “лириками” — писали уже в наше время критики. — Обе профессии находятся как бы на грани риска, одна требует женственности, красоты, милосердия, другая — мужественности, ума и таланта”.

Режиссёр Анатолий Эфрос поставил произведения в Театре имени Ленинского комсомола (современный Ленком). Постановка оказалась до такой степени успешной, что пьеса разошлась по всем театрам СССР. Одним из них был легендарный ленинградский



БДТ, где главную роль сыграла Татьяна Доронина. Поэтому когда у режиссёра Георгия Натансона родилась идея поставить фильм, сомнений в том, кто будет исполнять роль главной героини, у него не было. Первоначально на роль Евдокимова пробовался Владимир Высоцкий, но вскоре стало ясно, что герои не подходят друг другу по темпераменту. Впоследствии выбор пал на Александра Лазарева-старшего, который благодаря фильму ворвался в элиту советского кинематографа. Фильм стал лидером проката 1968 года (его посмотрело более 40 млн. зрителей) и получил Гран-при Международного кинофестиваля в колумбийской Картахене.

Кроме того, уже в наше время появился ремейк фильма — “Небо. Самолёт. Девушка” с Ренатой Литвиновой и Дмитрием Орловым в главных ролях. Чем не свидетельство того, что драматургия Радзинского по-прежнему востребована среди современников?

## Среда обитания

Юзефа ВОЛК



Человек не может существовать отдельно от окружающей среды. Это аксиома. Он является частью биосферы, живёт и функционирует в ней. Но бурный рост промышленности, тотальная урбанизация, интенсификация использования земельных ресурсов в сельском хозяйстве, внедрение новых технологий и — к сожалению — техногенные и экологические катастрофы сегодня всё чаще ставят перед человечеством задачи по охране биосферы от негативных воздействий. Охране не только биосферы, но и человека в ней. Поэтому экологические проблемы вызывают интерес общественности, стимулируют изучение роли химических элементов в жизнедеятельности человека.

Но в этой связи возникает вопрос: может ли наша наука ответить на все запросы общественности о влиянии химических элементов, содержащихся в биосфере (в наличии и в норме) на организм человека? Как они связаны с социально значимыми заболеваниями?

Держа в руках книгу **“Биоэлементный статус населения Беларуси: экологические, физиологические и патологические аспекты”** под редакцией **Н. А. Гресь** и **А. В. Скального**, можно смело ответить — может.

На рубеже XX — XXI веков, благодаря доступности современных методов диагностики, исследователями Беларуси и России накоплен уникальный фактический материал по изучению связи содержания химических элементов в системе “человек-окружающая среда”. В этой книге представлена имеющаяся информация о биологической роли химических элементов в жизни человека и стратегии научного поиска в современной биоэлементологии. Книга представляет несомненный практический интерес. Более того, издание совместного труда учёных России и Беларуси расширяет возможности развития биоэлементологии в обеих странах.

Працяг. Пачатак у № 4, 6 — 20.

# Сведения о субъектах хозяйствования, имеющих специальное разрешение (лицензию) на осуществление издательской деятельности, по состоянию на 1 января 2011 года

* 1—официальная литература, 2—научная, 3—научно-популярная, 4—производственно-практическая, 6—учебная, 7—массово-политическая, 8—справочная, 9—для досуга, 10—литературно-художественная, 12—духовно-просветительная.

| Наименование лицензиата | Местонахождение лицензиата (юридический адрес) | Учётный номер плательщика (УНП) | Сведения о лицензии (№ бланка лицензии, дата и № приказа о выдаче) | Составляющие издательской деятельности: по тематическим направлениям | Срок действия лицензии |
|---|---|---|---|---|---|
| «Рымска-каталіцкая парафія Святога Сымона і Святой Алены», религиозная община | 220050, Минск, ул. Советская, 15 | 100582070 | 0131937 выд. 30.04.2004 № 94, ан.25.03.10 № 37 | 3, 8, 10, 12 | |
| ООО «Промкомплекс» | 220021, Минск, пер. Бехтерева, 10-402 | 101282916 | 0552673 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 3, 4, 5, 8 | 30.04.2014 |
| ОДО «Тонпик» | 220000, Минск, пр. Ф. Скорины, 34 | 101425188 | 0056930 выд.30.04.2004 №94 | 1, 2, 3, 4, 6, 8, 9, 10 | |
| УО «Белорусский государственный технологический университет» | 220050, Минск, ул. Свердлова, 13-А | 100354659 | 0549423 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 2, 6, 8 | 30.04.2014 |
| УО «Брестский государственный университет им. А.С. Пушкина» | 224665, Брест, б-р Космонавтов, 21 | 200050321 | 0549418 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 2, 3, 6, 8 | 30.04.2014 |
| УО «Могилевский государственный университет им. А.А. Кулешова» | 212022, Могилев, ул. Космонавтов, 1 | 700186029 | 0549417 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 2, 3, 4, 6, 8 | 30.04.2014 |
| УО «Гродненский государственный университет имени Янки Купалы» | 230023, Гродно, ул. Ожешко, 22 | 500037559 | 0549484 выд.30.04.2004 №94, прод. 14.05.2009 №56 | 2, 3, 6, 8, 9 | 30.04.2014 |
| ЧУО «Современный гуманитарный институт» | 220013, Минск, ул. Кульман, 2 | 190396259 | 0133258 выд.30.04.2004 №94 | 2, 3, 4, 6 | |
| ООО Белорусско-чешское СП «МакТех» | 220023, Минск, пр. Ф. Скорины, 99А-243 | 100341461 | 0133259 выд.30.04.2004 №94, ан. 9.10.2007 № 154 | 8, 9 | |
| ИП ЧУП «Челестаплюс» | 220039, Минск, ул. Корженевского, 12А-206 | 190147148 | 0133260 выд. 30.04.2004 №94 | 4, 8, 9 | |
| «Фокус-Группа», рекламное ЧУП | 220035, Минск, ул. Тимирязева, д. 65, комн. 321А | 190114980 | 0131930 выд.30.04.2004 №94 | 8 | |
| ОДО «Альфа-Лис» | Минский район, 28 км МКАД, п/о Озерцо, 2-107 | 690032510 | 0133262 выд. 30.04.2004 № 94 | 8 | |
| «ДокторДизайн», рекламное ООО | 220000, г. Минск, ул. П. Бровки, 3-2-210 | 101507830 | 0552675 выд.30.04.2004 №94, прод. 14.05.2009 №56 | 2, 3, 4, 8 | 30.04.2014 |
| ПЧУП «Интегральные системы и технологии» | 220114, Минск, Староборисовский тракт, 40-206 | 101071733 | 0133064 выд. 30.04.2004 №94 | 4, 9, 10 | |
| ГНУ «Объединенный институт проблем информатики Национальной академии наук Беларуси» | 220012, Минск, ул. Сурганова, 6 | 190365895 | 0549421 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 2 | 30.04.2014 |
| ГНУ «Институт тепло- и массообмена имени А.В. Лыкова НАНБ» | 220072, Минск, ул. П. Бровки, 15 | 100029077 | 0549415 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 2 | 30.04.2014 |
| РУП «Институт энергетики агропромышленного комплекса НАНБ» | 220024, Минск, ул. Стебенева, 20, к. 2 | 100468848 | 0133068 выд.30.04.2004 №94 | 2, 4 | |
| У «Редакция журнала «Гермес» | 220050, Минск, ул. Кирова, 8-1-101 | 100087537 | 0133265 выд.30.04.2004 №94 | 4, 8 | |
| Иностранное торговое ЧУП «Гепта Групп» ООО «Нетвалью Б.В.» | 220116, Минск, пр. газеты «Правда», 11-Б4 | 800013809 | 0133069 выд.30.04.2004 №94 | 8, 9 | |
| ПЧУП «КОСМОС» | 220040, Минск, ул. Беды, 3-1 | 190421461 | 0133070 выд.30.04.2004 №94 | 3, 4, 8 | |
| Международное ОО «Клуб «НЕССИ» | 220004, Минск, ул. Обойная, 4/2-46 | 101295825 | 0133071 выд.30.04.2004 №94 | 3, 8, 9, 10 | |
| ЧУП «Бухгалтерская газета» | 220073, г. Минск, пер. Загородный 1-ый, д. 20, комн. 7, | 101558560 | 0552991 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 4, 8 | 30.04.2014 |
| «Бел НИЦ «ЭКОЛОГИЯ», научно-исследовательское РУП | 220002, Минск, ул. В. Хоружей, 31-А | 100083360 | 0630718 выд.11.10.2010 №164 | 1, 2, 3, 5, 8 | 10.10.2015 |
| УО «Гомельский государственный медицинский университет» | 246000, Гомель, ул. Ланге, 5 | 400022681 | 0549419 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 2, 6 | 30.04.2014 |
| Иностранное ЧУПТП «АДВЕРКОМ» | 220050, Минск, ул. Интернациональная, 16-311 | 800017419 | 0133271 выд.30.04.2004 №94 | 4, 8 | |
| ИПЧУП «Проспектпресс» | 220050, Минск, ул. Интернациональная, 16-302 | 101520868 | 0133272 выд.30.04.2004 №94 | 4, 8 | |
| Производственный кооператив «Полиграфоформление» | 220600, Минск, ул. Корженевского, 20-6 | 100032735 | 0133073 выд.30.04.2004 №94 | 3, 10 | |
| ООО «Полисфер» | 220050, Минск, ул. Комсомольская, 11/7-200 | 101486739 | 0133048 выд.30.04.2004 №94 | | |
| ОДО «ВУАЛ» | 220007, Минск, ул. Могилевская, 36-282А | 100042127 | 0133008 выд.30.04.2004 №94 | 9 | |
| ОО «Белорусское общество инженеров-механиков» | 220050, Минск, ул. Комсомольская, 11-4В | 100929594 | 0133062 выд.30.04.2004 №94 | 3, 4, 8 | |
| ОО «Беларускі сацыяльна-экалагічны саюз «Чарнобыль» | 220002, Минск, ул. Кропоткина, 44 | 100200010 | 0133060 выд. выд.30.04.2004 №94, ан. 08.04.2009 № 39 | 3, 10 | |
| ИП Альхимович А.М. | 220020, Минск, ул. Радужная, 4-1-283 | 100552802 | 0133273 выд.30.04.2004 №94 | 9 | |
| ИП Ильин В.П. | 220025, Минск, ул. Слободская, 167-196 | 100382013 | 0494481 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 3, 4, 9 | 30.04.2014 |
| ИП Згировский А.А. | 220007, Минск, ул. Воронянского, 21-46 | 190283796 | 0494284 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 3, 8, 9, 10 | 30.04.2014 |
| ИП Деревянко М.А. | 220121, Минск, ул. Притыцкого, 54-60 | 100653289 | 0133206 выд.30.04.2004 №94 | 3, 8, 9, 10 | |
| ИП Чумакова В.А. | 212029, Могилев, пр. Пушкина, 40-69 | 790065792 | 0133276 выд.30.04.2004 №94 | 8 | |
| ИП Снапкова О.С. | 220090, Минск, ул. Широкая, 36-101А | 190106009 | 0494340 выд.30.04.2004 №94, прод. 16.03.2009 №31 | | 30.04.2014 |
| ООО «ПРОДВИЖЕНИЕ» | 220126, Минск, пл. Свободы, 15-102 | 190330405 | 0494419 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 4, 8 | 30.04.2014 |
| ООО «ЭЛАЙДА» | 220013, Минск, ул. П. Бровки, 30-12 | | | 3, 6, 8, 9 | |
| ОДО «СТАЛИЯ» | 222310, Молодечно, ул. Тавлая, 11 | 690017427 | 0549468 выд.30.04.200 №94, прод. 15.05.2009 №56 | 8, 9, 10 | 30.04.2014 |
| ОДО «Коллекшн» | 220035, Минск, ул. Игнатенко, 4, пом.10 | 100366533 | 0552970 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 8, 9 | 30.04.2014 |
| ОДО «Лоранж-2» | 220123, Минск, ул. Некрасова, 28/88А | 100792507 | 0133279 выд.30.04.2004 №94 | 2, 4, 8 | |
| ООО «НЕСТОР» | 220002, Минск, ул. Варвашени, 77-443 | 100376045 | 0133283 выд.30.04.2004 №94 | 3, 4, 8, 9 | |
| ООО «Редакция «Детективная газета» | 220104, Минск, ул. Лынькова, 15Б, оф. 2 | 100933850 | 0494475 выд.30.04.2004 №94, прод. 8.04.2009 №39 | 8, 9, 10 | 30.04.2014 |
| ИП Павленко С.Н. | 246047, Гомель, ул. Склезнева, 19-66 | 400121239 | 0133278 выд.30.04.2004 №94 | 4, 8 | |

# У нашага дома ёсць «Берагіня»

**Сваё 15-годдзе ўзорны фальклорны гурт "Берагіня" з Мядоччыны адзначаў у горадзе Барысаве. Шчырае і змястоўнае свята запомніцца яго ўдзельнікам, гасцям ды арганізатарам як адкрыты ўрок радзімазнаўства і патрыятызму — урок нязмушаны, прыгожы і надзвычай актуальны.**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

## На падмурку сумоўя

Усё, што адбывалася з намі ў той дзень, нагадвала захапляльнае падарожжа... на планету Беларусь. Тут адчуваліся глыбінная лучнасць дзядоў і дзяцей, арганічнае сумоўе пакаленняў, хоць між імі — відавочная ўзроставая адлегласць ды значная няроўнасць у жыццёвым досведзе. Сумоўем, паразуменнем поўнілася атмасфера прафесійных размоў, кулуарных сустрэч, сцэнічных выступленняў. І як важна, што сакральную рытміку танцавальных рухаў, вышываных арнаментаў, плеценых узораў; інтанацыйна-тэмбравую палітру народных найгрышаў і спеваў атуляла-ачольвала музыка жывой беларускай мовы! Яна гучала навокал, такая натуральная і арганічная ў вуснах немаладога сталічнага прафесара, вясковай школьніцы, прадстаўнікоў мясцовага кіраўніцтва, фотарэпарцёра, пяюхі-аматаркі...

Праект "Мы — БЕРАГІНЯ", прысвечаны прыгожай даце ў біяграфіі знанага гурта, уключаў у сябе правядзенне VI рэспубліканскіх Мядоцкіх чытанняў "Традыцыйная культура і дзеці. Асоба ў народнай культуры і педагогіцы" ды вялікую канцэртна-віншавальную імпрэзу. Кіраўнік праекта — супрацоўнік Інстытута культуры Беларусі Мікола Козенка, мастацкі кіраўнік узорнага фальклорнага гурта "Берагіня" Мётчаўскага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад-сярэдняя школа, навуковы і мастацкі кіраўнік рэспубліканскіх адукацыйна-выхаваўчых праектаў "Традыцыйная культура і дзеці", "Берагіня". Арганізатарамі выступілі аддзел адукацыі Барысаўскага райвыканкама; дзяржаўная ўстанова адукацыі "Мётчаўскі вучэбна-педагагічны комплекс дзіцячы сад-сярэдняя школа Барысаўскага раёна"; аддзел традыцыйнай культуры і аматарскай творчасці Інстытута культуры Беларусі; кафедра этналогіі і фальклору Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў; Беларускі фонд культуры ды Мінскі гарадскі камітэт прафсаюза работнікаў культуры. Месцам правядзення стала Беларускамоўная гімназія №2 горада Барысава.

Гімназія сустракала нас музыкай. Ансамбль выкладчыкаў "Забава" (кіраўнік Марына Антонава), размясціўшыся ў фае, цешыў слых зухаватымі танцавальнымі найгрышамі ды павольнымі лірычнымі напевамі. А тым часам госці маглі агледзець пазнаваўчую выстаўку: тэматычныя выданні, шматлікія ўзнагароды "Берагіні" ды берагінцаў, кнігі водгукаў на яе дзейнасць, фоталетапіс аднайменнага знакамітага фестывалю, калаж, прысвечаны няўтомнаму энтузіясту Міколу Козенку ў сувязі з яго нядаўнім 60-годдзем.

Дарэчы, унікальнасць адукацыйна-мастацкіх праектаў Міколы Козенкі не толькі ў тым, што такі фестываль традыцыйнай беларускай культуры, як, скажам, "Берагіня", скіраваны на дзяцей і моладзь, у нашай краіне адзін. Сапраўдную ўнікальнасць яму надае сістэмны працэс далучэння новых пакаленняў да роднага фальклору ў яго існай сінкрэтычнасці. Выхаванне юных удзельнікаў фестывалю мае на мэце не дэманстрацыю іх артыстычных здольнасцей, а скіраванае на інтэлектуальнае, духоўнае, эстэтычнае развіццё ў сістэме спрадвечных народных каштоўнасцей. Дзіця, незалежна ад ступені яго адоранасці, вучыцца спяваць, танчыць, граць на традыцыйных народных інструментах, рабіць аздобу для свайго сцэнічнага строя — у прыватнасці, плесці паяскі. Засваенне і захаванне самабытнай каранёвай культуры адбываецца не толькі праз практыку: дзеці даследуюць традыцыі мясцовага фальклору, пішуць навуковыя работы, выступаюць з дакладамі. Сталеючы, яны ўваходзяць у асяроддзе традыцыйнай народнай творчасці абсалютна арганічна: не як староннія пераймальнікі, а як свядомыя захавальнікі, паслядоўнікі, маладыя носьбіты нацыянальных беларускіх традыцый. Ці трэба даводзіць, наколькі гэта важна, жыццёва неабходна для захавання нашай унікальнасці, культурнай адметнасці, духоўнай моцы і самастойнасці ва ўмовах глабалізацыі, пад агрэсіўным націскам папулярнай масавай шоу-прадукцыі...

Актуальныя праблемы захавання, выжывання, развіцця беларушчыны так або інакш ўзнімаліся падчас пленарнага пасяджэння, работы секцый і "круглага стала" чарговых Мядоцкіх чытанняў. Да ўсяго, настаўнікі ды кіраўнікі мастацкіх студый і факультатываў дзяліліся "ноў-хаў" эстэтычнага выхавання сённяшніх вучняў, якія з-за скарачэння гуманітарнага складніка школьных праграм фактычна пазбаўленыя магчымасці спрычыніцца да сапраўдных мастацкіх каштоўнасцей, займацца ўласнай творчасцю, спасцігаць традыцыйную культуру свайго народа. Выступалі (або рыхтавалі свае даклады па тэме) такія, напрыклад, аўтарытэтныя навукоўцы, як Энгельс Дарашэвіч, Аляксей Рагуля, Тамара Варфаламеева, Таццяна Кухаронак, Вячаслаў Калацэй, а таксама настаўніца беларускай мовы і літаратуры Мётчаўскага вучэбна-педагагічнага комплексу дзіцячы сад-сярэдняя школа, музычны кіраўнік узорнага фальклорнага гурта Антаніна Абрамовіч ды пяцёра ўдзельніц "Берагіні", вучаніцы гэтай школы.





## Пад сонечным дахам

Гасцінныя гаспадары наладзілі для нас невялічкую экскурсію па гімназіі. На лесвічным маршы ўсіх уразіў жывапісны "групавы партрэт" стракатых летніх кветак, а на калідорах — серыя партрэтаў беларускіх асветнікаў Еўфрасінні Полацкай, Францішка Скарыны, Афанасія Філіповіча, Лаўрэнція Зізанія, Казіміра Лышчынскага, Мялеція Сматрыцкага... Заінтрыгавала вясёлымі тэатральнымі маскамі шыльдачка тэатра-студыі "Ў". Парадаваў дзівасвет прасторнага кабінета, у якім размясціліся творчыя работы настаўнікаў гімназіі: вырабы з саломкі, дрэва, керамічныя кампазіцыі, жывапісныя нацюрморты на "наждачцы". І свая батлейка, на якой незвычайным, жывым святлом ззяе віфлеемская зорка. Ды і ў самім гэтым пакоі, і ў прылеглым доўгім калідоры свята сапраўды жывое. Сакрэт яго яркага ззяння просты: з-пад столі, праз шкляныя фрагменты даху, пранікае ў памяшканне натуральнае дзённае святло, асабліва зіхоткае, калі дзень — сонечны.

Па музеі беларускай культуры, якім Беларускамоўная гімназія №2 горада Барысава славіцца на ўвесь раён, нас суправаджаў настаўнік студыі этнаграфіі і фальклору Аляксандр Яшчанка. Распавядаў і пра экспанаты мемарыяльнага пакоя класіка айчыннай дзіцячай літаратуры Янкі Маўра, і пра этнаграфічны скарб (прадмет асаблівага гонару, сапраўдны музейны ўнікат, гаспадарчае прызначэнне якога ведаюць, бадай, толькі вясковыя доўгажыхары, — мудрагелісты драўляны свердзел). Стваральнікі гэтага музея перакананыя, што каб любіць родную зямлю, трэба глыбока цікавіцца яе гісторыяй і не забывацца пра тых, каму зямля гэтая ў свой час належала. У савецкай школе іх называлі агульным словам "крывасмокі", выкрэслівалі з памяці іх прозвішчы, а з гісторыі — плён іх дзейнасці. Але ж сярод іх былі не толькі "праклятыя паны", а і дбайныя гаспадары, высокаадукаваныя людзі, мецэнаты, якія клапаціліся пра свой народ, пра яго асвечанасць і адукацыю, дбалі пра годнасць сваёй зямлі. Таму і знаёміць музей з прадстаўнікамі такіх вядомых родаў, як Тышкевічы, Радзівілы, Храптовічы. Паказвае старадаўнія выявы іх сядзіб і палацаў ды сённяшнія фотаздымкі тых куткоў Барысаўшчыны, дзе яшчэ захаваліся рэшткі некалі дыхтоўных пабудоў...

## Унёсак ад мядоцкай пчолкі

Памятаеце, як у паэта? "Хацелася б усіх паймена назваць..." Так, хацелася б занатаваць імёны ўсіх руплiўцаў, якія спрычыніліся да арганізацыі і правядзення імпрэзы. Хацелася б і некаторыя даклады працытаваць, і напоўніцу падзяліцца ўражаннямі ад бліскучай канцэртна-віншавальнай праграмы, што разгарнулася на барысаўскай сцэне пад эмблемай "Берагіні" — з выявай нястомнай пчолкі, сімвалу вёсак Старая Мётча ды Новая Мётча — Мёдчы, мядовага, Мядоцкага краю. Але ж немажліва ахапіць неабдымнае, тым больш калі гаворка — пра жывую творчасць ужо некалькіх пакаленняў берагінцаў. Спявалі ды гралі маленькія і пакуль сарамяжлівыя пачаткоўцы з групы "Зярняткі". Раскрываліся таленты асноўнага цяперашняга складу гурта (хоць, падкрэслю, у "Берагіню" прымаюць усіх ахвочых, без адбору і праверкі музычных, танцавальных ці артыстычных здольнасцей): праз магутную энергетыку танца; праз шчыры і нязмушаны, як піянне птушкі, спеў; праз імпэтнае гранне на акарыне, дудцы, гармоніках, цымбалах, барабанах... З акапэльным віншаваннем выходзілі на сцэну і выхаванцы самага першага складу "Берагіні". І ўсё гэта — сапраўды аўтэнтычная, шчырая творчасць, свой, тутэйшы фальклор, запісаны ад суседзяў-вяскоўцаў ці родзічаў. Ён асабліва каштоўны і дарагі, як нектар, узяты руплівіцай-пчолкай з кветкі, узгадаванай на роднай зямлі, ля радзіннага парога.

***На здымках:** удзельнікі "Берагіні" ды іх кіраўніца Антаніна Абрамовіч; спеўнае віншаванне ад гурта "Медуніца".*

## ART-пацеркі

**Лана ІВАНОВА**

Выстаўка-рэквіем "Саракавіны", прысвечаная памяці ахвяр тэракта на мінскай станцыі метро "Кастрычніцкая", прайшла ў Рэспубліканскай мастацкай галерэі Беларускага саюза мастакоў (сталічны Палац мастацтва). Арганізатары — БСМ, галерэя, упраўленне культуры Мінскага гарвыканкама. Сімвалічным цэнтрам экспазіцыі з'явілася інсталяцыя, што злучыла крыж, кола з сарака запаленымі свечкамі ды літару "М", лагатып метро. Аўтары інсталяцыі "Саракавіны" — Уладзімір Савіч, Сяржук Цімохаў ды Рыгор Сітніца. На выстаўцы былі прадстаўлены таксама карціны і скульптурныя кампазіцыі Паўла Касусіка, Аляксандра Батвінёнка, Валерыя Малахава, Сяргея Малішэўскага, Валянціны Свентахоўскай ды іншых мастакоў, у тым ліку Юрыя Піскуна, чыя новая работа "Метро" стала шчырым водгукам на трагічную красавіцкую падзею.

Прэм'ера дакументальнага фільма Андрэя Куцілы ды Таццяны Бембель "Каўчэг Заіра Азгура" прайшла ў Гарадской мастацкай галерэі твораў Л. Шчамялёва. Гэты фільм-даследаванне, фільм-назіранне распавядае пра Мемарыяльны музей-майстэрню З. І. Азгура, пра ўспрыманне нашымі сучаснікамі розных узростаў творчасці легендарнага беларускага скульптара, аднаго з выбітных прадстаўнікоў г. зв. афіцыйнага мастацтва савецкай эпохі. Вялікая колькасць зявак на прагляд "Каўчэга..." пры малой умяшчальнасці залы вымусіла кіраўніцтва галерэі наладзіць на працягу дня два сеансы.

Дзень нараджэння Музея гісторыі горада Гомеля, што месціцца ў гістарычным Паляўнічым доміку, супадае з прафесійным святам яго супрацоўнікаў. Так што ў сёлетні Міжнародны дзень музеяў гэты малады калектыў адзначыў другую гадавіну сваёй дзейнасці. Што, апроч бясплатнага наведвання пастаяннай экспазіцыі, уключала святочная праграма? Паказ тэатра моды "Чатыры стыхіі" (Гомельскі дзяржаўны прафесійна-тэхнічны каледж бытавога абслугоўвання); гульню ў гарадкі на адкрытай пляцоўцы ля музейнага будынка; прэзентацыю ёмістай калекцыі з больш як 500 прадметаў, падоранай музею Аляксандрай Гершунок...

Стужка вядомага беларускага кінарэжысёра-дакументаліста Галіны Адамовіч "Інакіня", знятая паводле яе ж сцэнарыя з удзелам аператараў Таццяны Логінавай, Улада Даніловіча ды Максіма Міхальцова, пацвердзіла сваю высокую вартасць. Яна атрымала адзін з галоўных прызоў X Кіеўскага міжнароднага фестывалю дакументальных фільмаў "Кіналетапіс" — Узнагароду Найблажэннага Уладзіміра, Мітрапаліта Кіеўскага і ўсяе Украіны, а таксама дыплом "За лепшую аператарскую работу". Студыя ў імя святога спавядальніка Іаана Воіна (творчая майстэрня Свята-Елісавецінскага жаночага манастыра ў Мінску), дзе стваралася названая кінастужка, узнагароджана дыпломам "За праграму фільмаў высокамастацкай тэматыкі".

На працягу двух месяцаў наведвальнікі Нацыянальнай бібліятэкі маглі знаёміцца з творчасцю сусветна вядомай украінскай мастачкі, графіка-станкавіста Галіны Бадзяковай. Яе персанальная выстаўка "Жыць — летуценіць" выклікала цікавасць і ў дзяцей, і ў аналітыкаў мастацтва. Людзям дасведчаным прадстаўляць нашу кіеўскую госцю не трэба: яна неаднойчы ўдзельнічала ў калектыўных міжнародных праектах, якія курыруе кіраўнік галерэйна-выставачнага аддзела НББ, старшыня Міжнароднай гільдыі жывапісцаў Фёдар Ястраб. Галіна Бадзякова ўражвае сваёй натхнёнай рознабаковасцю (займаецца, напрыклад, кніжнай ілюстрацыяй, роспісам па дрэве, эскізамі вітражоў, лагатыпамі, экслібрысам, габеленам, насценнымі роспісамі) і пры гэтым — высокім узроўнем Рамяства.

# Прастора пошуку і масавай культуры

## У Гомелі прайшоў XI Міжнародны фестываль «Славянскія тэатральныя сустрэчы»

Таццяна КАТОВІЧ

**Гомель — Бранск — Чарнігаў, гарады, што заснавалі фестываль, як заўсёды, прадставілі свае тэатры на яго пляцоўцы. I — галоўнае — прадставілі спектаклі, якія складаюць штодзённы тэатральны рэпертуар. Наогул, як і іншыя ўдзельнікі фэсту. Тое, што раней хавалі ад абмеркавання, што не паказвалі мастацтвазнаўцам, чаго нават і саромеліся, сёння зрабілася аб'ектам увагі. Як правіла, на форумах паказваюць “прасунутыя” творы, справакаваныя жаданнем здзівіць і жаданнем крэатыву ў зонах “мастацтва дзеля мастацтва”. Фестываль у Гомелі (старшыня аргкамітэта — дырэктар Гомельскага абласнога драматычнага тэатра У. Чэпелеў) уяўляў сабой люстэрка пераходу ў гранічна іншую сітуацыю. У рэаліі масавай культуры.**

Можна сёння колькі заўгодна сумаваць з нагоды такой трансфармацыі грамадства, аднак факт застаецца фактам. Канец XX, мяжа XXI стагоддзя вызначаецца гісторыкамі, філосафамі і культуролагамі як распад традыцыйнага грамадства з яго прынцыпамі, каштоўнасцямі і густамі.

У сувязі з ростам масавай вытворчасці, масавай камунікацыі і масавай свядомасці мяняецца структура грамадства. I ў эпоху глабалізацыі масавая культура займае ўсё большую прастору. На месца элітарнай публікі прыйшла маса. Яе адносіны да мастацтва не суадносяцца з уяўленнямі творчай меншасці: поле мастацкай культуры дэфармуецца, бо масавая камунікацыя арыентуецца не на асобу, а на масу. I публіка пачынае актыўна ўмешвацца ў культуру. Сіла яе аб'ёмная, і яна ўсё сабой падаўляе. Змяніць гэтыя абставіны нельга, нельга і перачакаць у надзеі на тое, што ўсё вернецца да ранейшага. Маса — гэта тое, чаго раней не было, і ў эстэтычным сэнсе стыхія масы наогул ніколі не аналізавалася.

Экспертны савет і журы ўсялякага фестывалю ацэньваюць сцэнічны твор як самакаштоўнасць і як самакаштоўнасць ацэньваюць аўтараў спектакляў. Аднак ніхто ніколі на фестывалі не цікавіўся праблемай публікі.

Між іншым, праграма ў Гомелі цалкам адпавядала ўзроўню ўспрымання масы. Той самай масы, якая складаецца з гледачоў двух тыпаў: тых, каму патрэбна кампенсацыя эмацыйнага дэфіцыту, і тых, каму патрэбна пацяшальнасць. Асаблівасцю такой публікі з'яўляецца тое, што ёй наогул і зусім нецікавыя эстэтычныя якасці пастаноўкі.

### А што важна? I як у спектаклях на гомельскім фестывалі гэта выяўлялася?

**У межах жанру:** ад гульбішча-балагана “Бязвінная смерць Ганачкі, альбо Буржуй у бутэльцы” Гомельскага гарадскога маладзёжнага тэатра — да музычна-драматычнага твора, блізкага да аперэты, “Дамскіх справаў майстар” (паводле п'есы “За двума зайцамі”) Чарнігаўскага акадэмічнага музычна-драматычнага тэатра імя Т. Р. Шаўчэнкі. *Без глыбокіх тэм і без глыбокіх перажыванняў.*

**На ўзроўні густу:** часам сапраўды варварства з вульгарнасцю, сцёртымі межамі прафесійнасці (некаторыя спектаклі журы наогул вынесла за дужкі абмеркавання), з *рэзкімі і крыклівымі выяўленнямі адкрытай эмоцыі*. Якія менавіта былі гэта спектаклі, з-за этычных прычын не буду называць.

**Паводле заканамернасцей стварэння спектакля:** *адсутнасць* усялякай *суладнасці* выразных сродкаў у “Шчасці Лізы і Ягора” Мазырскага драматычнага тэатра імя І. Мележа ці ў “Безыменнай зорцы” Ніжынскага ўкраінскага драматычнага тэатра імя М. Кацюбінскага.



**Па канцэпцыях:** гранічна *спрошчаныя* схемы пастаноўкі. “Два анёлы, чатыры чалавекі” Бранскага тэатра драмы імя А. Талстога ці “Ветрагоны” НАДТ імя Якуба Коласа.

Такія падыходы не сёння знойдзеныя і не сёння пачалі выкарыстоўвацца на сцэне. Аднак менавіта сёння яны асабліва патрэбныя. Гэта звязана і з пераменамі ў соцыуме, і са зрухамі ў псіхалагічным стане публікі.

Толькі адзіны спектакль на Гомельскім фестывалі выпадаў з агульнай карціны. Як твор элітарны. I журы адзначыла ладая пара: ён — немец Франц, які ўратаваў беларускую сям'ю ад гібелі, і яна — беларуска Паліна, якая цяпер ратуе немца, што апынуўся сярод сваіх ворагаў і якога прымаюць за ворага. Гісторыя Рамэа і Джульеты сярэдзіны XX стагоддзя. Як бачым, сюжэт найбольш распаўсюджаны ў тэатры. I — сюжэт бяспройгрышны, калі творцам трэба проста распавесці меладраматычную гісторыю. I сюжэт бяспройгрышны, калі творцам трэба за сюжэтам зберагчы больш глыбокі сэнс, нават метафізічны.

> *“Валянціна Георгіеўна Рагоўская, легенда айчыннай тэатральнай культуры, былы дырэктар тэатра ў Гомелі, пачынальнік “Славянскіх тэатральных сустрэч”, адзначана прэміяй “За высокую арганізацыю фестывальнага руху”.*

яго за лепшую рэжысуру. Гэта — пастаноўка Віталя Баркоўскага “Эцюды любові” паводле А. Паповай у Смаленскім драматычным тэатры імя А. Грыбаедава, афарбаваная аўтарскай манерай, спецыфічнымі выразнымі сродкамі і імпрэсіянісцкім флёрам.

За лепшы спектакль атрымалі прыз два творы. “Вялікая княгіня Л. Ф. Раманава (вяртанне)” Рускага Духоўнага тэатра “Глас” з Масквы і “Не мой” Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Абодва яны ўяўляюць сабой спектаклі, пазначаныя складанасцю і цэласнасцю, канцэптуальнасцю, і разам з гэтым функцыянальна яны разлічаныя на масавую публіку. На прыкладзе спектакля купалаўцаў выявім асноўныя пазіцыі падобнага твора.

У пастаноўцы “Не мой” А. Гарцуева паводле аповесці Алеся Адамовіча “Нямко” ў Купалаўскім тэатры ў цэнтры ма-

Рэжысёр гэты самы метафізічны сэнс схаваў за геаметрыяй сваіх мізансцэн. Паліна і Франц рухаюцца па крузе вакол цэнтра пляцоўкі — пошук гармоніі і праява самой гармоніі закаханых, а таксама жаданне пастаноўшчыка знайсці закальцаванасць свайго творчага выказвання. Шарэнгі фашыстаў двума промнямі, рухаючыся ад авансцэны да задніка і наадварот, разрываюць прастору кола. Шэры колер шарэнг — кшталту пацучынай сцяны, жорсткай, непранікальнай, халоднай, падобнай да вострага нажа. Пастаянная пагроза для гармоніі.

Процістаянне ж зафіксавана на ўзроўні сцэнаграфіі. Мастак Б. Герлаван (прыз за лепшую сцэнаграфію) прапаноўвае вертыкальную дэкарацыю: магутнае бярвенне крыжападобна апускаецца зверху, і ўзнікаюць вобразы лесу, спаленых хат, спаленых абразоў. Хаос, які знішчае гармонію, геаметрычна разбурае тое кола, якое ўтваралася на сцэнічнай пляцоўцы. Між іншым, вопратка людзей і бярвенне — аднаго колеру. Хаос і гармонія звязаныя паміж сабой. А іх крывавае процістаянне вызначана Б. Герлаванам чырвонымі вогненнымі ўспышкамі на пылаючых бярвеннях.

Такім чынам, перад вачамі гледачоў аўтарамі спектакля створана гэткая рашотка-грэбень, якая вызначае пругкую і ўстойлівую канструкцыю. I ёй процістаіць цэнтральная фігура — кола з прагай перамагчы моц і сілу пругкай і ўстойлівай навалы. Тонкая лінія кола, па якой рухаюцца два гнуткія чалавечыя целы, падсвядома накіраваная на перамогу.

### Што ж мы бачым у пастаноўцы А. Гарцуева?

**Адказ на запатрабаванне масавай культуры:** выбар жанру; відовішчнасць; наяўнасць масавых сцэн; дакладнасць выкарыстання амплуа (паўтаральнай маскі, пэўнага тыпу); дакладнасць выкарыстання паўтаральнага сюжэта і клішэ сітуацый. Рэжысёр у сваім спектаклі стварае паўтаральную схему.

**Адказ на запатрабаванне традыцыі Купалаўскага тэатра:** групоўка і спалучэнне маладога і старэйшага пакаленняў ў межах акцёрскай школы. I А. Казела (Франц) з В. Гарцуевай (Паліна) годна выглядаюць разам з Т. Міронавай (Маці) і Г. Аўсяннікавым (Бацька). Купалаўская школа вызначаецца стварэннем дыяментаў-характараў у агульным акцёрскім ансамблі. Ансамбль тут выдатны. I другое: спектакль трымаецца традыцыі пастановак В. Раеўскага з яго метафарычным мысленнем і кідкімі пастановачнымі сродкамі.

**Адказ на запатрабаванне сучаснага мастацкага метаду:** пастаноўка А. Гарцуева дастаткова постмадэрнісцкая. Ён цытуе В. Раеўскага. Аднак гэтая цытата не наўпрост. Гэта постмадэрнісцкі *след следа.* Датычыць гэта і структуры пастаноўкі: А. Гарцуеў складае яе з карпускул-эпізодаў, што ствараюцца накшталт самастойнай гісторыі, якую можна пакінуць ці прыбраць са спектакля, — нізка “пацерак”.

**Адказ на запатрабаванне эліты:** тая самая метафізіка, асновай якой з'яўляецца геаметрыя спектакля.

На здымку: сцэна са спектакля “Не мой”.



# Бачанне сваёй зямлі

Віктар ЗАЯЦ, фота аўтара

Конкурс “На сваёй зямлі” праходзіць у Беларусі з 2006 года. За гэты перыяд арганізатары атрымалі больш як 60 тысяч карцін з 38 дзяржаў: да прыкладу, з Балгарыі, Венгрыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Ганконга, Грэцыі, Індыі, Ірана, Канады, Карэі, Кітая, Намібіі, Таіланда, Філіпін.

“На сваёй зямлі”, па традыцыі, мае вольную тэму конкурсу. Юныя мастакі малююць цікавае і блізкае, мроі і палёты ўяўлення, усё тое, што ўразіла і засталося ў сэрцы, выклікала ўсмешку альбо прымусіла задумацца.

Сёлета работы разглядала аўтарытэтнае журы на чале з айчынным мастаком Леанідам Гоманавым. У складзе журы — прафесійныя мастакі і выкладчыкі выяўленчага мастацтва: Ягор Батальёнак, Юрый Хілько (Беларусь), Сяргей Грычанок (Украіна), Алег Васільеў, Ніна Гром, Леанід Несцераў, Леанід Эслінгер (Расія)... З тысяч работ яны вылучылі тыя, што, на іх думку, з'яўляюцца найлепшымі ўзорамі дзіцячай і юнацкай творчасці. Ацэньваць дзіцячыя малюнкі значна складаней, чым творы дарослых. Юныя мастакі яшчэ толькі пачынаюць асвойваць рамяство, а таму іх работы могуць здацца банальнымі, недасканалымі і простымі. Але недахоп прафесійных навыкаў наўпрост кампенсуецца надзвычайнай эмацыйнасцю, непасрэднасцю, вобразнасцю ды шчырасцю.

Кожную вясну ў Мінску адкрываецца выніковая выстаўка. Гэты год — не выключэнне. Міжнародная выстаўка дзіцячых малюнкаў “На сваёй зямлі” ладзілася ў мастацкай галерэі “Універсітэт культуры”. Экспазіцыя складалася з работ-пераможцаў VI Міжнароднага конкурсу жывапісу і графікі з аднайменнай назвай. А гэта — 434 творы з сямнаццаці краін. Праз іх гледачы пазнаёміліся не толькі з аўтарамі, але і з той зямлёй, на якой юныя мастакі нарадзіліся і выраслі, якая стала ім надзейным духоўным падмуркам, давала сілу і натхненне ў творчасці. Кожны гэты куток мае сваю гісторыю, свае традыцыі і ўклад жыцця, свой рытм, непаўторны каларыт, сваю гармонію.

Усе работы ўвойдуць у трэцяе выданне альбома-каталога выставачных работ “На сваёй зямлі” — вялікую маляўнічую кнігу на беларускай, рускай і англійскай мовах. Гэта выданне стане адметным метадычным матэрыялам для педагогаў, а для дзяцей — сапраўдным мастацкім альбомам, дзе яны змогуць убачыць, як малююць іх аднагодкі ў розных кутках свету.



Пасля дэманстравання ў сталіцы работы пераможцаў конкурсу выправіліся ў вандроўку па Беларусі і іншых краінах. Найбуйнейшыя выстаўкі праходзілі ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь, германскім Бундэстагу, Дзяржаўнай Думе Расіі, Галерэі Падляскай у Польшчы, Нацыянальным музеі імя Андрэя Шапціцкага ў Львове і Музеі кнігі і друкарства ў Кіева-Пячорскай лаўры ва Украіне, а на пачатку мая адкрылася ў Страсбургу падчас юбілейнага 10-га пасяджэння Савета Еўропы па пытаннях культуры.

Арганізатарамі выступілі міністэрствы культуры, адукацыі, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Беларусі, БДУКіМ, Рэспубліканскі экалагічны цэнтр дзяцей і юнацтва і грамадская арганізацыя “Беларускі зялёны крыж”.

***На здымках: работы юных беларускіх мастакоў Данііла Еўсявіцкага “Чаяванне” і Таццяны Ільінец “Вясковыя матывы”.***

# Зямля пад белымі крыламі

Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ "Залатая Ліцера"

## Слова краязнаўцы



**Алесь ГОСЦЕЎ з Гродна разважае пра краязнаўства як феномен культуры:**

— З даўніх часоў чалавецтва выпрацавала нямала сродкаў самапазнання. Краязнаўства — бадай што самы аптымальны з іх, бо гэта найкарацейшы шлях да самога сябе. Толькі спасцігнуўшы свае ўласныя карані і вытокі, чалавек здольны знайсці сваё месца ў жыцці, валодаць сабой, эфектыўна самаўдасканальвацца і самарэалізоўвацца, аказваць станоўчы ўплыў на іншых. Краязнаўства якраз складаецца з гэтых частак: веданне самога сябе (самапазнанне) і веданне свайго краю. Кожная частка мае неад'емны стваральны кампанент: "самастварэнне" (самавыхаванне) і краестварэнне.

Актыўная дзейнасць асобы па самапазнанні і пазнанні роднага краю выводзіць *культуралогію* ў дачыненні да пэўнай мясцовасці, бо ў шырокім сэнсе пад краязнаўствам разумеецца даследаванне краю як *цэласнасці*. Асноўныя метады культуралагічнай краязнаўча-даследчай працы: сінтэз інфармацыі з максімальна магчымай колькасці разнастайных крыніц, параўнальны аналіз і пошукі аналагаў у літаратуры. Інтэграцыя ведаў — сутнасць краязнаўства. Мастацтва, навука і рэлігія пры гэтым арганічна спалучаюцца праз гармонію свету. Што ў цэласным сваім кшталце і дае нам тое, што называецца культурай (natura naturans).

Практычная рэалізацыя майго ўласнага краязнаўчага вопыту наглядна дэманструецца плённымі вынікамі ўзаемадзеяння з навучэнцамі ліцэя № 1 г. Гродна пачынаючы з верасня 1996 г. Дзейнасць гэтая ажыццяўляецца ў самых разнастайных формах: падчас заняткаў у рамках спецкурса "Гісторыя і культура Гарадзеншчыны", падрыхтоўкі і ўдзелу ў гульнях і конкурсах, стварэння і ўдзелу ў працы ліцэйскага музея "Гісторыя педагогікі Гарадзеншчыны XII — XXI стст.", падчас экскурсій па Гродне і комплексных навукова-даследчых экспедыцый па асобных раёнах Гродзенскай вобласці (сумесна з гімназіяй № 1 імя акадэміка Я. Ф. Карскага). Пры гэтым удакладнілася і вызначэнне краязнаўства ў частцы высвятлення таго агульнага, што спалучае родны край з усёй чалавечай супольнасцю, нават з усім Сусветам: *краязнаўства — вызначэнне "культурнага генетычнага кода"* (формула В. Н. Топарава) *асобнай мясцовасці ўвогуле і асобнай лакальнай (краязнаўчай) з'явы ў прыватнасці.*

## У цэнтры яго ўвагі — слова

**Тамара КАЛІНІНА**

Да 70-годдзя з дня нараджэння і 50-годдзя навукова-педагагічнай дзейнасці Мікалая Васільевіча Абабуркі, мовазнаўцы, доктара філалагічных навук, прафесара кафедры беларускай мовы МДУ імя А. Куляшова, супрацоўнікі аддзела беларускай і краязнаўчай літаратуры Магілёўскай абласной бібліятэкі стварылі біябібліяграфічны паказальнік "Слова стала сэнсам яго жыцця".

Паказальнік складаецца з біяграфічнай даведкі, храналогіі публікацый, літаратуры пра жыццё і дзейнасць мовазнаўца. Пры яго стварэнні выкарыстаны энцыклапедыі і даведачныя выданні, матэрыялы з асабістага архіва М. В. Абабуркі.

## Музейны ўнікат

**Чэслава ПАЛУЯН, фота Кастуся Дробава**

# Другое жыццё фаліянта

**Гэтая падзея — трыумф беларускай школы рэстаўрацыі. Больш таго, гэта магчымасць пабачыць на свае вочы аднаўлены старажытны фаліянт XVI стагоддзя ў амаль першапачатковым выглядзе (калі глядзіш на яго ачышчаныя ад пылу і плям старонкі, складваецца ўражанне, што выданне пашкадаваў час, на яго не паўздзейнічалі натуральныя працэсы разбурэння рэчываў). Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь прэзентаваў адрэстаўраваную кнігу "Апостал", выдадзеную знакамітай віленскай друкарняй братоў Мамонічаў пасля 1595 года.**

Старадрукаваны "Апостал" быў набыты музеем 10 год таму ў прыватнай асобы. Кніга знаходзілася ў вельмі кепскім стане, таму вымагала грунтоўнай рэстаўрацыі, што само па сабе — працэс няпросты і фінансава затратны. "Але дзякуючы добрай волі Белзнешэканамбанка, нашага даўняга партнёра, гэтая праблема вырашана, — зазначыў дырэктар Нацыянальнага гістарычнага музея Сяргей Вечар. — Банк прафінансаваў набыццё рэстаўрацыйных матэрыялаў, а праца была выканана дзякуючы ўменню і таленту рэстаўратараў Андрэя Крапіўкі і яго жонкі Ірыны Зялёнай-Крапіўкі".



Міністр культуры Беларусі Павел Латушка падчас прэзентацыі падкрэсліў:

— Важна, што гісторыка-культурныя каштоўнасці вяртаюцца на радзіму. Фаліянт вярнуўся са старажытнай Вільні, а гэты горад вельмі цяжка культурна адлучыць ад нашай краіны. Паказальны і добры прыклад супрацоўніцтва музея і банка. Думаю, што такіх падзей у Беларусі будзе больш і больш: не так даўно Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ № 145 "Аб некаторых пытаннях падаткаабкладання ў сферы культуры і інфармацыі", якім ствараюцца дадатковыя заканадаўчыя падыходы па спрыянні ўкладання сродкаў камерцыйных структур у падтрымку культуры.

Адрэстаўраваны "Апостал" XVI ст. ужо пяты з ліку тых, што захоўваюцца ў бібліятэках і музеях краіны, для нашай культуры гэтая кніга надзвычай важная. Грунтоўны навуковы каментарый рарытэтнаму выданню дала загадчык НДА кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Галіна Кірэева:

— Друкарня братоў Мамонічаў, калі туды прыязджае Пётр Мсціславец, адраджае скарынаўскія традыцыі, хоць па знешнім выглядзе кнігі не нагадваюць скарынаўскі друк, гэта хутчэй выданні маскоўскага друку Івана Фёдарава. Яшчэ больш значнасці кнізе надае тое, што яна прадстаўляе перыяд росквіту тыпаграфіі Мамонічаў, "залаты век" беларускага кнігадрукавання (канец XVI — першыя дзесяцігоддзі XVII ст.). Менавіта ў гэты час браты надрукавалі статут Вялікага Княства Літоўскага і атрымалі прывілей ад караля на выданне рэлігійнай літаратуры. "Апостал" яны ўпершыню друкуюць у 1591 годзе, затым яго некалькі разоў перавыдаюць. Аднак адрозніць кнігі розных год выдання вельмі складана, гэта можа зрабіць толькі спецыяліст па арнаментыцы, бо ні на адным з экзэмпляраў няма выходных дадзеных. На такі крок Мамонічы ішлі, каб мець магчымасць прадаваць свае кнігі ў Маскоўскую дзяржаву.

Літаральна на наступны дзень пасля прэзентацыі кніга была вернута ў фондасховішчы, экспанавацца яна зможа толькі праз некаторы час. Але гэта не апошні адрэстаўраваны фаліянт: цяпер у майстэрні Нацыянальнага гістарычнага музея вядзецца работа над аднаўленнем яшчэ аднаго "Апостала", але ўжо львоўскага выдання Івана Фёдарава 1574 года.

***На здымку: намеснік старшыні праўлення Белзнешэканамбанка Алег Прахарчык і міністр культуры Беларусі Павел Латушка прэзентуюць адрэстаўраваны "Апостал" XVI ст.***

## Беларускія прыватныя гербы

# Знакі годнасці і гонару



*Герб "Дубарог"*



*Герб "Лілія"*



*Герб "Леў"*

**Герб "Дубарог"**

Гербам карысталіся: Афанасовіч, Габрыяловіч, Габрыяновіч, Ганевіч, Ганцэвіч, Доўскурд, Туровіч.

**Герб "Лілія"**

Гербам карысталіся: Казакоўскі, Пацэвіч-Памарнацкі, Смалян, Смолан, Тыпальт, Яцкевіч.

**Герб "Леў"**

Гербам карысталіся: Вагнер, Вайвовіч, Вайшвіла, Вальвовіч, Вэйда, Дружбацкі, Каладзінскі, Лявінскі, Пачкоўскі, Спяхальскі, Трокін.

**Герб "Лешчыц"**

Гербам карысталіся: Валішэўскі, Густовіч, Кашуцкі, Кратовіч, Міжвінскі, Нагорскі, Пачаповіч, Пякарскі, Урнік.

**Герб "Пахалавецкі"**

Гербам карысталіся: Падарэўскі, Панфіловіч, Пахалавецкі.

**Герб "Плятэр"**

Гербам карысталіся: Плавінскі, Платкоўскі, Плахоцкі, Плюшчэўскі, Плятэр.

**Вядучы рубрыкі — Уладзімір Крукоўскі**



*Герб "Лешчыц"*



*Герб "Пахалавецкі"*



*Герб "Плятэр"*

Мікола БЕРЛЕЖ

# Звалі яго Іван Фёдараў Масквіцін

*Немировский Е. Л. Иван Фёдоров и его эпоха. — Москва: ООО "Издательство "Энциклопедия", 2010. — 912 с.*

Персанальныя энцыклапедыі заўсёды выклікаюць асаблівую цікавасць у чытача, які праяўляе ўвагу да персанажа даследавання. Сам факт з'яўлення выдання падобнага кшталту становіцца прадметам абмеркавання, пошуку адказаў на наступныя пытанні: "А ці ўсе тэмы разгледжаны ў персанальнай энцыклапедыі? Ці ўсе даследаванні ўлічаны? А можа быць, і не энцыклапедыя той ёмісты том, а ўсяго толькі энцыклапедычны даведнік?.." У Маскве ў выдавецтве "Энциклопедия" пабачыла свет кніга "Іван Фёдараў і яго эпоха". Аўтар у фаліянта, агульны аб'ём якога — 912 старонак фармату 84х108/16, ці 100,5 улікова-выдавецкіх аркушаў, адзін — Яўген Львовіч Неміроўскі. Яго ўнікальны ўнёсак у славянскае, сусветнае кнігазнаўства іначай як подзвігам даследчыка і не назавеш!

Пачатак сённяшняму плёну ў выглядзе энцыклапедыі пакладзены быў яшчэ ў 1958 годзе, калі вучоны знайшоў у Львове невядомыя дагэтуль дакументы пра Івана Фёдарава. У 1964 г. пабачыла свет манаграфія Я. Неміроўскага "Узнікненне кнігадрукавання ў Маскве. Іван Фёдараў". Затым былі выдадзены манаграфіі "Пачаткі кнігадрукавання ва Украіне. Іван Фёдараў" (1974) і "Іван Фёдараў у Беларусі" (1979). Усяго Яўген Львовіч напісаў больш як 1800 артыкулаў, прысвечаных вытокам кнігадрукавання на Русі і Івану Фёдараву.




Многія старонкі ўнікальнай па абсягах вырашаных кнігазнаўчых задач энцыклапедыі прысвечаны Беларусі, беларускім тэмам. Дарэчы, змешчаны і артыкул пра Ф. Скарыну, напрыканцы якога аўтар зазначае: "…выданні С<карыны> былі вядомыя ў Маск. Русі, аднак не ўхваляліся афіцыйным праваслаўем і ў літургічнай практыцы не ўжываліся". Я. Неміроўскі развенчвае і некаторыя вымыслы, звязаныя са Скарынам, Пятром Мсціслаўцам, лёсам іх кніг. У артыкуле ж пра Івана Фёдарава, якім адкрываецца энцыклапедыя, аўтар звяртае ўвагу на повязь біяграфіі друкара з Беларуссю. Цяпер зноў пачало шырыцца версіфікатарства пра тое, што Іван Фёдараў нарадзіўся ў Беларусі, нават і адрас, месца ўказваюцца — паблізу Вілейкі.

А вось што чытаеш у Я. Неміроўскага: "В Вел. княжестве Литовском существовал известный шляхетский род Фёдоровичей. *И. И. Левицкий* относил И. Ф. к этому роду и внёс сведения о нём в "Библиографию Фёдоровичей". Однако роду Фёдоровичей принадлежал герб "Огинец", а гербом "Шренява", которые ставил на своих изданиях И. Ф., этот род никогда не пользовался.

Впоследствии, находясь в Польско-Литовском гос-ве, И. Ф. стал прибавлять к своему имени фамильное прозвище "Москвитин". Это прозвище встречается впервые в предисловии гетмана Г. А. Ходкевича к Учительному Евангелию 1569, где он сообщает, что нашёл "в том деле друкарском людей наученных, Ивана Фёдоровича Москвитина да Петра Тимофеевича Мстиславца". <…> Фамильное прозвище "Москвитин" совсем не обязательно указывает на происхождение его владельца из Москвы. Оно может восходить не к географическому наименованию, а к имени собственному или прозвищу "Москва". <…> "Москвитины" в XVI — XVII вв. были достаточно широко распространены как в Моск. гос-ве, так и в Вел. княжестве Литовском. Тупиков указывает, что в XVI в. проживал крестьянин Иван Андреев сын Москвитин, на берегу Нёмана — белорус. помещик Сидор Москвитин, <…> (сохранилась архивная запись о том, что в ун-т поступил "Иван сын Фёдора из Петковиц…")". На Беларусі некалькі вёсак з назвай Пітковічы. Ёсць у Баранавіцкім, Дзяржынскім раёне… Дык можа быць, усё ж існуюць падставы для "беларускасці" Івана Фёдарава?.. Дарэчы, трэція Пітковічы — за 8 вёрст ад Радашковіч. З усіх гэтых мясцін паходзілі шляхецкія прозвішчы Рагоз і Анфоравых, якія таксама карысталіся гербам "Шрэнява", падобным да выдавецкага знака І. Фёдарава. Калі атаясамліваць друкара з Іванам, сынам Фёдара з Пітковіч, то трэба, відаць, і пагадзіцца з беларускім паходжаннем Івана Фёдарава.

Падрабязна ў энцыклапедыі асвятляецца "астрожская" тэма. Як вядома, асветнік і друкар прыкладна з 1578 па 1583 гады жыў і працаваў у Астрогу, на Ровеншчыне, у маёнтку, які належаў князю Канстанціну Канстанцінавічу Астрожскаму — аднаму з буйнейшых магнатаў ВКЛ (гадавы даход князя, які валодаў 80 гарадамі і 2760 вёскамі, складаў 19 млн. злотых). Менавіта там у 1581 годзе была выдадзена знакамітая Астрожская Біблія. "Выпуск в свет первой полной вост.-слав. Библии — издательский подвиг Ивана Фёдорова. Библия стала важной вехой в борьбе с экспансионизмом католической реакции, способствовала росту национального самосознания русских, украинцев и белорусов, укреплению позиций родного языка, развитию естеств.-науч. знаний на Руси", — піша Я. Неміроўскі.

У энцыклапедыі "Іван Фёдараў і яго эпоха" пададзены артыкулы пра беларускіх кнігазнаўцаў, пісьменнікаў, вучоных — ураджэнцаў Беларусі, — У. В. Анічэнку, М. Б. Батвінніка, А. С. Будзіловіча, Г. Я. Галенчанку, Э. Гутэн-Чапскага, Я. Ф. Карскага, А. І. Клібанава, М. Клімковіча, С. Майхровіча, І. І. Малышэўскага, А. Рымшу, М. Садковіча, М. М. Сікорскага, А. Р. Шыцгала, В. Шматава, Э. В. Ялугіна. Асобны расповед — пра Мамонічаў, беларускія бібліятэкі, Васіля Цяпінскага, Р. А. Хадкевіча як заснавальніка Заблудаўскай друкарні, графа А. Храптовіча са Шчорсаў (аўтар падкрэслівае, што ў прыватным кнігазборы Храптовічаў захоўваўся асобнік Бібліі 1581 года). Досыць грунтоўна пададзены жыццяпіс беларускага мысляра, асветніка-гуманіста, рэлігійнага рэфарматара Сымона Буднага.

Ці ёсць заўвагі да зместу энцыклапедыі "Іван Фёдараў і яго эпоха"? Магчыма, варта было больш шырока паказаць беларускае кнігазнаўства, беларускае бібліяфільства папярэдніх стагоддзяў. У артыкулах пра вучоных, пісьменнікаў ёсць некаторыя недакладнасці. Але ўсё гэта не прыніжае агульнага ўзроўню, паўтаруся, сапраўды ўнікальнай энцыклапедыі Яўгена Неміроўскага "Іван Фёдараў і яго эпоха".

---

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**фота Кацярыны Гусевай**

# Грай, дуда!

## Музыкаў і слухачоў сабраў X міжнародны "Дударскі фэст".

**На працягу чатырох дзён на розных пляцоўках — у Рэспубліканскім Палацы культуры ветэранаў, у музеі старажытных народных рамёстваў і тэхналогій "Дудуткі", у сталічным клубе "Рэактар" — гучала музыка розных гуртоў з розных краін свету. Але аматараў на першы погляд зусім не сумяшчальных стыляў — ад выкшталцоных мелодый перыяду Барока да нястрыманага псіхадэлічнага фольк-року — аб'яднаў адзін інструмент — дуда. Склад гасцей сёлетняга юбілейнага "Дударскага фэсту" асабліва зорны і знакавы. Поруч з ужо добра вядомымі беларускімі гуртамі "Стары Ольса", "Кашлаты Вох", "Бона Сфорца", *ESSA, Litvintroll*, "Яварына" ў Мінску выступілі карыфеі скандынаўскага фольк-року *Hedningarna* (Швецыя), гурт старадаўняй музыкі *Fidelius* (Германія), а таксама гурт сярэднявечнай і фолькавай музыкі *Open Folk* (Польшча). У межах фэсту на хутары Шаўловічы, што ў Валожынскім раёне, прайшла канферэнцыя "Захаванне дударскай традыцыі на ўсходзе Еўропы".**



"Правядзенне музычных фэстаў, прысвечаных аднаму інструменту, падаецца добрай задумай, — разважае Халбус Тотэ Матсан, музыка гурта *Hedningarna.* — З аднаго боку, такі крок робіцца з мэтай вылучэння інструмента для паказу адметнасцей яго гучання асобна ад іншых, асаблівасцей удасканальвання будовы і для дэманстрацыі майстэрства грання на ім. Мы ўжо ўдзельнічалі ў фестывалях лютні, а паколькі ў сваёй музыцы выкарыстоўваем скандынаўскую валынку — хоць грае яна не так гучна, як беларуская, — з задавальненнем прымаем удзел у фэсце дударскай музыкі ў Беларусі". Складана не пагадзіцца са спадаром Халбусам, але ў выпадку з дудой да асноўных функцый фэсту дадаецца яшчэ адна, думаецца, больш значная, — вяртанне беларусам мінулага, аднаўленне дударскіх традыцый.

Пра тое, што "Дударскі фэст" сваю місію выконвае паспяхова, сведчыць гісторыя фестывалю.

— Першыя фестывалі адбываліся досыць смешна, — распавядае заснавальнік "Дударскага фэсту" Тодар Кашкурэвіч. — На пачатку 1990-х мы зрабілі першыя дуды, вывучылі некалькі мелодый. Гэта быў час, калі ў краіне распрацоўвалася новая сістэма адукацыі, новая культурная мадэль. Мы адразу ж вырашылі ладзіць міжнародны фестываль, на які запрашалі музыкаў з Літвы, Латвіі, Эстоніі, Швецыі, Галандыі, Вялікабрытаніі. Фэст, які тады трымаўся на юнацкім імпэце, стаўся сапраўднай з'явай".

Былі ў гісторыі фэсту і складаныя часы, пакуль яго прадзюсіраваннем не стаў займацца лідар гурта "Стары Ольса", даследчык Зміцер Сасноўскі. Новы прадзюсар змяніў фармат фестывалю, з 2006 года фэст стаў штогадовым і здабыў вялікую папулярнасць. Дзякуючы гэтаму і сама дуда знайшла значна больш прыхільнікаў сярод моладзі. "Можна сцвярджаць, што сёння ў Беларусі назіраецца рэнесанс дудовай музыкі, — разважае Тодар. — За апошнія 20 год наша краіна стала лідарам у справе адраджэння дударскай традыцыі ва Усходняй Еўропе. З'явіўся шэраг майстроў, якія робяць інструменты для Літвы, Расіі. Больш за тое, можам пахваліцца нават тым, што нашы майстры валынкі адрадзілі дударскую традыцыю ў Літве".

Сёння колькасць аматараў дуды ў Беларусі ўжо злічваецца сотнямі, функцыянуе "Дударскі клуб", ды і выканальніцкае майстэрства нашых музыкаў уражвае нават замежных гасцей. "Беларускія гурты выступаюць на вельмі высокім узроўні, — зазначае Роман Шольц, музыка гурта *Fidelius.* — Тут добрыя інструменталісты, і працэсы, што адбываюцца сёння ў Беларусі ў плане адраджэння дудовай традыцыі, можна ацаніць толькі станоўча".

Беларуская публіка ў сваю чаргу станоўча ацаніла выступленні замежных гасцей. Творчасць шведскага гурта *Hedningarna* ("Язычнікі") у Мінску ведаюць ужо даўно, можна нават сцвярджаць, што гэты гурт паўплываў на мысленне нашых музыкаў. Моцныя, нардычныя, вельмі эмацыйныя мелодыі са значным энергетычным пасылам нібы гіпнатызуюць, зачароўваюць. Магчыма, мелодыі "чапляюць" беларусаў і на падсвядомым узроўні, абуджаючы генетычную памяць, бо шведская музыка — найбліжэйшы аналаг традыцыйнай беларускай, яшчэ не надта даследаванай. Здзіўляюць і дзіўныя інструменты, у якіх спалучаецца на першы погляд няспалучальнае (да прыкладу, струнна-ўдарныя). Некаторыя з іх старажытныя, вядомыя ўжо з XIII стагоддзя, некаторыя — вынайдзеныя і змайстраваныя самімі музыкамі. Не баяцца *Hedningarna* эксперыментаў і з электронным гучаннем: "З дапамогай электронікі можна атрымаць шмат захапляльных гукаў, і гэта само па сабе цікава", — тлумачыць Халбус.

Уражанне ад музыкі нямецкага гурта *Fidelius*, напэўна, было асабліва моцным, бо іх першае выступленне ў межах фэсту адбылося не ў канцэртнай зале ці клубе, а на ўлонні прыроды — падчас міжнароднага джэм-сэйшну пасля канферэнцыі на хутары Шаўловічы.

— Усе мелодыі, што мы выконваем, — аўтэнтычныя, — распавядае музыка гурта Дыега Шольц. — Шукаем забытыя песні ў бібліятэках і потым прапануем іх публіцы, па-новаму выкананыя з дапамогай старых інструментаў.

Часам музыкі працуюць над перакладам старых песень нямецкіх сорбаў, а іх мова падобная да беларускай. Польскі ж гурт *Open Folk* захапіў залу (яго канцэрт праходзіў ужо ў "Рэактары") чысцінёй і аўтэнтычнасцю гучання. І гэта не дзіўна, бо за такой стараннасцю і флегматычнасцю выканання хаваецца прафесійная звычка: некаторыя яго музыкі стала працуюць у польскіх аркестрах.

Інфарматыўнай і па-свойму захапляльнай атрымалася канферэнцыя "Захаванне дударскай традыцыі на ўсходзе Еўропы". Так, сябар "Дударскага клуба", даследчык Яўген Барышнікаў падзяліўся сваімі адкрыццямі. Ён знайшоў першыя каляровыя выявы дуды (сярэдзіна XIX ст.), выкананыя Рудольфам Жукоўскім. Унікальнымі з'яўляюцца выяўленыя даследчыкам звесткі пра тое, што пасля смерці Ілжэдзмітрыя І раз'юшаныя баяры паклалі на яго цела дуду са словамі: "Мы цябе забавілі, цяпер ты нас пазабаў". У гэтым выпадку дуда становіцца сімвалам улады Ілжэдзмітрыя І.

Яркім, запамінальным і феерычным стаўся апошні канцэрт фэсту, што прайшоў у сталічным "Рэактары". Выступленні майстроў дудовай музыкі з Германіі, Польшчы і Беларусі надоўга забяспечылі публіку станоўчымі эмоцыямі і надзвычай магутнай энергіяй фестывалю. Магчыма, яе хопіць нават да наступнага "Дударскага фэсту".

***На здымку: нямецкі гурт Fidelius выступае падчас джэм-сэйшну на хутары Шаўловічы.***

Алесь МАРЦІНОВІЧ,
фота Кастуся Дробава

# Каб менела ў гісторыі загадак



**З-за пастаяннай жыццёвай мітусні часам забываеш своечасова зрабіць штосьці важнае. Так атрымалася ў мяне летась з юбілеем Анатоля Мяснікова. Загадзя ведаў, што і ён ужо набліжаецца да свайго 60-гадовага рубяжа. Нават па тым ведаў, як ён часта тэлефанаваў, цікавіўся, дзе атрымаць тыя ці іншыя звесткі пра заробкі. Сёе-тое я яму падказаў, а вось павіншаваць з юбілеем забыўся. Успомніў, што А. Мяснікоў хутка павінен стаць "шасцідзясятнікам", толькі тады, калі ўбачыў яго ў нашым выдавецтве.**

— Слухай, — спахапіўся я, — а табе, здаецца, хутка 60?

— Было ўжо, — усміхнуўся Анатоль крыху хітравата, як гэта рабіў неадночы.

— І калі? — збянтэжыўся я.

— Ды яшчэ 15 чэрвеня.

— Прабач, — пачаў апраўдвацца я, бо з гэтага дня мінулася больш як тыдзень, — запамятаваў. Аднаго Анатоля павіншаваў, а пра цябе забыўся.

— То Бутэвіч на два гады старэйшы, — патлумачыў А. Мяснікоў, — яго і трэба першым віншаваць.

— Нічога страшнага, — знайшоўся я, — затое будзеш доўга жыць.

— Будзем, — упэўнена адказаў ён.

Толькі, на жаль, далёка не ўсё на гэтай старой і грэшнай зямлі залежыць ад нас. Праз два дні ўжо сорак дзён, як пайшоў А. Мяснікоў у вечнасць. Пайшоў, як той журавель, узмахнуўшы на развітанне крылом. Толькі гэтае крыло слабым было, бо не адзін месяц падточвала Анатоля страшная, невылечная хвароба. Ён змагаўся, як мог. Тым больш што спачатку з'явілася спадзяванне на тое, што ўсё абышлося.

Анатоль, радасны, забег да мяне ў рэдакцыю. Расказаў, што і да чаго.

— Праз тыдзень сустракаемся.

Я ведаў, што ён мае на ўвазе. Яшчэ на Дні беларускага пісьменства, якое летась ладзілася ў Хойніках, пасля таго, як атрымаў прэстыжную літаратурную прэмію "Залаты Купідон", задаволена паабяцаў:

— Абавязкова адзначым. Маю ж кандыдатуру вылучала секцыя крытыкі і літаратуразнаўства, якую…

Сапраўды, гэтую секцыю ўзначальваю я.

Аднак праз тыдзень мы так і не сустрэліся. І ніколі больш не пабачыліся. Дый размаўлялі апошні раз толькі ў студзені гэтага года, калі А. Мяснікоў удакладняў у мяне нумар хатняга тэлефона Міхася Мушынскага, каб павіншаваць яго з 80-годдзем. У адрозненне ад мяне, зрабіць чалавеку прыемнае ён ніколі не забываўся.

Тады ж, калі мінуўся "абяцаны" тыдзень, я і пачуў страшную навіну. Аказалася, Анатолевы аналізы паслалі яшчэ на праверку ў Бараўляны… У Бараўлянах жа, на жаль, рэдка памыляюцца.

Так і не сказаў я Анатолю ўсяго таго, што хацелася сказаць пра ягоную кнігу "Сто асоб беларускай гісторыі", за якую ён і атрымаў "Залатога Купідона". Яе так і не прарэцэнзаваў, думалася, у сяброўскай гутарцы гэта зрабіць вельмі зручна, зазначыўшы, наколькі яна цікавая і патрэбная. А што запатрабаваная, ён і сам ведаў: тыраж разышоўся вельмі хутка, таму давялося рыхтаваць другое выданне.

Наконт жа цікавасці "Сто асоб беларускай гісторыі" — то гэта як бы, прабачце за таўталогію, у адной асобе энцыклапедычны даведнік, які характарызуецца дакладнасцю, выверанасцю фактаў, але ж гэта і мастацкоўскі, месцамі эмацыянальны (асабліва калі А. Мяснікоў расказвае пра тых, хто сваёй дзейнасцю яму чымсьці вельмі імпануе) аповед, што набліжаецца да мастацка-дакументальнай прозы. І гэта пры тым, што аб'ём кожнага нарыса вельмі абмежаваны.

Такога прынцыпу ён прытрымліваўся і ў сваёй кнізе "Сто асоб беларускага спорту", якая, калі мець на ўвазе багацце фактычнага матэрыялу, у чымсьці нават выйграе ў параўнанні з папярэдняй. У першую чаргу з-за таго, што ў нашай краіне дагэтуль не існавала выдання, у якім бы так падрабязна расказвалася пра людзей беларускага спорту. Дарэчы, яго вельмі любіў і сам Анатоль. Шмат у якіх краінах пабываў ён, асвятляючы тыя ці іншыя спартыўныя спаборніцтвы міжнароднага ўзроўню.

Аднак не толькі гэтымі кнігамі важкі ягоны творчы багаж. А. Мяснікоў належыць да тых, хто першым пачаў узнімаць дзірван нацыянальнага бяспамяцтва, вяртаючы з небыцця постаці людзей, якія вельмі шмат зрабілі дзеля свайго народа. Гэта як дзеячы даўніх часоў, так і беларускія адраджэнцы першых дзесяцігоддзяў савецкай улады. У нарысе пра Л. Сапегу «"Айцец Айчыны" "залатога веку"» ён заклікаў: "Давайце, што называецца, глянем праўдзе ў вочы".

Анатоль Мяснікоў і глядзеў праўдзе ў вочы, паказваючы гэтага знакамітага дзеяча Вялікага Княства Літоўскага такім, які ён быў. Ва ўсялякім разе такім паказваў, якім бачыў яго, успрымаў сам. Адначасова і праторваў на цаліку шлях іншым — тым, хто зацікавіцца жыццём і дзейнасцю гэтага патрыёта Бацькаўшчыны, якога невыпадкова называлі "Айцом Айчыны". З прыцэлам на будучыню пісаў ён і пра Алеся Бурбіса ("Адкрыць вочы свайму люду…"), Дзмітрыя Прышчэпу ("Камісар землеробства"), Аркадзя Смоліча ("Беларус — грамадзянін будучыні…"), Антона Жэбрака ("Бессмяротнасць Хлеба і Чалавека"), Міхася Чарота ("Паэт-трыбун. Чалавек часу. Ахвяра рэжыму"). Са спадзяваннем, што іншыя, хто звернецца да гэтай тэмы, нешта ўдакладняць, дапоўняць. Прыглядаўся А. Мяснікоў і да вобліку аднаго з найвыдатнейшых дзеячаў савецкага перыяду, жыццё якога пакуль да канца не вывучана, — Аляксандра Чарвякова. Таму і назваў свой публіцыстычны досвед "Загадка Аляксандра Чарвякова".

Гэта ўсё постаці з кнігі А. Мяснікова "Айчыны верныя сыны". А перад гэтым была кніга "Нацдэмы", што прынесла яму вядомасць і за якую ў 1994 годзе быў ўганараваны Дзяржаўнай прэміяй Беларусі. Змест яе зразумелы з падзагалоўка: "Лёс і трагедыя Фабіяна Шантыра, Усевалада Ігнатоўскага і Язэпа Лёсіка".

Я далёкі ад думкі ставіць А. Мяснікова поруч з гэтымі знакамітымі людзьмі, але не магу не адзначыць, што повязь усё ж адчуваецца. Як і яны, ён гэтаксама глыбока верыў у шчаслівую зорку свайго народа, сваёй Бацькаўшчыны. І гэтаксама, як і яны, самааддана працаваў на той ніве, якая, быў перакананы, дасягне свайго лепшага росквіту дзякуючы і ягонай рупнасці. А зарэкамендаваў сябе А. Мяснікоў не толькі як пісьменнік, журналіст. Ён меў званне кандыдата гістарычных навук. Працаваў у "Чырвонай змене", каля трыццаці гадоў аддаў рэдакцыі газеты "Звязда", з'яўляўся прэс-сакратаром Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, галоўным рэдактарам часопіса "Гуманітарна-эканамічны веснік". Апошнім часам узначальваў кафедру Інстытута прадпрымальніцтва і парламентарызму.

У рукапісе засталася яшчэ адна Анатолева кніга — "Ад Рагвалода да нашых дзён", у жанравых адносінах пазначаная ім як летапіс беларускай гісторыі. Зноў жа пра лёсы самых знакамітых асоб Бацькаўшчыны. Калі яна ўсё ж пабачыць свет, то, думаю, лагічным завяршэннем яе магло б стаць слова і пра яе аўтара, які сумлена глядзеў праўдзе ў вочы і вучыў праўдзе нас, сваіх чытачоў. Цяпер, перанёсшыся туды, куды рана ці позна трапіць кожны з нас, ён ведае значна больш, чым ведаем мы, бо ведае тое, чаго ведаць на зямлі не дадзена. Аднак наша пазнанне нацыянальнай даўніны, беларускай гісторыі нашмат паглыбілася дзякуючы і ягоным кнігам, да якіх дапытліваму чытачу яшчэ звяртацца і звяртацца.

Раіса БАРАВІКОВА

# Сонечныя палянкі яе жыцця

**Сёлетняя вясна ў літаратурным асяродку пачалася з дзён жальбы… На творчым уздыме пайшоў у незваротны шлях выдатны беларускі пісьменнік Янка Сіпакоў, і так раптоўна не стала непаўторнай у сваім рознабаковым таленце Валянціны Коўтун, у што ніяк не хоча паверыць душа. І вось яшчэ адна страта: за свой далягляд на пачатку мая сышла з жыцця Ядвіга Юльянаўна Раманоўская, трапяткая і дужая галінка з моцнага Купалавага дрэва, пляменніца Янкі Купалы, якая з усёй любоўю свайго сэрца і так аддана, можна сказаць, на працягу ўсяго жыцця служыла магутнаму таленту нашага вялікага Песняра, нашай мове, ды і ўсёй літаратуры, пачынаючы з купалазнаўства.**

За гэтую любоў і адданасць, а яшчэ і за мудрасць, за мужнасць, за глыбіню душы, што развінулася перад людзьмі пачуццямі прыгожага, высакароднага Чалавека, яе любілі і паважалі пісьменнікі, ды і ўвогуле дзеячы ўсёй нашай культуры, хто меў магчымасць хоць адзінкава неяк з ёю кантактаваць [sic: хоць адзінкі нейкім чынам сутыкнуцца] з ёю на сцяжыне любові да генія айчыннай паэзіі. Пра што і спяшаліся выказацца творцы на юбілейнай вечарыне яе дзевяностагоддзя, якая яшчэ так жыва захоўваецца ў памяці. Сама ж Ядвіга Юльянаўна расказвала і пісала пра сябе надзвычай сціпла. Яна супрацоўнічала з рэдакцыяй у апошнія гады майго рэдактарства ў "Маладосці", напісала некалькі выдатных артыкулаў, і тыя нумары ўжо праз некалькі дзён немагчыма было набыць у кіёсках, яны разляталіся імгненна, а калі да аднаго з артыкулаў я папрасіла напісаць урэзачку, у якой бы яна расказала маладому чытачу пра сябе, дык атрымала на невялікай блакнотнай старонцы вельмі сціплы і сцілы тэкст, які захаваўся ў мяне: "Ядвіга Юльянаўна Раманоўская — музеязнаўца. Працавала ва ўпраўленні справамі Савета Міністраў БССР, у Дзяржаўным Літаратурным музеі Янкі Купалы (1960—2002). Удзельнічала ў стварэнні экспазіцыі музея і яго філіялаў. Аўтар шэрагу артыкулаў па купалазнаўстве, складальнік альбома "Янка Купала. Жыццё і творчасць" (1972, з І. Жыдовічам), зборніка "А хто там ідзе?" на мовах свету" (1993, з В. Рагойшам), юбілейнага календара "Янка Купала і Якуб Колас" і камплекта паштовак "Янка Купала" (1982). Да слоў "удзельнічала ў стварэнні экспазіцыі музея і яго філіялаў" я дадала ад сябе: сонечныя палянкі яе жыцця, і мяркую, што менавіта гэта было яе галоўнаю справаю, пра што яна няспынна думала і ў гэтых сваіх думках дбала да апошніх дзён жыцця…



*На здымку: Ядвіга Юльянаўна Раманоўская, 1943 г.*

З Ядвігай Юльянаўнай Раманоўскай я пазнаёмілася ў 1970 годзе, калі некалькі летніх месяцаў праходзіла пераддыпломную практыку ў рэдакцыі "ЛіМа". Тым летам упершыню наведала Купалаўскі музей, дзе і адбылося наша знаёмства. Пра тое, што яна пляменніца Янкі Купалы, дазналася з подпісу пад адным з музейных фотаздымкаў, і гэтая яе блізкая лучнасць з Песняром ужо тады прыўнесла ў мае адносіны да яе амаль магічнае жаданне нейкім чынам дакрануцца да Таямніцы: таленту, творчасці, жыцця вялікага паэта. Здаралася, што яна без усялякіх маіх пытанняў адчувала гэтае маё жаданне і тады, як быццам неўзнарок, нешта прыадкрывала… Так, скажам, на тытульнай старонцы апошняга перавыдання купалаўскай "Паўлінкі" (2006), якое я атрымала ад яе ў падарунак, яна зусім нечакана для мяне напісала: "…Па ўспамінах сясцёр Янкі Купалы: Ганны, Марыі і Леакадзіі (сапраўднай) прататыпам Паўлінкі была Ядвіня Гіляраўна Аўлачынская, якая жыла з бацькамі ў Вялікім Рубяжы недалёка ад Акопаў…"

Помніцца сямідзясятыя гады маёй працы ў "ЛіМе", потым — у "Алесі", былой "Работніцы і сялянцы", і ўсе яны пазначаны (няхай і нячастымі) сустрэчамі з Ядвігай Юльянаўнай: то патрэбна было тэрмінова інтэрв'ю з ёю, то фотаздымкі з музейных фондаў, то проста нейкае ўдакладненне, звязанае з жыццём і творчасцю Янкі Купалы… І яна заўжды ішла насустрач, ахвотна дзялілася ўсім тым, чым жыла яе душа, што захоўвала памяць. Праца яе ўлюбёнага ў наша Слова, у нашу літаратуру сэрца была працай на будучыню, на ўсе наступныя пакаленні, каб і там, у нейкіх далёкіх часах неўміруча гучала: "А хто там ідзе ў агромністай такой грамадзе? — Беларусы!.."

Яшчэ з мінулагодняй восені мы дамаўляліся з Ядвігай Юльянаўнай, што яна напіша ў "Маладосць" юбілейны артыкул пра Вязынку, пра тыя мясціны, дзе нарадзіўся вялікі Купала, і што я вазьму ў яе інтэрв'ю, праз якое яна раскажа пра многае… Было ў мяне і вялікае жаданне пазнаёміцца з яе бібліятэкай, з тымі аўтографамі, якія пакідалі асабіста ёй на сваіх кнігах самыя розныя пісьменнікі з розных краін свету. У тых аўтографах — і сусветная вядомасць Купалы, ды і ўсёй нашай літаратуры, яе шырокае прызнанне і захапленне ёю.

Свой артыкул "Родная нівы я мільённая часціна…" Ядвіга Юльянаўна напісала і перадала ў рэдакцыю "Маладосці", а вось з гутаркай я спазнілася, у чым сябе цяпер дакараю і дакараю. Нешта рэзка змянялася ў маім жыцці, даводзілася адкладваць сустрэчу, Ядвіга Юльянаўна прыспешвала, казала, што кепска сябе адчувае, я супакойвала, маўляў, усё будзе добра, жыццё паварочвае на вясну, а там лета… І вось замест гутаркі — гэтыя мае словы: развітання, смутку, жалобы…

Ці не ў 1992 годзе ў Акопах, дзе шчыравала цёплае лета, мы разам садзілі дрэўца… Тое дрэўца, напэўна, ужо стала вялікім дрэвам. Магчыма, і яно на той вечна сонечнай для беларусаў Палянцы схіляе цяпер сваё голлейка ў нізкім паклоне, як схіляемся ўсе мы, хто меў шчасце добра ведаць Ядвігу Юльянаўну Раманоўскую, — у паклоне памяці, пашаны і любові.

# «Заўсёды ж са мною твой воблік...»

**Банальнымі падаюцца словы: “Яго лёс цесна пераплёўся з лёсам цэлай эпохі”. Але лепш сказаць пра лёс класіка беларускай літаратуры, вядомага паэта, пісьменніка, публіцыста Максіма Лужаніна (Аляксандра Амвросьевіча Каратая), цяжка. Народжаны ў 1909 годзе, ён пражыў дзевяноста два гады. Рэвалюцыя, спроба будаўніцтва новага — сацыялістычнага — грамадства, рэпрэсіі, франты Вялікай Айчыннай вайны і мірнае пасляваеннае жыццё, перабудова — усё гэта закранула яго самым непасрэдным чынам.**



Таленавіты паэт стаяў ля вытокаў новай хвалі беларускага культурнага адраджэння 20-х гадоў мінулага стагоддзя, з'яўляўся членам пісьменніцкіх арганізацый “Маладняк” і “Узвышша”. Працаваў у рэдакцыі часопіса “Узвышша” (1930—1931), на Беларускім радыё (1931—1933). У 1933 годзе ён быў рэпрэсіраваны. Пасля вызвалення з 1935 па 1941 гады працаваў выдавецкім рэдактарам у Маскве. З пачатку Вялікай Айчыннай вайны — у Чырвонай Арміі. Скончыў Падольскае пяхотнае вучылішча, удзельнічаў у баях пад Сталінградам, быў цяжка паранены. Пасля дэмабілізацыі (1944 год) працаваў у рэдакцыях газеты “Звязда” і часопіса “Вожык”, рэферэнтам АН БССР. З 1959-га — член сцэнарнай калегіі кінастудыі “Беларусьфільм”, з 1967 года па 1971 — галоўны рэдактар кінастудыі.

Пра яго творчасць напісаны манаграфіі, артыкулы. Але самай недаследаванай часткай засталіся яго асабістыя архівы. І, у прыватнасці, яго лісты: да сяброў, родных і, галоўнае, да каханай жанчыны і жонкі — Яўгеніі Пфляўмбаўм, з якой яны пражылі доўгае-доўгае жыццё. Яны амаль аднагодкі — яна нарадзілася ў 1908 годзе.

Яўгенія Эргардаўна таксама паэт. Упершыню вершы васямнаццацігадовай Яўгеніі Пфляўмбаўм былі надрукаваны ў 1926 годзе ў калектыўным зборніку. Потым яна выйшла замуж за Аляксандра Амвросьевіча, і больш ніхто ніколі не чуў пра такую паэтку. І, тым не менш, у Яўгеніі Эргардаўны нараджаліся вершы, якія яна запісвала дзесьці на сшытках, лістках, асабліва не клапоцячыся, каб іх выдаць. Але адбыўся цуд: зборнік яе вершаў — “Сувой жыцця” — убачыў усё ж свет — калі ёй было ўжо за восемдзесят.

Ёй выпаў інакшы лёс — быць Музай паэта. Гэтае сваё прызначэнне яна несла з годнасцю, дапамагаючы мужу і падтрымліваючы яго ў самыя цяжкія перыяды жыцця. І калі паэт быў высланы ў Сібір, Яўгенія Пфляўмбаўм прадала хатнюю бібліятэку з унікальнымі выданнямі і паехала за мужам. Працавала настаўніцай у вясковай школе, і ў любое надвор'е, у моцны мароз, завею або дождж, прабіралася да лагера, каб перадаць мужу што-небудзь з прадуктаў, хоць сама галадала. Там і моцна прастудзілася, страціўшы здароўе.

Пасля вяртання з Сібіры сям'я паэта засталася ў Маскве, дзе жылі бацькі Яўгеніі. З 1935 па 1941 год Максім Лужанін працаваў выдавецкім рэдактарам у Маскве, Яўгенія ўладкавалася на працу ў “Оборонгиз”...

Захавалася вялікая перапіска мужа і жонкі — пажоўклыя лісты, лісцікі, напісаныя на пісьмовым стале, у вагоне цягніка алоўкам, ручкай. Некаторыя радкі ўжо не чытаюцца — з цягам часу яны выгаралі, сцерліся. Але самае галоўнае дайшло да нашых дзён — іх неадольнае жаданне гаварыць адно з адным. У лістах — гісторыя іх кахання, сустрэч і расстанняў, няўлоўнае дыханне таго часу.

**У 6-м нумары часопіса “Нёман” упершыню будзе апублікавана частка перапіскі Максіма Лужаніна і яго жонкі Яўгеніі Пфляўмбаўм, якая ахоплівае 1930-я — сярэдзіну 1940-х гадоў. Арыгіналы лістоў захоўваюцца ў аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН Беларусі.**

**Таццяна КУВАРЫНА**



**Максім Лужанін — Яўгеніі Пфляўмбаўм**

* * *

*15.05.1932*

Год, здаецца, не бачыў, не пісаў табе. Дзве гадзіны, а я толькі прыйшоў з твае мясціны (...)

Прыехалі а 12-й. А ўчора зваліўся адразу ад зморы на ложак. 300 кіламетраў хоць і на добрай машыне, але цяжкавата праехаць. Заўчора Дасовічы, учора Прапойск, сёння Быхаў.

І не спіцца, і сніцца дурное і зайцы бягуць на дарогу на агонь, скачуць — дурныя — перад коламі. А машына бярэ свае семдзесят кіламетраў. Вязе мяне то бліжэй, то далей ад цябе. А то сцішацца мае спадарожнікі і адчую цябе са мною, там дзе атаўбавалася ты перад выездам. Маленькая такая. (...)

Калі ляціць у твар сонца і паветра, разрываецца напал зялёнае палотнішча — адступаюць з абодвух бакоў лясы ўздоўж шашы, — з'яўляецца дзіўнае адчуванне жыцця, адчуванне Хуткасці.

Дзіўна й добра.

І шкада што не адчуваеш гэтага ты.

Пісаць шмат чаго. Я не бачыў даўно вёскі. І цяпер самы цікавы і адказны момант. Поле павінна быць засеяна. Калгас павінен існаваць. Дзе-нідзе чутны стрэлы. Гарачь вогнішчы пры дарогах. У бальшавікоў новая вайна, новы фронт. Бальшавікі павінны выйграць. І вось цяпер мацней я прылучаюся, адчуваю сябе неадрыўнай часцінкай гэтай дужай арміі. Я казаў табе неадноймчы, што шчаслівы тым, што жыву гэтым часам. Такой вастраты ніхто не бачыў дасюль і не ўбачаць нашчадкі, для якіх ідзе гэтая вайна, для якіх мы будуем свет.

Рана засынае горад. Усё спіць. І ты спіш, баішся, трывожышся. А я сёння бачыў мора. Кіламетраў дзвесце вады на лугах пад Быхавам. Шырок Дняпро. Прыгож Дняпро. (…) А пры дарозе белыя, белыя цвітуць калакалушы. Стаяць думаюць. Глядзяцца ў ваду.

І думаю я. Думкі да цябе, пра цябе. І недзе нітуюцца думкі нашы. Нейкаю новаю ўстае істота.

Заўтра ўбачымся. А потым ізноў кіламетры. Зноў неба, зноў сонца. Гэткае сонца будзе разам. Дужэць. Узрастаць.

Раскіданы мой ліст. Мабыць таму, што думак шмат. Прыеду, усе аддам табе...

* * *

[Без даты]

Маленькае, кволенькае маё Дзеўчанё! Жэнік!

Паслаў табе вестачку ўчора, а хіба ці сёння горшы дзень, хіба сёння не хочацца пагаварыць, прыхінуць, прыклікаць малую сваю блізка-блізка. (...)

Хочацца нешта сказаць малой маёй, раскрыць сябе і схавацца самому ў словах добрых, харошых. Праўда?

На Віцебскім бульварчыку гарадь кляны, унізе павольнаю хцівасцю ідзе Дзвіна, а я думаю, дзе буду заўтра? І, мінаючы свядомасць, прыгадаць адказ: з табою. Так. З табою. Як учора і сёння. Як кожны дзень. (...)

Як здароўе, праца? Маё добра. Праўда, змораваюся і не зусім здаволены, але на месцы не сяджу.

Я нясу і шлю табе радасці(…).

Я хачу табе спакойнай ночы і яркай — сонцам у вочы — раніцы.

* * *

**Шуміліна,** *24.09.32*

…Я між зямлёй і небам. На трэцяй паліцы вагона гарыць свечка, на ніжняй спяць мае таварышы, а на другой сяджу я…

Мне толькі паслалі пасцель, добрую, чыстую.

Ноч змывае з думак і з самога прыкры налёт надзённага. І я іду да цябе проста, як дзіця, чысты, як тады, калі першы раз пабег па тваіх слядах, калі пачыналася зіма, калі прыблукаўся я ў бібліятэку.

Тут трэба слова. Слова, якім азначаецца ўсё, гэтая змоўная згода даваць праз вякі з даўным-даўна, — гэтае слова я не магу сказаць. Я знаю, што (…) у мяне яно новае, вялікае, як усё, што жыве да цябе і што ноч памагае сказаць гэта.

* * *

*25.09.32*

...Гэты час зноў называецца ноч. Гадзіннік зноў паказвае палавіну адзінаццатага. А тут магу я заснуць, не пабыўшы з малою маёй хоць маленькую адну-адненькую хвілінку? І насуперак ночы і адлегласці я бяру гэтую хвіліну. Удзень у чалавецкай сумяціцы, як заўсёды, не магу я супакоіцца, усё чакаю цябе самнасам. (...)

Гэта няпраўда, што мяне адцуралася слова. Я знаю, я адчуваю звон ягоны і адчуваю дужасць (...) з ім. (...)

Аддам табе і ўсіх людзей, і ўсе краіны, што жывуць ува мне. Дужых і кволых, палкіх і сцюдзёных, усіх іх пачуеш ты. Можа тады апраўдаецца жыццё. Калі чалавек ухопіць столькі — ён будзе жыць.

Тварыць жыццё і даваць жыццё гэта ўвесь пласт чалавека. І разам, і паасобку гэта дае паўнату.

Сніліся слаўныя спакойныя сны, пасля, калі пагаварыў учора з табою. А пад раніцу нешта ніякавае прычудзілася. Думаў, — што станецца? Ажно Ілярыя ўбачыў. Гэтым і абышлося.

А якая прыкрая рэч мана! Галоўнае, гэта сумленнасць думкі, слова. Калі думка можа расказаць ўся ў словах (...).

Толькі мусіць, не тое я пішу табе, маленькая. Гэта прыйдзе з новым чалавекам. Цяпер нам трэба шмат мыць і апранаць рэспубліку, вякамі забруджаную краіну.

Я буду шчаслівы, калі нашчадкі запомняць, што адзін метр рэспублікі ахаяў я. Самога сябе ахаяў, зрабіў ясным шлях, вывеў на яго сябе. Калі здужаю зрабіць большае — маё, а не здужаю — буду шчаслівы тым, што не маю плям.

Не хачу сёння класціся…

* * *

02.11.33 г.

Спіць чыгунка… Народ спіць, супакоіўшыся, пасля “трудов земных”… Гадзін каля дванаццаці. Я ўжо крыху спаў з вечара, а цяпер карыстаюся з цішыні, святла і супакою. Жывецца тут нядрэнна, працуецца не цяжка, ёсць усмак і (…), пакуль выстарчае, тугавата з жыллём, але я мяркую, што гэта ўсё ўмовы перасыльныя, так што значыцца будзе ў лепшы бок. Зімы, кажуць, з вялікімі маразамі, але пераносяцца лёгка, у чым я ўжо меў магчымасць пераканацца. Наогул, усё выглядае здалёк куды страшней, як гэта бывае на рэчы. Так вось і з Сібірам, і з далеччу… Пэўне, мне памагае бадзёрасць і вера ў лепшае, але ва ўсякім разе, я не перабольшваю. З запасам жыццёвай энергіі людзі не гінуць, калі не апускаюцца, а я наўздзіў здароў і да злёту ўніз сябе ніколі не дапушчу, незалежна ад умоў. Заўсёды ж са мною твой воблік, бясконца родны, і бадзёрыць, і ўздымае, і трымае. Я хачу жыць, і значыць буду жыць, назаўсёды ахінуўшы цябе і ад трывогі, і ад злых жыццёвых вятроў. Не магу ж я вінаваціць рэспубліку ў тым, што яна не паверыла маёй працы. (…)

**Яўгенія Пфляўмбаўм — Максіму Лужаніну**

* * *

Пішу зараз жа, не адрываючыся ад твайго ліста, каб заспець цябе яшчэ ў Новасібірску, каб ты пачуў мяне.

Так чакала гэты ліст твой штодня, штоночы, а зараз вось яшчэ рукі дрыжаць, атрымаўшы, як у хворай, а я ж здаровая і дужая цяпер.

Дзве паштоўкі твае атрымала. Увесь час гэты турбавала адно: едзеш ты ў холад без мяне, без цёплай курткі, без грошай? Адно радасна, што дужы ты, малады і твая харошая ўпэўненасць працягвае мне рукі.

Я маю пашпарт. Назаўтра, пасля твайго ад'езду атрымала. Скрозь ветлівае адмаўленне. Трэба выязджаць. Каб ты стала застаўся ў Новасібірску — я зараз жа рушыла б туды. З кватэраю ўладзілася б. Там ёсць знаёмыя. Калі цябе перашлюць далей — гэта не страшна — я ўсё роўна паеду. У такім плане ты і паведамляй мне свой сталы адрас і магчымасці.

Так трэба бачыць цябе бліжэй хоць на сотню кіламетраў. Ростані ў нас няма. Ты ж гэта разумееш. Мы зрабіліся гэткія блізкія, як ніколі, нідзе, нават у лятунку. (...)

Ад Міхаіла Іванавіча Калініна ягоны сакратарыят праслаў мне ліст. Пытаюцца пра твой адрас і пра тое, кім ты асуджаны. На другое пытанне я адказала таго ж дня. На першае адказваю зараз.

Чаму ты не праслаў заявы? Яна патрэбна таксама.

Трэба, каб на з'езд пісьменнікаў у маі 1934 года ты меў мандат. Так? Гэтую першую мэту мы сабе і паставілі. І мандат заслужаны ўсім сумленнем тваім і беззаганнаю думкаю.

Радасць гадую для цябе заўжды. У вачах, у руках. У песню найлепшую. Усё гэта для цябе — беззаганнае і яснае (...) Гэтым і дужэю.

Дакументы твае пры мне. Рэшту здабуду. Будзь спакойны і глядзі сябе, як ніколі дасюль. Было б дужа добра, каб пакінулі цябе ў Новасібірску. Вітаю цябе з блізкім нашым святам Кастрычніка. Зычу ўсе так ж дужасці, узгадаванай гэтым днём.

Сёння раніца першага снегу. Я ведала, што ты прывітаеш яе здалёк. І вось твой ліст. Як радасна жыць маючы цябе і тваю песню ў нашай краіне. Хутка дзень тваёй і майго нараджэння. Ад іх, гэтых дзён, і пачнём нашае жыццё спачатку. (...)

Будзь здаровы і радасны як у лета наласа сонца!

Жэня.

Ірына ТУЛУПАВА

# Зацвітае кветка «Першацвет»

**Тое, што ў адной школе суседнічаюць два буйныя мастацкія калектывы — само па сабе падзея. Ансамбль беларускай народнай песні “Кветкі” і харэаграфічны гурт “Першацвет” у агульнаадукацыйнай сярэдняй школе № 71 г. Мінска як візіткі. Узорны калектыў і той, хто толькі збіраецца здаваць “экзамен” на званне ўзорнага, раскашуюць у сваім першародным майстэрстве: паказваюць народную культуру Беларусі.**

Ансамбль беларускай народнай песні “Кветкі” заснаваны ў 1990 годзе. Цяпер у ім больш як 20 удзельнікаў. Праўда, яны мяняюцца: хтосьці заканчвае школу, хтосьці толькі прыходзіць у першы клас. А кіраўнік Вікторыя Масцепан — настаўніца спеваў. Сабраліся на занятkі — і не заўважылі, як усе раптам сталі сябрамі, самастойна па некалькі разоў на тыдзень пачалі хадзіць на спеўкі, вывучаць калядныя песні, песні-гуканні вясны — вучаць цэлымі цыкламі! Фальклорныя песні, з глыбінь народных, дзеці спяваюць ахвотна, прычым, нават малодшага школьнага ўзросту, трэцякласнікі. Рэпертуар ансамбля складаецца з твораў а капэла, твораў з музычным суправаджэннем і беларускіх народных песень у сучаснай апрацоўцы.

Кіраўнік сама піша аранжыроўкі, збірае рэпертуар, наладжвае канцэрты і выезды на міжнародныя фестывалі. Цяпер спевакі-школьнікі ўдзельнічаюць у дабрачынных канцэртах і канцэртах з нагоды пэўных дат у суседніх школах, выступаюць на раённых, гарадскіх, міжнародных пляцоўках. Супрацоўнічаюць з кафедрай філалогіі БДУ. Акрамя спасціжэння мовы становіцца ўдзельнікамі студэнцкіх мерапрыемстваў: Тыдня беларускай мовы, Дня маці.

У 2003 г. ансамбль “Кветкі” быў удастоены ганаровага звання “ўзорны”, а ў ліпені 2010-га заняў другое месца на Міжнародным харцэрскім фестывалі культуры школьнай моладзі (Рэспубліка Польшча).

Абавязкова паралельна з выкананнем песень у агульную канву ўпляталіся вывучэнні гульняў, карагодаў, танцаў…

Разам з настаўніцай харэаграфіі, якая кіруе танцавальным ансамблем “Першацвет”, яны супольна выязджаюць на гастролі, разам прэзентуюць культуру Беларусі. Хаця кожны можа прэзентаваць асобную праграму: толькі харэаграфічны ансамбль дае каля 55 канцэртаў у год! У рэпертуары — “Тапатуха”, танец лялек, паланэз, рускія і літоўскія, польскія скокі, чэшская полька.



Памяняўся час — памяняліся падыходы да свят.

Прыходзячы з глыбінь стагоддзяў у XXI век, народныя песні і танцы могуць захоўваць сваю самабытнасць. Але існуе і рэальная небяспека зрабіць нават іх надта камерцыялізаванымі — попыт на народную культуру паўсюль павышаны, і часта да яе далучаюцца дзяклі, якія арганізуюць тэатралізаваныя відовішчы-шоу, і выхалошчваюцца тыя элементы, якія з’яўляюцца карэннымі ў традыцыі. Вось пра яе і пачынаюць гаварыць настаўнікі сваім дзеткам са школы, акцэнтуючы ўвагу на сапраўдным, народным, тым, што становіцца пасля вызначальным і фарміруе ўяўленні пра нас, таму што з’яўляюцца адметнымі менавіта і толькі ў Беларусі.



Цяпер актыўна дыскутуюць наконт таго, ці варта правадзіць аранжыроўку народных спеваў, музыкі, і падыходзяць да гэтага вельмі ашчадна, каб не згубіць аўтэнтычнасць. Ці патрэбна маладым такая сучасная інтэрпрэтацыя? “Дзеці, насамрэч, мала ведаюць, і асабліва ж калі прыходзяць у першы клас, гэта можа быць цяжкавата для ўспрымання”, — дзеліцца сваімі назіраннямі Вікторыя Масцепан. Настаўніца дадаткова расказвае вучням, якія ёсць каляндарныя святы і каляндарна-абрадавыя песні, прымеркаваныя да гэтых дзён.

Але для больш грунтоўных ведаў патрэбны і аўтэнтычныя інструменты, якія школе знайсці цяжка. Неабходна дуда — выкладчыка па дудзе, які б мог паказаць, як на ёй іграюць, няма; патрэбны жалейкі і дудкі. “Я ўсё гэта ўлічваю, і часам спяваем аўтэнтычным гукам (прыкладам, густым, прыглушаным), — удакладняе Вікторыя Масцепан. — У кожнай жа мясцовасці і свая манера выканання. Мы не можам усё так дакладна перадаць. Штосьці спяваем не адкрытым галосным спевам, а па-іншаму. Я ўсё гэта вывучала ў Беларускім дзяржаўным універсітэце культуры і мастацтваў, нам кіраўнік паказваў і тлумачыў, што і для якой мясцовасці характэрна. Што — для Панямоння, альбо цэнтральнай, заходняй, усходняй Беларусі.

Што прыўносіць танец у беларускую песню?

На гэта пытанне адказвае кіраўнік “Першацвета” Наталля Шыманец. “Калі калектыў, які спявае, фальклорны, задача танца — упрыгожыць яго адпаведным прыгожым, годным выглядам. Каб склаліся агульны вобраз, пастаноўка. Беларускі касцюм пры гэтым згадваецца і прымаецца імгненна. Вырабляць касцюмы дапамагаюць бацькі. Бяруць для гэтага рэчыцкія ручнікі, вар’іруюць імі, як могуць. Альбо купляюць аршанскі лён — дарагіх тканін школа сабе дазволіць не можа. Атрымліваецца простая жыццёвая казка пра пераўвасабленне прынцэсы ў беларускую панну”.

Харэаграфічны ансамбль супрацоўнічае з украінскімі самадзейнымі артыстамі. Калегі адзначылі выключна арганічныя пераходы беларусаў з аднаго сцэнічнага малюнка да наступнага. Вельмі спадабалася такая інтэрпрэтацыя беларускага выканання гледачам у Польшчы. “Першацвет” распраўляў свае каляровыя “пялёсткі” на фестывалях народнай творчасці “Сузор’е”, самадзейных харэаграфічных калектываў “Чароўны туфлік” ды іншых.

Не дзіва, што сярод удзельнікаў ёсць тыя, хто звязвае сваё далейшае жыццё з харэаграфіяй.

***На здымках: вітае “Першацвет”; такія разнаколерныя “Кветкі”.***

## Афарызм

*Каханне робіць цёплым існаванне на зямлі.*

**Уладзімір КАРАТКЕВІЧ**

## З глыбінкі

# Бібліятэкар — сувыдавец

У мястэчку Юрацішкі Іўеўскага раёна ў гарпасялковай бібліятэцы адбылася прэзентацыя кніг сталічных выдавецтваў для работнікаў бібліятэк Гродзенскай вобласці.

Бібліятэкараў можна без нацяжкі назваць яшчэ і сувыдаўцамі: як правіла, бібліятэкі атрымліваюць ад выдавецтваў поўную інфармацыю пра тое, што рыхтуецца да друку, і паведамляюць свае меркаванне ў выглядзе канкрэтных заявак або проста парады. Прадстаўнікоў выдавецтваў “Вышэйшая школа”, “Народная асвета”, “Беларусь”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”, “Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі”. Алег Шукела, Кастусь Плаўнік, Марыя Маёрчык, Ала Корбут і Ніна Бачыла цікава распавялі пра тое, што прывезлі, вылучыўшы, на іх погляд, найбольш характэрнае, прывабнае. У адных гэта ажыццёўленыя новыя праекты навучальнай літаратуры, у другіх — энцыклапедыі, слоўнікі, атласы па гісторыі Беларусі, у трэціх — кнігі вядомых празаікаў і паэтаў Беларусі, у тым ліку творы для дзяцей.

Звяртаючыся да выдаўцоў, дырэктар Гродзенскай абласной бібліятэкі імя Я. Карскага Лідзія Васільеўна Мальцава сказала:

— У вобласці налічваецца каля пяцісот бібліятэк. Гэта вашы саюзнікі, там працуюць людзі, зацікаўленыя ў лепшым, што сёння ствараецца пісьменнікамі, гісторыкамі, асветнікамі. Сённяшняя сустрэча, безумоўна, умацуе нашы творчыя сувязі.

Падобныя сустрэчы выдаўцоў з бібліятэкарамі з мэтай прапаганды кніг і плануецца зрабіць рэгулярнымі.

**Сяргей ЮР’ЕЎ,**
***Юрацішкі***

# Руплівага сейбіта плён

Цёплая творчая сустрэча была арганізавана супрацоўнікамі Быхаўскай раённай бібліятэкі ў СШ № 1 з паэтам, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі Аляксандрам Казекам.

Вядучая Аксана Дрозд расказала пра жыццёвы і творчы шлях паэта. Вельмі цікава выступаў сам Аляксандр Мікалаевіч. Ён узнёсла чытаў свае вершы, шчыра адказваў на пытанні вучняў.

Вялікую ўвагу паэт у сваёй творчасці надае родным мясцінам, адлюстраванню жыцця сучаснай вёскі, прыгажосці прыроды. На працягу ўсёй сустрэчы дэманстравалася мультымедыйная прэзентацыя “Неверагодная прыгажосць роднай зямлі” з краявідамі вёскі Чачэвічы. Таксама вучні мелі магчымасць паслухаць песні, напісаныя на вершы А. Казекі. У запісу гучалі песні “Беларусь мая родная”, “Медуніца” “Зязюля”, “Калыбельная” ў выкананні Галіны Сёлінай і Міколы Яцкова.

**Галіна СУПРАНКОВА,**
***Быхаў***

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”, РВУ “Літаратура і Мастацтва”
Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ



Юрыдычны адрас: 220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, п.4а
Адрас для карэспандэнцыі: 220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны: галоўны рэдактар — 284-84-61; намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы: публіцыстыкі — 284-66-71; крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04; прозы і паэзіі — 284-44-04; мастацтва — 284-82-04; навін — 284-44-04, 284-66-71; аддзел “Кніжны свет” — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72; Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на “ЛіМ”. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп’ютарнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку” г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 3052
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 26.05.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 2430
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12